дзялілі шлюбны ложак, але калі склалі свае тастаменты ў адным і тым жа натарыяце ў красавіку і лістападзе 1666 года, то настойвалі на вечным спакоі ў асвечанай зямлі заклятых ворагаў, што месціліся насупраць адзін аднаго крыху ніжэй Вострай Брамы. Ён – ва ўніяцкай царкве Святой Тройцы, яна – у праваслаўнай царкве Святога духа. Такім чынам, пара была згодная перакрочыць канфесійныя межы у шлюбе, але не ў смерці.[16]

## Смерць і пахавальныя абрады

Чысцец, як частка рэлігійнай дактрыны, мусіў мець прамы ўплыў на практыкі падрыхтоўкі да смерці, хаўтураў, пахавання і далейшых стасункаў паміж жывымі і мёртвымі. Прынцыповае адрозненне палягала ў тым, што пратэстанты адмаўлялі дзейснасць такіх практык, бо, па іх перакананнях, хрысціянін знаходзіць апраўданне толькі ў веры, праз незаслужаную Боскую ласку. Лютэране і кальвіністы, ды некаторыя палемісты даказвалі, што чысцец гэта рымска-каталіцкая інавацыя і няма патрэбы ў малітвах (і аплаце службаў) за душы памерлых, бо яны не прыносяць карысці. Рыма-каталікі ды ўніяты (а фактычна і праваслаўныя) прытрымлівалася супрацьлеглага погляду – існуе пэўнае "трэцяе" месца, хаця яно магло мець розныя назвы і не абавязкова звязвалася з ачышчальным агнём. У выніку, служба за супакой душы і іншыя літургіі ды малітвы за памерлых былі важнай часткай жыцця, пэўнай практыкай, якую людзі адзначалі ў сваіх тастаментах.[17]

Менавіта праз тастаменты і інвентары мы можам пацвердзіць наша меркаванне, што віленскія католікі верылі ў чысцец, а русіны, якія не выкарыстоўвалі назвы чысцец ды ачышчальны агонь, тым не менш, разважалі ў катэгорыях прамежкавага месца ці стадыі паміж смерцю і патрапленнем у пекла/рай. Усе яны – каталікі, уніяты і праваслаўныя – верылі ў дзейснасць скіраванай да Бога, Хрыста, Дзевы Марыі і святых малітвы жывых за душы памерлых. Віленцы-каталікі без сумневу захавалі традыцыйную практыку: мёртвыя і жывы з'ядноўваліся ў абрадах святых таемстваў, саборавання, споведзі грахоў, часам службы, чытання пакаянных псалмоў, і, вядома, малітвы святароў, міран, сям'і і сяброў за душы памерлых. Са структурнага пункту гледжання практыка была вельмі падобная на ўніяцкую і праваслаўную: спавяданне і дараванне грахоў, літургія. І наадварот, пахавальныя рытуалы пратэстантаў Вільні – як гэта адлюстравана ў цырымоніях і запісах апошняй волі ў тастаментах – былі значна больш стрыманымі, значна менш увагі надавалі перазвону ў царкве і не захавалі сведчанняў веры у дзейнасць малітваў за памерлых. Пратэстанту належала памерці ў спакоі, заснуць у смерці, як згасае полымя свечкі, упэўненым ў сваёй веры ў Боскую ласку.

І тым не менш, тыя самыя дакументы паказваюць пэўны сінкрэтызм, існаванне часам агульнага, характэрнага для ўсёй Вільні, стаўлення да смерці. Пахавальная пропаведзь

16 Пра саюз Курыловіч-Атрашкевіч і крыніцы гл.: Frick 2013, 209–210, 212–213.
17 Пра смерць у розных канфесіях Вільні XVII стагоддзя гл.: Frick 2013, глава 14.

магла быць асаблівасцю лютэран, але кальвіністы, рыма-каталікі, уніяты і праваслаўныя ўсё часцей імкнуліся пераймаць гэту практыку.

Верагодна, існавала агульная тэндэнцыя хаваць на трэці дзень смерці. Гэта, відавочна, было ўласціва і віленскім лютэранам, якія ў іншых гарадах праводзілі пахаванне раней. Кальвіністы ў швейцарскіх гарадах хавалі практычна адразу, у прамежку паміж 12 і 24 гадзінамі, але ў Вільні яны, як падаецца, пераймалі практыкі сваіх лютэранскіх суседзяў. Запісы ў інвентары пра царкоўны перазвон паказваюць, што рыма-каталікі праводзілі пахаванні на трэці дзень пасля смерці. Магчыма, віленскія русіны трымаліся падобнага ўзору. Насуперак практыцы Кальвіна ў Жэневе, нават віленскіх прыхільнікаў рэфармацыі часам апускалі ў магілу пад царкоўны перазвон, спевы гімнаў і малітвы.

Выказванне волі на смяротным ложку дазваляе зазірнуць у тое, што асобныя віленцы лічылі сваёй супольнасцю. Частка, з заўвагамі ці без, абмяжоўвала свае пасмяротныя дараванні адной канфесіяй. У сваім тастаменце 2 ліпеня 1689 года праваслаўны купец Павел Касабуцкі (Paweł Kossobucki), які жыў на Гандлёвай плошчы, вызначыў, што ягоныя дараванні русінскім установам па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім мусяць быць абмежаванымі толькі тымі, што былі *“праваслаўнымі і не былі ў Уніі [з Рымам]”*. Гэты выпадак нетыповы з двух прычын: большасць даравалі не адной канфесіі, большасць абмяжоўвалі дараванні Вільняй і эпізадычнымі невялікімі дараваннямі ў іншых мясцовасцях, шчыльна звязаных з сям’ёй.[18]

Каралеўскі сакратар і бургамістр Стэфан Карась (Stefan Karaś) быў рыма-католікам, які жыў у сямейным доме на Конскай вуліцы (8.05). У тастаменце, напісаным 22 лютага 1684 года, ён пазначыў дараванні выключна рымска-каталіцкаму касцёлу і выключна ў Вільні (тут ён быў бліжэй, чым Касабуцкі, да мясцовай нормы). Нягледзячы на шчыльныя і відавочна сяброўскія сувязі з русінскім атачэннем Конскай вуліцы, – яго дом стаяў побач з домам уніяцкай сям’і Салцэвіч (Salcewicz), таксама меліся шчыльныя сувязі з уніятамі Агурцевічамі (Ohurcewiczes) – дараванні ён пакінуў выключна рымска-каталіцкім установам, раскіданым па ўсім горадзе.[19]

Некаторыя рыма-каталікі пакідалі дараванні як сваім цэрквам, так і ўніяцкім. Рыма-каталік бургамістр Мікалай Клічэўскі (Mikołaj Kliczewski) жыў на вуліцы Субач. Нягледзячы на знаходжанне ў шчыльным русінскім атачэнні, кола яго сям’і было пераважна рыма-каталіцкім і ўключала Гаўлавіцкіх (Gawłowickis) і Шперковічаў (Szperkowiczes). Магчыма, менавіта шчыльныя сувязі з суседзямі прывялі да ўключэння ў схему русінаў. На колькі я магу сведчыць, ён уключыў да свайго перадсмяротнаага даравання толькі адну каталіцкую і адну ўніяцкую ўстанову ў горадзе ды прадмесці, абмішуўшы праваслаўныя, лютэранскія і кальвінісцкія цэрквы і шпіталі.[20]

18 Пра Касабуцкага гл.: Frick 2013, 391.
19 Пра Карася гл.: Frick 2013, 391–392.
20 Пра Клічэўскага гл.: Frick 2013, 393.

Іншыя размяркоўвалі дараванні больш шырока, перасякаючы бачныя канфесійныя межы, але зноў абмяжоўваючыся мясцовымі ўстановамі. Як і ў выпадку змяшаных шлюбаў, найбольш дзіўнае спалучэнне прадугледжвала дараванні выключна русінскім установам Вільні – і ўніяцкім, і праваслаўным, але абмінанне рымска-каталіцкіх і пратэстанцкіх. Праваслаўны гандляр Сямён Якубовіч Чаплінскі (Siemion Jakubowicz Czapliński) стаў прадстаўніком грэцкай часткі кіраўніцтва купецкай гільдыі пры яе фармаванні ў 1602 годзе. Ён жыў у доме на ўсходнім баку Гандлёвай плошчы (4.03) і напісаў сваю апошнюю волю ды тастамент 3 чэрвеня 1630 года. Такім чынам, яго дарослае жыццё праходзіла на фоне спрэчак, звязаных з увядзеннем Берасцейскай уніі, калі Вільня была сцэнай гвалтоўных сутычак і вайны палемічных памфлетаў. Чаплінскі памёр да таго, як Уладзіслаў IV прызнаў праваслаўную іерархію і прапанаваў адносна мірны кампраміс. Тым не менш, яго перадсмяротная дараванні былі на карысць абедзвюх "грэцкіх" рэлігійных канфесій. Ён папрасіў пахаваць яго "ў адпаведнасці з хрысціянскім абрадам у [праваслаўнай] царкве Святога Духа" і ахвяраваць належную суму гэтай інстытуцыі, але таксама пакінуў грошы ўніятам, *"пад умовай, што айцы царквы Святой Тройцы будуць пастаянна … публічна і ў прыватным парадку маліць Бога за [выратаванне] маёй душы"*.[21]

Калі рыма-каталікі і праваслаўныя рабілі дараванні нямоглым і бедным, то гэта сведчыла не толькі пра акт дабрачыннасці. Чакалася, што атрымальнікі шчадротаў дададуць свае галасы да хору малітваў. А што можна сказаць пра пратэстантаў? Гандляр-лютэранін Пётр Клет жыў на вуліцы Св. Яна *"недалёка ад шатландцаў"*, што павінна адсылаць да "шатландскіх крамаў", насупраць якіх на Замкавай вуліцы (1.26) стаяў сямейны дом кальвіністаў Дэсаўсаў (Desaus), але ён таксама валодаў другім домам у лютэранска-габрэйскім асяродку Шкляной вуліцы. 9 лютага 1667 года Пётр Клет падпісаў тастамент, у якім прасіў, каб яго грэшнае цела *"было пахавана ў адпаведнасці з [палажэннямі] аўгсбургскага веравызнання ў звычайным месцы па хрысціянскім абрадзе"*. Ён накіраваў грошы *"нашай царкве аўгсбургскага веравызнання"* і шпіталю пры ёй, але таксама дараваў двум рыма-каталіцкім цэрквам, і менавіта для таго, каб яны *"малілі госпада Бога за маю душу"*. У сваіх "непераборлівых" дараваннях па ўсім горадзе ён не быў адзіным віленскім пратэстантам, які відавочна чакаў агульнага, міжканфесійнага хору малітваў за выратаванне сваёй лютэранскай душы.[22]

## Цярпенне невыцерпнага

Пытанні, закранутыя ў гэтым артыкуле, – асобныя аспекты хроснага бацькоўства, шлюбу, і пахавальных абрадаў у невялікім шматканфесійным горадзе ранняга Новага часу – паказваюць некалькі механізмаў, якія дазвалялі суіснаванне. Гэта *не* гісторыя заўчаснага экуменізму, ці

[21] Пра Чаплінскага гл.: Frick 2013: 394.

[22] Пра непераборлівыя дараванні гл.: Frick 2013, 350, 355, 395–397.

*талерантнасці, прымання адрознасці* (tolerance). Гэтыя ідэі былі толькі сфармуляваныя некалькімі мысьлярамі таго часу, але стануць цэнтральнымі тэмамі больш шырокіх дыскусій толькі з надыходам Асветніцтва. Тут мы маем справу з гісторыяй *цярпення, трывання* (toleration), пошукам пэўных адпаведных сістэме практык, якія часам перапляталіся з рытуальнымі і індывідуальнымі актамі гвалту, ці, прынамсі, варожым супрацьстаяннем у судах. Такія практыкі дазвалялі прадстаўнікам асобных супольнасцяў суіснаваць, часам поруч, з людзьмі, якіх яны маглі ненавідзець, ці, прынамсі, успрымаць як безнадзейных і цвердалобых. Цярпенне, у адрозненне ад талерантнасці, мае два аблічча, у якіх талерантнасць і неталерантнасць "дыялектычна і сімвалічна звязаны". Праз акт цярпення той, хто дазваляе іншаму жыць сярод сваіх, якія б сістэмы правілаў не вызначалі паводзіны іншых, *"робіць моцны выклік праўдзівасці ўласнай рэлігіі, а таксама няправільнаму і дэвіянтнаму вобразу іншага"*.[23]

Раннемадэрныя гарады – прынамсі тыя, што былі домам для гараджан дзвюх і больш канфесій, этнасаў ды рэлігій, – можна раскласці на шкале практык цярпімасці . Такая шкала на адным канцы мела б прыклады значнага выключэння (напрыклад, выцясненне меншасцяў і/ці іх рэлігійных практык за межы гарадскіх сцен), а на другім – значнае ўключэнне (арганізацыя розных форм роўнасці). Дзе ж мы маглі б размясціць Вільню на такой шкале Еўропы і Рэчы Паспалітай?

Адна з мадэлей вырашэння праблемы разнастайнасці прадугледжвала "аднаканфесійнасць" у межах гарадскіх сцен. Такія гарады часта закрывалі вочы на "падпольныя" ці "прыхаваныя" цэрквы ці практыкавалі прынцып "Auslauf". У апошнім выпадку меншасцям дазвалялі ці вымушалі практыкаваць сваю рэлігію ў іншых месцах. Выхад за межы горада мог адбывацца адкрыта, праз масавыя працэсіі, ці таемна – праслізгванне па адным праз гарадскія брамы да месцаў пакланення ў прадмесцях ці суседніх маёнтках. Прыкладамі могуць быць Амстэрдам і Гамбург/Алтона.[24]

Крок да адкрытага прызнання роўных правоў для больш чым адной канфесіі быў зроблены ў "двухканфесійных" гарадах, найбольш вядомых на прыкладзе Святой Рымскай Імперыі, дзе развіваліся прававыя практыкі закладзеныя Вестфальскім мірам 1648 года. Тут сістэма парытэту і/ці *simultaneum* – сумеснае выкарыстанне адной царквы праз развядзенне часу правядзення службаў, ці праз фізічны падзел царквы і забеспячэнне літаральнай "адначасовасці", – дазваляла ўпарадкаванае функцыянаванне супольнасцяў, якія складаліся з двух роўных і, што яшчэ больш важна, *адкрыта* прызнаных канфесій.[25]

Калі імперскія гарады ляжалі недзе на сярэдзіне шкалы, то Вільню мож-

[23] У якасці прыклада нядаўняга добрага даследавання рэлігійных канфліктаў і практык цярпення/цярпімасці ў Еўропе ранняга Новага часу гл.: Kaplan 2007. Цытату гл.: ст. 8–9.

[24] Пра практыкі *Auslauf,* гл.: Frick 2013, 413–414; Kaplan 2007, 161–171. Асобна пра сітуацыю ў Гамбургу гл.: Whaley 1985. Пра *Auslauf*: Whaley 1985: 35–36.

[25] Больш дэталяў пра *simultaneum,* парытэт і біканфесіяналізм гл.: Kaplan 2007, 198–234.

на змясціць у далёкім крайнім куце вельмі далёка ад мадэлі выключэння. Тут мы знаходзім не "дзве канфесіі ў адным горадзе" – як гэта было вынесена ў назву класічнага даследавання сістэмы парытэту ў Аўгсбуругу, Біберанху, Равенсбургу і Дінкелсбугле (Warmbrunn, 1983) — але пяць канфесій (і тры рэлігіі), пры гэтым у межах дастаткова малой ды кампактнай супольнасці. Ніхто, за магчымым выключэннем татар і кальвіністаў (і гэта толькі пасля 1640 года), не мог сказаць, што былі вымушаны практыкаваць "Auslauf".[26] Але нават у выпадку кальвіністаў, гэты тэрмін не да канца схоплівае сітуацыю. Віленская сістэма парытэту ў гарадскім урадзе значна апярэджвала любую такую сістэму ў Заходняй Еўропе. Нават пасля 1666 года, калі грэцкія і рымскія месцы ў магістраце маглі займаць толькі ўніяты і каталікі, улада ўсё яшчэ падзялялася. Больш за тое, сістэма, створаная ў магістраце, служыла мадэллю падзелу месцаў у гільдыях як да, так і пасля гэтай даты. У адрозненне ад імперскіх гарадоў, дзе гільдыі і працоўныя месцы былі аднаканфесійнымі, гільдыі ў Вільні былі і заставаліся шматканфесійнымі на працягу ўсяго перыяду і базаваліся на дакладна распрацаванай сістэме выбараў "гадавых старшыняў" з прадстаўнікоў розных канфесій/этнасаў.[27]

Павучальным з'яўляецца параўнанне Вільні са Львовам. Сталіца старога Галіцкага княства і самы вялікі горад Чырвонай Русі па памеры і ўплыве нагадваў Вільню. Яшчэ больш важна тое, што два каралеўскія гарады былі падобнымі паводле неаднароднасці насельніцтва. Армяне і габрэі мелі пэўную аўтаномію і структуры самакіравання, якія ахоўваліся каралеўскімі прывілеямі. Але русіны ніколі не здолелі дасягнуць нават сваіх мінімальных задач абмежаванай аўтаноміі, што мелі армяне, не кажучы ўжо пра роўнасць з рыма-каталікамі ў магістратах, гільдыях і на гандлёвых месцах. Калі каротка, толькі рыма-каталікі – большасць з якіх былі палякамі-эмігрантамі – мелі поўныя палітычныя і эканамічныя правы.[28]

Дробны гвалт быў прыкметаю штодзённага жыцця Вільні таго часу, але звычаі, звычкі, каралеўскія дараванні і прывілеі паўплывалі на стварэнне горада, у якім гвалт рэдка матываваўся канфесійнай прыналежнасцю. Насілле стрымлівалася жыхарамі, якія хуткая звярталіся ў суд, давяраючы розным наяўным судовым інстанцыям. У горадзе канфесіі і рэлігіі займалі прастору, якая дазваляла перакрыжаванне і спалучэнне ў розных накірунках і кантэкстах. Многія мелі – і, верагодна, усе прынамсі ведалі тых, хто меў сяброў, сваякоў ці суседзяў за межамі аднаго ці некалькіх канфесійных падзелаў. Такім чынам адрозненні былі часткай існавання, іх менш ці больш ахвотна цярпелі. Гэта, тым не менш, зусім не сведчыла пра рэлігійную "абыякавасць", як спрабуюць давесці некаторыя рэвізіяністы, спрабуючы выправіць, а часам і супрацьпаставіць

[26] Пра перамяшчэнне кальвіністаў у 1640 годзе гл.: Frick, 2013: 50, а таксама літаратуру, якая там цытуецца.
[27] Пра гільдыі і стасункі паміж рознымі канфесіямі ў гільдыі гл.: Frick 2013, глава 10.
[28] Гл.: Kapral, 2003: 95–107.

такія практыкі парадыгме этатысцкай канфесіяналізацыі зверху ўніз.

Можна ўявіць здзіўленне гасцей, нават з блізкіх зямель Польскай Кароны, калі яны назіралі какафонію царкоўных перазвонаў, канкурэнцыю і перакрыжаванні рэлігійных і свецкіх працэсій, разнастайнасць адзення, сродкаў догляду за скурай і валасамі, ўзораў маўлення, больш ці менш прыстойнае ўзаемнае высмейванне, адначасовае прытрымліванне посту і святкаванне. Можна ўявіць іх адчуванні пры пераходзе з квартала ў квартал, дзе такая ці іншая сістэма традыцый маглі пераважаць, але прысутнічалі і ўсе іншыя, часам у межах адной сям'і. Пры гэтым, уся гэтаразнастайнасць магла выяўляцца публічна і ва ўсіх частках горада. Ці быў бы польскі наведвальнік менш чым немец здзіўлены горадам, у якім, як магло падацца знешняму назіральніку (і гэта толькі часткова не адпавядала б праўдзе), – прадстаўнікі ўсіх рэлігій, плыняў і сектаў мелі свабоду сумлення і ніхто не адчуваў уціску?[29]

*Пераклад з англійскай мовы паводле аўтарскага арыгіналу.*

**Літаратура**


1. Frick, David (2013). *Kith, Kin, and Neighbors: Communities and Confessions in Seventeenth-Century Wilno*. Ithaca.
2. *Akta synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej, 1611–1625* (1915). Monumenta Reformationis Poloniae et Lithuaniae, seria 4, fasc. 2. Vilnius.
3. *Agenda albo Forma Porządku usługi świętej, w zborach ewangelickich koronnych i Wielkiego Księstwa Litewskiego na wieczną cześć i chwałę Ojcu, Synowi i Duchu Św., Bogu w Trójcy jedynemu, za zgodną zborów wszystkich uchwałą, teraz nowo przejźrzana i wydana*. (1637). Gdańsk.
4. Bossy, John (1984). "Godparenthood: The Fortunes of a Social Institution in Early Modern Christianity." In *Religion and Society in Early Modern Europe, 1500–1800,* edited by Kaspar von Greyerz, 194–201. London.
5. Harszler, K. D., ed. (1866). *Die Reisen des Samuel Kiechel. Aus drei Handschriften.* Bibliothek des Litterarischen Vereins in Stuttgart, vol. 86. Stuttgart.
6. Kaplan, Benjamin J. (2007). *Divided by Faith: Religious Conflict and the Practice of Toleration in Early Modern Europe.* Cambridge, MA.
7. Kapral' Myron (2003). *Nacional'ni hromady L'vova XVI–XVIII st. (Social'no-pravovi vzajemyny).* L'viv.
8. Klinkowski, Edmund. (1936). "Grodno, Wilna und das Posener Land in einem deutschen Reisebericht vom Jahre 1586." *Deutsche wissenschaftliche Zeitschrift für Polen* 30:133–38.
9. LVIA = Lietuvos Valstybės Istorijos Archyvas (Lithuanian State Historical Archive, Vilnius).
10. Rachuba, Andrzej, ed. (1989). *Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo wileńskie 1690 r.* Warsaw.
11. Whaley, Joachim (1985). *Religious Toleration and Social Change in Hamburg 1529–1819.* Cambridge.
12. Wujek, Jakub (1579–1580). *Postylla mniejsza.* Vols. 1 and 2. Poznań.


[29] Цытата з падарожнага альбома Самуэля Кехеля, гандляра з Альмера, які распавёў пра свае вандраванні ў 1585 годзе (паводле Klinkowski: 1936, 135). Цалкам падарожныя запісы былі выдадзены ў: Harszler, 1866. Фрагмент пра Вільню: Harszler, 1866:102–105.

# Wilno

SS. Peter and Paul
Antokol Suburb
Upper Castle
River Wilia
Mosque
St. George
Łukiszki Suburb
Cathedral
Lower Castle
Castle Gate
Szerejkiszki
St. Mary Magdalene Gate
St. Mary Magdalene
Holy Cross (Bonifratres)
Skop St.
Castle St.
Lutheran Cemetery & Hospital
Wilia Gate
Tatar Gate
Bishop St.
St.John
St. Michael the Archangel
Bernardine St.
St. Anne
SS. Francis and Bernard (Bernardines)
(bernardine nuns)
Bernardine Gate
Calvinists (After 1640)
St. Ignatius
St.Catherine (Benedictine Nuns)
Wilia St.
Holy Trinity
St. John St.
Calvinists (Until 1640)
St. John the Baptist (U)
Savior St.
Most Pure (U)
Transfluvial St.
St. Peter (U)
Holy Spirit (Dominicans)
Dominican St.
Phillip St.
Fish Market
Jopp St.
Polock Street
Transfluvial Suburb
Calvinist Cemetery
Troki Gate
Troki St.
Synagogue
Resurrection (U)
St. Parasceve (U)
Savior (U)
Redeemer Gate
Lutherans
German St.
Jewish St.
Glass St.
Sawicz/Baksztа St.
Troki Rd.
BVM (Franciscans)
St. Nicholas (U)
Market Square
Sawicz St.
Meat Shop St.
Imbary
River Wilenka
St. Nicholas St.
St. Nicholas
St. Casimir (Jesuit Professors)
Town Hall
Subocz Suburb
Rudniki St.
St. Joseph (Discalced Carmelite Nuns)
Subocz St.
Subocz Gate
Holy Trinity (U) (Basilians)
Holy Spirit (O)
Horse St.
Sharp St.
St. Teresa (Discalced Carmelites)
Rudniki Gate
Little Market
Rossa Suburb
Horse Market
Sharp Gate
Rudniki Rd.
All Saints (Calced Carmelites)
Miedniki Rd.
SS. Joseph and Nicodemus
St. Stephen
U = Uniate
O = Orthodox
St. George (U)


Upper Castle Street
Castle Street
Skop Street
Bernardine Street
St. John
1
2
1
2
3
4
5
6
7
8
9
10
11
12
13
14
15
16
17
18
19
20
21
22
23
24
25
26
27
28
29
30
31
32


Horse and Sharp Streets
Subocz Street
St. Casimir Alley
Saint Casimir
Sharp Street
Holy Spirit (O)
Saint Teresa
Holy Trinity (U)
Horse Street
Rudniki Street
St. Joseph

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 22-23, 2014-2015

Наталля Сліж

# Гарадзенскі бурмістраўска-радзецкі суд: суадносіны судовай практыкі з магдэбургскім правам (1639-1642 гады)

Для еўрапейскай гістарыяграфіі дзейнасць магістрацкіх судоў з'яўляецца добра даследаванай тэмай (Bukowska, 1967; Stankowa, 1968; Білоус, 2008 і інш.). Праца магістратаў гарадоў ВКЛ таксама трапіла ў поле зроку даследчыкаў (Jaworski, 1631; Бардах, 2002: 103-160; Дружчыц, 2009; Копысский, 1975; Ragauskas, 2002; Гардзееў, 1998; Гардзееў, 2004, Гардзееў, 2005 і інш.). Аднак гісторыя гарадзенскага бурмістраўска-радзецкага суда за пачатак XVII стагоддзя ў гістарыяграфіі прадстаўлена даволі фрагментарна (Hardziejeu, 2001; Яцкевіч і Урублеўскі, 2009).

Асноўная праблема ў вывучэнні суда заключаецца ў адсутнасці значнай колькасці крыніц, бо самая ранняя судовая кніга захавалася за 1639–1642 гады. Яна складаецца з двух частак: кніга бурмістраўска-радзецкага суда і кніга войтаўска-лаўніцкага суда. У дадзеным артыкуле асноўная ўвага сканцэнтравана на першай кнізе. Прааналізаваны асаблівасці працы суда, адпаведнасць працы заканадаўству, склад суда.

## Магдэбургскае права для Гародні

Магдэбургскае права стала вызначальным чыннікам для многіх гарадоў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы (Lűck, 2007). Пры гэтым для кожнага горада яно мела сваё значэнне і свае асаблівасці. Для гарадскіх жыхароў наданне магдэбурскага права азначала атрыманне статуса мяшчан, якi рэгуляваўся шэрагам дакументаў. Для Гародні крыніцы права былі наступныя: прывілей на магдэбургскае права 1496 года і яго наступныя пацвярджэнні вялікімі князямі літоўскімі і польскімі каралямі; іншыя прывілеі для горада і гараджан (на гандаль, цэхам і інш.), рашэнні па скаргах гараджан, пастановы па выніках працы камісараў, вількеры, пастановы канстытуцый соймаў, "Саксонскае Люстра" і "Вейхбільд", Статут ВКЛ.

У ВКЛ былі вядомыя два асноўныя зводы законаў, якія мелі дачыненне да сістэмы кіравання гарадамі, – "Саксонскае Люстра" ("**Speculum Saxonum"**)[1] і "Вейхбільд" ("Ius

[1] "Саксонскае Люстра" мае шэраг выданняў і перакладаў: Schwerin Claudius von, 1918; Саксонское зерцало, 1985; Саксонскае Люстра, 2005.

municipale").[2] "Саксонскае Люстра" была складзена суддзёй Эйке фон Рапговым у 1221–1225 гадах. Праца атрымала найбольшае распаўсюджанне ў магістратах, але пры гэтым "Саксонскае Люстра" датычылася пераважна леннага права і парадку судзейства. "Вейхбільд" уяўляў сабой збор звычаёвага права гарадоў Саксоніі з вытрымкамі з "Саксонскага Люстра" і іншых дакументаў. Збор быў скіраваны на гарадскую судовую сістэму. Абодва помнікі права выкарыстоўваліся ў судовай практыцы і былі ўключаны ў Статут Ласкага 1506 года (Łaski, 1506).[3] Афіцыйна ў прававую сістэму Польскага Каралеўства ўвайшлі лацінамоўныя апрацаванні "Саксонскага Люстра" і "Вейхбільда" Мікалая Яскера (Jasker, 1535a; Jasker, 1535b). Яны былі зацверджаны ў 1535 годзе Жыгімонтам Старым. Важнымі для судовай практыкі ў гарадах сталі працы на польскай мове Барталамея Граіцкага і Паўла Шчэрбіча (Тарановский, 1897; Kutrzeba, 1987; Bukowska, 1967; Rymaszewski, 1975; Rymaszewski, 1985; Kowalski, 2001).

Заходнія гарады ВКЛ, такія як Вільня,[4] Коўна,[5] Берасце,[6] Гародня, карысталіся лацінамоўнымі зборнікамі "Саксонскага Люстра" і "Вейхбільда". Гэтыя гарады былі звязаны гандлёвымі адносінамі з Прусіяй. У выніку з'явіліся нямецкія асяродкі, ішло пераймане права, рэкрутацыя немцаў у лік гарадскіхураднікаў. Лацінская мова выкарыстоўвалася ў справаводстве нават у XVII стагоддзі Натуральна, у магістратах былі таксама запісы на старабеларускай і польскай мовах.

Гародня была ўключана ў балтыйскі гандаль у XVI–XVII стагоддзях. Таму тут назіралася прысутнасць мяшчан з Каралеўца (ням. Кёнігсберг). Дакументацыя вялася на лацінскай мове. Спасылкі ў дакументах суда на заканадаўчыя артыкулы сведчаць, што гарадзенскія ўраднікі карысталіся лацінскімі версіямі "Саксонскага Люстра" і "Вейхбільда" зводаў законаў, якія былі апрацаваны М. Яскерам і перавыдадзены ў 1601, 1602 гады (Esreicher, 1901: 501–503). Пазначаныя выданні былі

2 У бурмістраўска-радзецкім судзе выкарыстоўвалася яшчэ назва "Iuris Maydeburgensis" (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 71).

3 Статут Ласкага ўяўляў сабой збор прывілеяў і заканадаўчых актаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Польскага Каралеўства. Статут быў апрацаваны канцлерам Янам Ласкім і прадстаўлены на сойме 1505 года, а надрукаваны ў 1506 годзе.

4 У 1561 годзе віленскі бурмістр Лукаш Маркавіч актыкаваў некаторыя артыкулы з "Саксонскага люстра" ў кнігі віленскага ваяводы (НГАБ, КМФ-18, спр. 255, арк. 321адв.–325). У справаводстве віленскага магістрата выкарыстоўвалася лацінская мова, а таксама ўжывалася "Саксонскае Люстра" і "Вейхбільд" (LVIA, F. 23, ap. 1, b. 1, 2). Прававую практыку ў дачыненні да мяшчанак Вільні і Коўна гл.: Karpavičienė, 2005.

5 Ковенскія магістрацкія кнігі ўтрымліваюць запісы не толькі на лацінскай мове, але і на нямецкай. Пры вырашэнні судовых спраў кіраваліся "Саксонскім Люстрам" і "Вейхбільдам" (VUB, F. 7, Kauno magistrato aktų knyga, 1522–1545, 1587–1591; 1604–1610, 1603–1629 і інш.).

6 У берасцейскім магістраце ўжывалася лацінская мова, а асноўнымі зводамі былі "Саксонскае Люстра" і "Вейхбільд" (НГАБ, Ф. 1786, воп 1, спр. 1–3).

зручна ўпарадкаваны, з нумарацыяй артыкулаў і раздзелаў. Акрамя таго, быў выдадзены трэці том, які прадстаўляў тэматычную апрацоўку заканадаўчых актаў (Jasker, 1535c). Гэта было неабходна для карыстання юрыстаў, бо "Саксонскае Люстра" і "Вейхбільд" не мелі ўнутранай структуры з раздзеламі ў залежнасці ад галіны права.

Узгаданыя заканадаўчыя акты былі створаны з улікам асаблівасцей Нямеччыны, таму ў ВКЛ іх не магчыма было прымяняць цалкам. Мясцовыя асаблівасці ў сістэму кіравання горада і судовую сістэму ўносілася праз прывілеі і вількеры.[7] Напрыклад, у 1551 годзе віленскім магістратам была прынята Віленская ўстава, якая ў тым жа годзе была зацверджана Жыгімонтам Аўгустам і рэгулявала пытанні судовага справаводства: апеляцыя, прысяга, аплата за запіс у судовую кнігу, вайтоўскім судзе і інш. (AGAD, Takzwana Metryka Litewska, I. B. 31: 218–223). Пазней гэтым дакументам кіраваліся іншыя гарады ВКЛ. Кіруючыся Віленскай уставай у 1621 годзе, Ворша прыняла вількер па сістэме гарадскога кіравання (Стрэнкоўскі, 2013, ч. 1: 343–344; ч. 2: 330–341).

Такім чынам, у працы бурмістраўска-радзецкага суда выкарыстоўваліся прывілеі, напісаныя спецыяльна для Гародні, і зводы законаў "Саксонскае Люстра" і "Вейхбільд". Для вырашэння судовых спрэчак з прадстаўнікамі іншых саслоўяў звярталіся да Статута ВКЛ.

## Бурмістраўска-радзецкі суд у магдэбургскім праве і ў Гародні

Паводле магдэбургскага права, бурмістраўска-радзецкі суд (раду) павінны былі выбіраць раз на год. Абіраліся мужчыны ўзростам ад 24 год, сярэдняй заможнасці, народжаныя ў законным шлюбе, якія стала пражывалі ў горадзе, годныя і прыстойныя, без фізічных і разумовых недахопаў. Радцы самі выбіралі аднаго ці двух бурмістраў.Ураднікі абавязаны былі выканаць прысягу. Рада разглядала справы, звязаныя з мерамі і вагамі, фальшаваннем, цэхамі, канфліктамі паміж рамеснікамі, абараняла ўдоў і сірот. Кожны год яна давала справаздачу мяшчанскай грамадзе. Акрамя таго, на пасяджэннях рады абмяркоўваліся і прымаліся вількеры (Вейхбільд, арт. 19, 43, 44).

Дзейнасць бурмістраўска-радзецкага суда рэгулявалася некаторымі прывілеямі для Гародні. Прывілей 1496 года не вызначаў дакладны склад бурмістраўска-радзескага суда і парадак яго выбару. Прывілей Боны Сфорцы 1541 года акцэнтаваў увагу, на тым, што раду павінны абіраць штогод з ліку годных гараджан. Бурмістры і радцы падзяляліся на праваслаўных і каталікоў. У канцы кіравання бурмістры былі абавязаны рабіць фінансавую справаздачу перад войтам, новымі бурмістрамі, радцамі, лаўнікамі і 8 асобамі з паспольства.

[7] Вількер – пастанова магістрата, якая прымалася на сумесным пасяджэнні рады і лавы, у прысутнасці рамеснікаў. Яна мела заканадаўчую моц, рэгулявала пытанні гандлю, рамяства і інш.

У выпадку іх запазычанасці перад горадам яны былі абавязаны выплаціць кампенсацыю (АВАК, 1874: 72–78; Сліж, 2012: 16, 25). У кнізе бурмістраўска-радзецкага суда за 1639–1642 гады справаздач не выяўлена. З тэстамента жонкі бурмістра Яна Тарасовіча – Ягнешкі Мацеевай (1616) вынікае, што яе муж памёр, не пакінуўшы справаздачы за перыяд свайго кіравання. У выніку ўраднікі наклалі арышт на яе маёмасць да высвятлення справы (НГАБ, Ф. КМФ-18, спр. 92, арк. 54 адв.–56 адв.). Бурмістры павінны былі прадставіць даходы і расходы горада, выдаткі грошай на патрэбы горада, падаткі. Для параўнання адзначым, што ў першай палове XVII стагоддзя ў Берасці справаздача бурмістраў адбывалася кожны год. Яе выслухоўвалі шафары і выбраныя дэпутаты з наступных вуліц: Рынак, Замухавецкая, Заўгрынецкая, Пясецкая (НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 1, арк. 465; спр. 2, арк. 15, 215-216, 354, 792).

У канфірмацыйным прывілеі Уладзіслава IV 1633 года сярод іншага было адзначана, што ўраднікі павінны пражываць у горадзе. Упершыню ўводзілася забарона займаць пасады праваслаўным і пратэстантам (Галубовіч, 2011). Аднак яна не выконвалася ў поўнай меры. Напрыклад, радца Фёдар Багдановіч быў праваслаўным ці ўніятам і пражываў у Манчыне (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 150). У іншых гарадах ВКЛ на той час такой забароны не было.[8] Звязана гэта было са зменай рэлігійнай сітуацыі ў Гародні: галоўныя праваслаўныя цэрквы горада – Прачысценская і Св. Барыса і Глеба – былі прымусова пераведзены ва ўніяцтва. З канца XVI стагоддзя – у першай палове XVII стагоддзя з'яўляюцца новыя каталіцкія фундацыі, якія падтрымліваюцца шляхтай. У "Супліцы" Мялеція Сматрыцкага 1623 года Гародня пералічвалася сярод гарадоў, дзе праваслаўныя трываюць праслед (Латышонак, 2009: 194). Наяўнасць каралеўскай рэзідэнцыі, а ў сувязі з гэтым побыты караля, таксама спрыялі падтрымцы каталіцызму ў горадзе. Гэтыя тэндэнцыі прыводзяць да канфліктаў, змяншэння колькасці праваслаўнага насельніцтва. Пратэстанты былі з ліку прыезджых і аселых у горадзе прускіх мяшчан, у асноўным з Каралеўца. Яны былі адукаванымі, што давала магчымасць рабіць кар'еру ў магістраце. Аднак стварыць моцнае пратэстанцкае рэлігійнае асяроддзе замежнікі не змаглі. Часцей за ўсё яны прымалі каталіцызм. Такім чынам, склалася сітуацыя, што сярод ураднікаў магістрата пераважалі каталікі, якія і садзейнічалі з'яўленню забароны займаць пасады праваслаўным і пратэстантам ў прывілеі 1633 года.

Для прыкладу адзначым, што ў адрозненне ад Гародні ў Берасце рада захоўвала двухрэлігійны склад нават у 1642 годзе. Выбіралася па два прэтэндэнты на бурмістраўства ад праваслаўных і каталікоў, якія прапаноўваліся войту. Ён выбіраў аднаго

[8] У 1574 годзе ў Старой Варшаве быў прыняты, а ў 1580 годзе пацверджаны Стэфанам Баторыем вількер, па якім пратэстантам забаранялася займаць пасады ў горадзе (Ptaśnik, 1920: 117).

прадстаўніка ад кожнай канфесіі. Выбары адбываліся ў сакавіку. У 1641 годзе былі выбраны кандыдаты ад каталікоў – Барчэўскі і Лукаш Памаранскі, ад праваслаўных – Ян Андрэеўскі і Васіль Сарока. З іх войт пацвердзіў двух праваслаўных. Берасцейская рада не прыняла гэты выбар і прапанавала кандыдатаў войту другі раз, дадалі яшчэ Марціна Качынскага. Да новага зацвярджэння абавязкі бурмістра выконваў Ян Андрэеўскі, але без прысягі. 17 мая былі зацверджаны М. Качынскі і Я. Андрэеўскі (НГАБ, Ф. 1786, воп. 1, спр. 1, арк. 418; спр. 2, арк. 23, 193, 387–388, 580, 795–796).

Парушэнні ў гарадзенскім самакіраванні прымусілі выправіць камісараў. Па выніках іх працы была прынята адпаведная пастанова. Уводзілася спагнанне з радцаў, якія пражывалі ў прыгарадных вёсках, а не ў горадзе, у памеры 100 коп літоўскіх грошаў. Бурмістраў абавязалі справаздачыцца кожны год. Пакаранне парушальнікам было такое ж, як і радцам. Акрамя таго, бурмістры павінны былі сачыць, каб не было фальшавання і неадпаведных мераў вагі (1650) (Доўнар, 2009: 121, 125, 126). Камісары былі выпраўлены ў Гародню ў сувязі з крызісам у сістэме кіравання горада. У пачатку года Фольтын Шульц і Ян Адамовіч былі абраны бурмістрамі, але Станіслаў Цвілікіч і Андрэй Каспровіч не саступалі ўраду і разам з іншымі мяшчанамі перашкаджалі ім выконваць абавязкі. Уладзіслаў IV загадаў прыняць Ф. Шульца і Я. Адамовіча ў якасці бурмістраў (1650) (НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185адв.–186). У другой палове XVII стагоддзя пастанова камісараў не страціла сваёй актуальнасці ў судовай практыцы (НГАБ, Ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 42–42адв., 53–54, 123адв.–124, 138–138адв.).

Гарадзенскі магістрат патрабаваў ад ураднікаў адпаведнай адукацыі і ведання права. Для працы ў судзе патрэбны быў асабісты экзэмпляр зводу законаў. Аб гэтым сведчыць згадка ў тэстаменце радцы Валентыя Волінскага. Ён прасіў гарадзенскі магістрат зменшыць яму пазыку на 15 коп літоўскіх грошаў, за гэта перадаў у ратушу “Саксонскае Люстра” на лацінскай мове і “Practicarum observationum…”[9] Андрэя Ліпскага[10] для годнага чалавека, які будзе радцам (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 163).

Такім чынам, на практыцы ад ураднікаў патрабавалася веданне магдэбургскага права, прывілеяў для Гародні, старабеларускай, польскай і лацінскай моваў. Пра веданне ўраднікамі лаціны дадаткова сведчаць асобныя дакументы на гэтай мове ў кнізе бурмістраўска-радзецкага суда, а таксама цытаты. Гарадзенскія ўраднікі карысталіся лацінскай версіяй “Саксонскага Люстра”. Аб

9 Кніга А. Ліпскага перавыдавалася некалькі разоў (Lipski, 1602; 1619; 1620; 1626; 1627). Якім выданнем валодаў В. Волінскі, невядома.

10 Андрэй Ліпскі (1572–1631) – каронны канцлер, кракаўскі біскуп, быў вядомым праўнікам. “Practicarum observationum…” тлумачыў правакарыстанне многіх заканадаўчых актаў, у тым ліку і “Саксонскае Люстра”. Кніга пабудавана па ўзоры працы Андрэаса Гайла (Borodziuk, 1989: 69–84; Rymaszewski, 2000: 332–338).

гэтым сведчыць не толькі згадка ў тэстаменце Волінскага, але і цытаты са зводу законаў на латыні (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 17, 61, 71).

## Пасяджэнні бурмістраўска-радзецкага суда

Асноўнай крыніцай па працы бурмістраўска-радзецкага суда першай паловы XVII стагоддзя з'яўляецца актавая кніга за 1639–1642 гады, размешчаная на аркушах 1–83адв. Усе справы ў ёй пранумараваны, апошняя пад нумарам 114. У канцы складзены рэестр спраў. Аднак даты не заўсёды пададзены ў храналагічным парадку. Гэта сведчыць пра тое, што кніга была складзена пазней на падставе іншай. Таму не ўсе дакументы былі ўнесены. Некаторыя дакументы па дзейнасці суда захаваліся ў складзе Метрыкі ВКЛ.

За 1639–1642 гады дакументы па выбарах не захаваліся. Хоць змена ўраду сведчыць пра іх правядзенне. У пазнейшых магістрацкіх кнігах сустракаюцца элекцыйныя дакументы. З іх вынікае наступнае: выбары праводзіліся галасаваннем, бурмістраў выбіралі асобна,ураднікі выконвалі прысягу (Яцкевіч і Урублеўскі, 2009: 88, 93–94). Аднак склад рады не мяняўся цалкам. Выбіралі радцаў толькі на вызначаную колькасць месцаў. Па прычыне адсутнасці метрычных кніг і біяграфічных звестак у прыватных дакументах няма магчымасці вызначыць узрост радцаў. Аднак адпаведнае паходжанне мела значэнне. У кнігу была ўнесена атэстацыя радцы Станіслава Бельскага. З яе вынікала, што ён паходзіў з добрай сям'і, венчанага шлюбу і быў каталіком (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 14).

Большасць актаў у кнізе бурмістраўска-радзецкага суда ўтрымлівала наступную інфармацыю: дата пасяджэння, спіс прысутных ураднікаў, змест актыкаванага (унесенага ў кнігу) дакумента ці судовай справы. Гэта дазваляе прааналізаваць колькасць пасяджэнняў, склад рады, дзейнасць суда.

Запісы ахопліваюць перыяд са студзеня 1639 года па жнівень 1642 года (гл. табліцу 1). За люты 1639 года справы за канец месяца змешчаны не па парадку, а адна справа за 21 патрапіла ў сакавік (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 2–10, 11адв.). Тая ж сітуацыя назіраецца за май 1640 года, май 1642 года. Пры гэтым цалкам адсутнічаюць запісы за май, кастрычнік, снежань 1639 года, жнівень 1640 года, верасень, кастрычнік, снежань 1641 года. Апошні запіс датуецца 29 ліпенем 1642 года. Гэта сведчыць або пра знікненне часткі дакументаў, або пра нерэгулярнасць пасяджэнняў суда. На карысць першага меркавання сведчыць звесткі з самой судовай кнігі. За вызначаны перыяд зафіксавана 84 пасяджэнні суда. З іх інфармацыя пра пасяджэнні 4 лістапада 1639 года паходзіць з іншай судовай справы, а пра 29 лістапада 1641 года – з кнігі войтаўска-лаўніцкага суда (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 37 адв., 207–208 адв.). У кнізе дакументы за гэтыя даты адсутнічаюць. Па магдэбургскім праве суд павінен збірацца раз на тыдзень ці па неабходнасці. Зыходзячы з гэтага, павінна быць як мінімум 156 пасяджэнняў. У рэальнасці іх магло

быць і менш, але адсутнасць запісаў за цэлыя месяцы сведчыць аб страце крыніц. Пры гэтым, за згаданы перыяд не зафіксавана ў Гародні эпідэмій і надзвычайных сітуацый, якія б маглі паўплываць на частату пасяджэнняў. Пад кожнай датай часцей запісваўся адзін дакумент (66 выпадкаў), радзей – 2,[11] 3,[12] 4,[13] 5,[14] 8[15] (17 выпадкаў).

**Табліца 1. Даты пасяджэння бурмістраўска-радзецкага суда Гародні, 1639–1642 гады**

| Гады<br>Месяцы | 1639 | 1640 | 1641 | 1642 |
|---|---|---|---|---|
| Студзень | (?), 21, 29 | 13, 20, 27 | 25, 30 | 10, 21, 22, 25 |
| Люты | 7(?), 18, 23, 24, 25, 21 | 3, 17, 24 | 15, 23 | – |
| Сакавік | 3, 11, 18, 22, 23, 30 | 23, 30 | 6 | 14 |
| Красавік | 1, 6, 8, 20 | 27, 20 | 12, 26 | 14 |
| Май | – | 14, 11, 25 | – | 2, 7, 30, 15 |
| Чэрвень | 17, 3, 10, 15, 22 | | 14 | 20 |
| Ліпень | 20, 30 | 20, 21, | 5 | 14, 16, 18, 29 |
| Жнівень | 19, 26 | – | 23, 24 | |
| Верасень | 9 | 7, 12 | – | – |
| Кастрычнік | – | 26 | – | – |
| Лістапад | **4,** 18, 9, 27 | 23, 27 | 8, 9, **29** | – |
| Снежань | – | 5, 7 | – | – |

Даты пададзены ў адпаведнасці з парадкам у кнізе. Пытальнікі пастаўлены там, дзе дата сумнеўная ці няма дакладнай даты. Тлустым шрыфтам вылучаны даты, пра якія інфармацыя паходзіць з іншых крыніц.

## Склад бурмістраўска-радзецкага суда ў Гародні

Колькасць асобаў у гарадзенскім бурмістраўска-радзецкім судзе не была вызначана ні першым прывілеем 1496 года, ні больш познімі. Як вынікае з судовай практыкі першай паловы XVII стагоддзя, суд складаўся з 13 чалавек: лентвойт, 2 бурмістры і 10 радцаў. Пры судзе былі "прысяглыя" слугі: Максім, Бенедыкт Ленар-

[11] Два акты было запісана пад датамі: 21, 23, 25.02, 9.11. 1639 г.; 30.03, 20.04. 2, 25. 05, 5.12. 1640 г.; 6.03. 1641 г.; 14.04, 14, 18. 07. 1642 г.

[12] Тры акты было запісана пад датай: 9.09.1639 г.

[13] Чатыры акты было запісана пад датай: 20.07.1639 г.

[14] Пяць актаў было запісана пад датай: 6.04.1639 г.

[15] Восем актаў было запісана пад датай: 30.03.1639 г.

товіч, Аляксей Мянко. Яны былі абавязаны аддаваць позвы ў суд, абвяшчаць і вывешваць у публічных месцах прывілеі (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 38адв., 39, 41–42, 58 адв., 59адв., 69, 71адв., 72).

У функцыі лентвойта ўваходзіла замяшчаць войта на пасяджэннях. Гэта пасада была вядома ў гарадах Польшчы і ВКЛ (Mazurkiewicz, 1962: 171–174; Білоус, 2008: 113–114). Лентвойт прызначаўся войтам, а не выбіраўся мяшчанамі. Ён мог паходзіць як са шляхты, так і з мяшчан. Падчас прызначэння лентвойтам Марціна Градкоўскага войт Канстанты Александровіч адзначыў, што намеснік неабходны ў сувязі з немагчымасцю прысутнічаць увесь час на пасяджэннях суда (НГАБ. Ф. 1761. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 4 адв.). У Гародні да 4 лютага 1639 года абавязкі лентвойта выконваў Станіслаў Цвікліч,[16] а пасля – Марцін Градкоўскі[17] (да лютага 1642 года). Наступным пасаду займаў Андрэй Каспровіч прыкладна да пачатку 1645 года. Яго зноў змяніў Станіслаў Цвікліч (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 208–210; Галубовіч, 2009: 253–257). Лентвойт прысутнічаў таксама і на пасяджэннях войтаўска-лаўніцкага суда. Прысутнасць на судзе войта К. Александровіча зафіксавана толькі адзін раз (3 лютага 1640 г. (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 43)).

У перыяд са студзеня 1639 года – па студзень 1641 года бурмістрамі былі Грыгор Варабеевіч і Стэфан Гібула, а радцамі – Фёдар Багдановіч,[18] Станіслаў, Павел і Ян Цвікліч, Яраш Высоцкі, Павел Кроснеўскі (Крошнеўскі), Станіслаў Бельскі, Валенты Волінскі, Марцін Фандэберк,[19] Лукаш Неапаліта. З іх памерлі раней Фёдар Багдановіч[20] і Валенты Волінскі.[21] На іх месцы нікога не прынялі, хоць магдэбургскае права гэта дазваляла. Такі склад суда праіснаваў два гады. Прычыны могуць быць дзве: першая – выбары не праводзіліся, другая – выбары былі, але бурмістраў не змянілі. Пры гэтым, у папярэднія гады бурмістры мяняліся штогод. У 1637 годзе бурмістрамі былі Грыгор Варабеевіч і Валенты Волінскі (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 7, 105–106), у 1638 годзе – Марцін Фандэберк і Фёдар Багдановіч (НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 263).

Дакументы з магістрацкай кнігі сведчаць, што час выбараў прыпадаў на студзень. У XVI стагоддзі гэта быў

16 Прозвішча пісалася ў двух версіях Цвікля і Цвікліч.

17 Шляхціч Марцін Градкоўскі быў жанаты з Даротай Яблоўскай. Разам яны набылі пляц у Гародні ў мешчаніна Якуба Гратоўскага і яго жонкі Агнешкі Прылуцкай (1636) (LVIA, F. 1282, ap. 1, b. 5302, l. 1–2).

18 У дакументах Фёдар Багдановіч і яго дзеці пісаліся яшчэ як Багданковіч і Багданкевіч.

19 Прадстаўнікі сям'і Фандэберк пісаліся яшчэ як Фондэберк, Фендэберк, а на лацінскай мове – Vonden Berg.

20 Тэстамент Багдановіча актыкаваны 8 жніўня 1640 года (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 150–155адв.).

21 Тэстамент Вольскага актыкаваны 25 лістапада 1640 года (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк.162адв.–163).

верасень (Сліж, 2012: 29–30). Змена ў шэрагу радцаў адбылася ў студзені 1641 года. Склад рады набыў наступны выгляд: бурмістры – Яраш Высоцкі і Станіслаў Цвікліч, радцы – Павел і Ян Цвікліч, Грыгор Варабеевіч, Павел Кроснеўскі, Станіслаў Бельскі, Стэфан Гібула, Лукаш Неапаліта, Марцін Фандэберк, Войцех Болінскі, Мікалай Кудаеўскі. З прычыны смерці не стала аднаго радцы – Марціна Фандэберка (15.10.1642 г.). У параўнанні з папярэднім складам рады дадаліся толькі два новых чалавекі – Войцех Болінскі, Мікалай Кудаеўскі. Яны да гэтага часу былі лаўнікамі. У такім складзе рада праіснавала два гады, а верагодна, і тры, бо Станіслаў Цвікліч фігураваў як бурмістр у 1643 годзе. У 1644 годзе бурмістрамі былі Грыгор Варабеевіч і Ян Адамовіч (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 239адв., 252, 264, 282). У 1645 годзе бурмістрамі былі Ян Смяроўскі і Тамаш Лазоўскі, у 1646 годзе – Станіслаў Гібула (AGAD, Archiwum Radziwiłłów, dz. XVIII, sygn. 318, k.43; sygn. 304, k. 10), у 1647 годзе – Яраш Высоцкі (LMACB, Rankraščių skyrius, f. 16–207, l.48).

Знаходжанне на пасадзе бурмістра больш за адзін тэрмін запар супярэчыла магдэбургскаму праву. Бурмістры павінны былі даваць справаздачу пасля заканчэння тэрміну.[22] У дадзеным выпадку атрымлівалася, што ўраднікі прадстаўлялі дакументы самі сабе. Гэта прыводзіла да злоўжывання ўладай.

Патрапіўшы ў сістэму кіравання, мяшчане заставаліся ў ёй амаль да канца свайго жыцця, пераходзячы з адной пасады на другую. Звязана гэта было з наступнымі прычынамі: па-першае, кола ўраднікаў было дастаткова замкнёнае, звязанае сваяцкімі і шлюбнымі стасункамі. Яно адрознівалася больш высокім маёмасным станам і адукаванасцю. Для таго, каб увайсці ў яго, неабходна было ведаць права, умець чытаць і пісаць. Так, кравец Міхаіл Якуцэвіч быў адхілены ад пасады шафара з прычыны неадукаванасці (1609, LVIA, F. 1282, ap. 1, b. 7021, l. 1). Пра непісьменнасць большасці гарадзенскіх мяшчан сведчыць тое, што ў прыватна-прававых дакументах за іх падпісаліся ўраднікі. Акрамя таго, яны складалі тэстаменты ў вуснай форме і дыктавалі сваю апошнюю волю ўраднікам. З 27 дакументаў такім чынам было складзена 21 (1638–1644) (Sliž, 2013: 305–316). Па-другое, адукацыя каштавала дорага, таму далёка не кожны мог сабе яе дазволіць. У выніку часам гэта вяло да дэфіцыту кадраў. Па-трэцяе, ураднікі імкнуліся даць адукацыю сваім дзецям, што спрыяла ўтварэнню дынастый у гарадзенскім магістраце. Акрамя таго, яны замацоўвалі сваё становішча шлюбнымі стасункамі.

За вызначаны перыяд не выяўлена ніводнага выпадку, калі рада збіралася ў поўным складзе – 13 чалавек, нават калі ўсе радцы былі жывыя. Бурмістры павінны былі прысутнічаць абодва. У выпадку немагчымасці быць на судзе бурмістра прадстаўляў субдэлегат. Так, замест Грыгора Варабеевіча быў Станіслаў

22 Абавязкі бурмістра былі прапісаны ў “Вейхбільдзе” (арт. XIX) (Jasker, 1535b: XIX–XIXv).

Цвікліч (7(?), 18, 21, 23. 02; 22. 06; 9, 18. 11). А на гайным судзе субдэлегатам замест лентвойта Марціна Градкоўскага засядаў Тамаш Лагоўскі (7.01.1642 г. (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 2, 5, 6, 9 адв., 28, 37, 37адв., 208 адв.)). Колькасць прысутных была 1,[23] 4,[24] 5,[25] 6,[26] 7,[27] 8,[28] 9,[29] 10,[30] 11,[31] 12.[32] Аднак былі выпадкі, калі ўраднікі ўвогуле не адзначаліся ў кнізе.[33] Адзінураднік мог прымаць скаргі, але не выносіць прысуды. Для кворуму дастаткова было чатыры ўраднікa.

Адзін раз было сумеснае пасяджэнне з лаўнікамі (2.05.1642 г.). У гэты дзень лава збіралася па сваіх справах. Верагодна, гэта было звязана з тым, што разглядалася справа Германа Лілофа супраць радцы Марціна Фандэберка. Ён быў вінен 666 злотых і 20 грошаў. Не маючы чым плаціць, Фандэберк заставіў (заклаў) дом на вул. Рэзніцкай (НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 75, 212).

## Дзейнасць суда

Бурмістраўска-радзецкі суд займаўся адміністратыўнай, фінансавай, судовай дзейнасцю. Як вынікае з дакументаў, на функцыі гэтага суда ўскладаліся абавязкі пільнаваць збор падаткаў з маёмасці, якая знаходзілася пад гарадской юрыдыкай.[34]

Бурмістраўска-радзецкі суд актыкаваў (запісваў у судовыя кнігі) розныя дакументы і разглядаў спрэчныя сітуацыі. У кнігу суда ўносіліся даравальныя запісы, пазыковыя запісы, лісты куплі-продажу маёмасці, сведчанні аб атрыманні спадчыны, сведчанні шафараў, фундацыйныя запісы (НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 6–7, 13–13адв., 15адв.–16адв.; 48адв., 50 і інш.).

Фундацыйныя запісы актыкаваліся ў тым выпадку, калі маёмасць знаходзілася на юрыдыцы горада. Так з'явіўся запіс мечніка ВКЛ Мікалая Халецкага і яго жонкі Марыі Леаноры

[23] Скарга была пададзена Станіславу Цвіклічу, які быў субдэлегатам замест Г. Варабеевіча 21.02. 1639 г. (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 11адв.). Скарга была пададзена бурмістру Станіславу Цвіклічу, 23.08.1641 г. (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 68).

[24] 22.06. 1639 г.

[25] 30.03.1639 г.

[26] 8.04. 1639 г.; 14.05.1640 г.

[27] 15.06, 18.11 1639 г.; 30.03, 25.25. 1640 г.; 9.11. 1641 г.; 20.06. 1642 г.

[28] 23.02, 30.07, 26.08. 9.09, 9.11. 1639 г.; 11.05, 20.07, 12.09, 23.11, 28.11, 5.12. 1640 г.; 23.02. 1641 г.; 14.04. 1642 г.

[29] 21.01, 11.03, 23.03, 30.03. 1639 г.; 6.03, 27.04, 25.05, 19.08. 7.09, 20.10, 5.12.1640 г.; 25.01, 5.06, 14.06 1641 г.; 15.05, 18.07. 1642 г.

[30] 18.02, 17.06, 3.06, 10.06, 20. 06. 1639 г.; 3.02, 24.02, 20.04. 1640 г.; 12.04, 26.04. 1641 г.; 10.01, 21.01, 14.03, 18.07. 1642 г.

[31] 1.04, 20.01. 1639 г.; 23.03, 7.12. 1640 г.; 30.01. 1641 г.

[32] 18.03. 1639 г.; 13.01, 17.02. 1640 г.; 15.02. 1641 г.

[33] (?), 29 01. 24, 25.02, 3, 21, 22.03. 1639 г.; 2.05. 1640; 6.03, 23.08. 1641 г.; 22, 25. 01, 7, 30.05, 14, 16, 29. 07. 1642 г.

[34] Пра выплату падаткаў з горада фіксуецца ў розных дакументах (LMACB, Rankraščių skyrius, f. 16–207, l.8–8v, 31, 83–87, 95–96).

пра перадачу гарадзенскім езуітам Келбасіна (1639) (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 31адв.–32, 47). Удава па маршалку ВКЛ Крыштафу Весялоўскім Аляксандра Сабеская падаравала гарадзенскаму брыгіцкаму кляштару тры пляцы. Два пляцы муж набыў у радцы Габрэля Варабеевіча ды яго жонкі Дароты Жэброўскай і ў радцы Міхаіла Кроснеўскага ды яго жонкі Юстыны Янаўны Мерэеўшчанкі (1635). Трэці пляц Аляксандра купіла ў Валянціна Мерэеўскага, жонкі Яна Бельскага – Ядвігі Мікушэўшчанкі, Юстыны Мерэеўшчанкі (1640). Усе пляцы знаходзіліся на вул. Азёрскай і Навікоўскай, насупраць касцёла і кляштара брыгітак (1641). У 1642 годзе па просьбе Аляксандры Весялоўскай былі выкліканы ўраднікі – радца Ян Цвікліч і лаўнік Даніэль Кішмановіч, каб засведчыць недахоп чырвонага шведскага мармуру для брыгіцкага касцёла і кляштара. Па кантракце гданьскі мешчанін Крыштаф Мюнхем павінен быў прыслаць 120 локці плітак для прыступак, а Юрый Мюнхем прыслаў толькі 70. Таксама не хапала плітак на падлогу (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 66–66адв., 80адв.–81).

Бурмістраўска-радзецкі суд выдаваў пацверджанні аб добрым паходжанні. Так, было засведчана, што Юзаф Валянцінавіч нарадзіўся ў сям'і Валенція Мажэйковіча і Агнешкі Балябагоўны, якія жылі ў венчаным, каталіцкім шлюбе (1641). Мікалай Багданкевіч (Багдановіч), грэка-каталік, атрымаў пасведчанне, што паходзіў з сям'і бурмістра Фёдара Багдановіча і яго першай жонкі Агнешкі Лоеўшчанкі, якія жылі ў законным шлюбе (1642) (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 63–63адв., 81–81адв.). Такія запісы мелі месца і ў бурмістраўска-радзецкім судзе Берасця (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 503).

Як правіла, дакументы запісваліся адразу. Але былі выпадкі актыкацыі дакументаў, складзеных значна раней. Напрыклад, у студзені 1639 года быў запісаны дакумент аб перадачы застаўнога дома на вул. Віленскай, які належаў Лукашу Война і Ізабэле Масальскай, падканцлеру ВКЛ Стэфану Пацу ад Яна Міцуты і Марыны Сапоцкаўны. Да запісу дадаваўся інвентар дома за 1632 год (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 2–4.). Быў актыкаваны ліст за 1637 год, у якім Ласко Пятровіч і яго жонкі Ахапка Янаўна размеркавалі маёмасць паміж сынамі Васілём, Лявонам і Багданам (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 6–7). Было запісана рашэнне асэсарскага суда 1606 года аб выплаце гораду падаткаў Даротай Дэнбіцкай з дому на вул. Замкавай (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 8–9).

Акрамя актыкацыі дакументаў бурмістраўска-радзецкі суд разглядаў справы аб пазыках (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 5–6, 18, 24адв.–25, 28–29адв., 43–43адв., 45–46адв.), спадчыне (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 32адв.–33адв., 80–80адв.), невыкананні тэстаментаў (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 35адв.–36), спрэчкі гарадзенскіх мяшчан з мяшчанамі з іншых гарадоў Рэчы Паспалітай.[35] Напрыклад, справа су-

[35] НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк.7–7адв. У кнігі суда была ўнесена пратэстацыя варшаўскага мешчаніна Яна Гомера супраць музыкі каралеўскай капэлы Міхаіла Хей-

праць наваградскага мешчаніна Лявона Пахановіча паказвае, як на практыцы выконвалася пастанова аб забароне прышлым гандляваць у дамах, крамах і на Рынку без дазволу ўрада. У купца забралі тавар, і ён падаў скаргу на цэх. Спасылаючыся на прывілеі 1496 года, канфірмацыю для гарадзенскіх цэхаў 1579 года і 1612 года, пацвярджальны прывілей Уладзіслава IV (1633) гарадзенцы даказалі, што мелі права канфіскаваць маёмасць. У выніку купец адступіў ад сваіх прэтэнзій (1639) (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 34–34 адв.).

Суд разглядаў спрэчкі паміж раменнікамі,[36] цэхамі,[37] канфлікты ў цэху.[38] На пасяджэннях суда прымаліся вількеры 1570, 1639, 1645 гадоў, якія рэгулявалі адносіны паміж раменнікамі.[39]

Рашэнне гарадзенскай рады і лавы можна было абскардзіць у асэсарскім судзе. Пастановы гэтага суда былі канчатковымі і падлягалі выкананню. Акрамя таго, вялікаму князю літоўскаму і польскаму каралю можна было падаць скаргу на дзеянні суддзяў. Для прыкладу адзначым, што берасцейскі бурмістраўска-радзецкі суд займаўся таксама такімі справамі, як і гарадзенскі – разбіраў спрэчкі паміж цэхамі і ўнутры цэхаў, актыкоўваў лісты куплі-продажу, арэнды, даравальныя запісы, прысягі і інш. Аднак сярод дакументаў су-

варта (1639). Арк. 16адв.–17. Радца Станіслаў Бельскі судзіўся з ковенскім мешчанінам Бернатам Рлумновым з прычыны невяртання яму тавару і грошай (1639).

36 Альжбета Чэрнеўская ад імя свайго мужа катляра Валентыя Чэрнеўскага, праз сына Якуба падала скаргу супраць катляра Яна Лукашэвіча Янушэвіча з-за катлярскай працы. У выніку прысудзілі Яну выканаць сваю працу з медзі і вызвалілі ад позвы. Ян Лукашэвіч Янушэвіч падаў скаргу аб абразе свайго таварыша Крыштафа Амбражэвіча (1639) (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 10–11).

37 Раменнікі слесарскага, кавальскага, катлярскага, мечнічага цэху падалі скаргу супраць шапнікаў, сядзельнікаў, стэльмахаў, рымарскага, што тыя не прытрымліваюцца выдадзенага цэхам прывілея Жыгімонта Вазы і не трымаюць парадак у касцёле і горадзе. Даказваючы сваю праўату, удзельнікі спасылаліся на вількер 1570 года, яго пацвярджэнне ў 1579 і 1612 гадах і іншыя дакументы. Канфлікт прывёў да з'яўлення вількера (1639) (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 17адв., 22–24).

38 Цэхмайстр кравецкага цэху Станіслаў Ослінскі падаў скаргу на Максіма Адамовіча, Яраша Ушкоўскага, Яна Валдшэвіча, Крыштафа Жукевіча, Геліяша на Гарадніцы, Яна Дземяновіча, Аляксея Аплевіча і Сцяпана Аплевіч. На позву ў суд многія адмовіліся ісці (1639). *"Naprod Jan Naldyszewicz powiedziałł nie poyde ia do cechu y nie bedę bywałł bo to wszytko plotki a co po nia dasz ze tam są PP Rayce niechay za im mioda dostatek dadzą a chłopca mego niechay do siebie wezmę. Marcin Adamowicz powiedziałł nie poyde a gwałtem tez PP. Bracia nie przymuszą. Jarosz Uszakowski miałł się stanac a zona iego powiedziała ze moy mąz rzemesła nie robi ia sama robię a mąz tylko skraie robotę. Stephan Awrełowski był w cechu ali od lat 9 wolnosci cechowey zazywałł a nic nie daci. Krzysztoph Zwykiwicz nie zastali go, a zona iego powiedziała ze moy mąz rzemesła krawieckie(g)o nie robi te w miescie ale po szlachci robi".* Раменнікі не хадзілі на сходы, імшы, адмовіліся падпарадкоўвацца пастановам суда (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 18, 19адв., 38адв.–39).

39 Вількер 1570 годзе быў прыняты на бурмістраўска-радзецкім судзе, яго зацвердзіў Стэфан Баторы ў 1579 годзе (НГАБ, КМФ-18, спр. 62, арк. 75–79адв.; Стрэнкоўскі, 2008: 150; Шаланда, 2002: 114–119).

стракаюцца тэстаменты, чаго не было ў гарадзенскім судзе.

## Парушэнні ўраднікаў

Нельга казаць, што гарадзенскія ўраднікі працавалі бездакорна. Кніга бурмістраўска-радзецкага суда пра парушэнні з боку ўраднікаў утрымлівае ўскосныя звесткі, больш дэталёва іх прадстаўляюць пастановы Асэсарскага суда пры польскім каралі і вялікім князі літоўскім, выпісы з гарадзенскага гродскага суда. Магістрат не падпарадкаваўся загаду польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Вазы і не ўвёў каралеўскага намесніка Юзафа Горскага ў валоданне маёмасцю, якая засталася пасля мешчаніна Марціна Мораўскага. Апошні памёр, не пакінуўшы спадчыннікаў (1631). Па кадуковым праве такой маёмасцю распараджаўся гаспадар.[40] Горад на судзе прадстаўлялі лаўнік Войцех Боленскі, Фёдар Юрэвіч і радца Фёдар Багдановіч. У 1633 годзе прысудзілі магістрату ўвесці Горскага ў валоданне (НГАБ, КМФ-18, спр. 312, арк. 54адв.–56 адв.).

Шэраг скарг – яны змешчаны адна за другой у Метрыцы ВКЛ – сведчаць пра канфлікт паміж войтам Канстантыям Александровічам і ўсімі ўраднікамі (1634). Мяшчане абвінавачвалі войта ў парушэнні іх правоў, гарантаваных прывілеямі вялікіх князёў літоўскіх. У сваю чаргу Александровіч абвінаваціў лаўніка Станіслава Цвікліча і радцу Гануса Фандэберка ў свавольстве, непадпарадкаванні ўраду, выкарыстанні зброі, стварэнні небяспечных сітуацый у горадзе. Разам з іншымі яны 13 лютага 1634 года напалі на харугву Сяліцкага, забралі ў яго і таварышаў коней, зброю, серабро, грошы, шаты, а пасля іх прадалі. Абодва не падпарадкаваліся войту. Аднак усе справы былі закрыты і закончаны без прысуду (НГАБ, КМФ-18, спр. 312, арк. 89адв.–92).

Пагром харугвы пацвярджае скарга Уладзіслава Дамброўскага. Мяшчане забралі ў яго рэчы і не вярталі. На асэсарскім судзе інтарэсы гарадзенцаў абараняў умацаваны Station Станіслаў Цвікліч. Прысутнічалі мяшчане, радца Войцех Весянеўскі, аптэкар Марцін Фандэберк, Тамаш Рымар, Гаспар Шчэсновіч. Рэчы не маглі на той час аддаць, бо яны знаходзіліся пад арыштам у казакоў. У Гародню для высвятлення справы быў адпраўлены ашмянскі харужы Далмат Ісайкоўскі (1636) (НГАБ, КМФ-18, спр. 316, арк. 66–67 адв.).

У сувязі са Смаленскай вайной 1633–1634 гадоў па Гарадзеншчыне праходзілі войскі Рэчы Паспалітай. Уладзіслаў IV выдаў загад вайскоўцам (9 чэрвеня 1633 г.), а пасля асобна палкоўніку Арцішэўскаму (4 ліпеня), каб войскі не размяшчаліся ў Гародні, навакольных вёсках, не наносілі шкоды насельніцтву і не збіралі з іх зборы (НГАБ. КМФ-18, спр. 213, арк. 150адв, 161–161адв.). Аб канфліктах з войскам згадваецца ў тэстаменце радцы Фёдар Багдановіч (НГАБ,

40 Кадуковае права прадугледжвала, што калі ўласнік маёмасці паміраў без нашчадкаў, то ўласнасць пераходзіла да вялікага князя літоўскага і ён меў права ёй распараджацца.

Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 150–155). Такім чынам, наяўнасць войска справакавала канфлікты. Мяшчане не падпарадкаваліся войту. Справы былі закрыты, каб сітуацыя канчаткова не абвастралася. Напрыклад, каб не было пастояў войска падчас Смаленскай вайны і іншых выпраў, Берасце заплаціла ў скарб грошы. На гэта было выдаткавана ў 1634 годзе 1 634 злотых (НГАБ, Ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 215-216).

Музыка гарадзенскай каралеўскай капэлы Марк Хейбовіч абвінавачваў магістрат у прымушэнні выконваць абавязкі месцкага шафара.[41] За адмаўленне ўраднікі пагражалі браць падаткі звыш меры. Умацаваны ад магістрата Мікалай Кандзіда Вішнявецкі настойваў на тым, што ніхто не можа быць вызвалены ад выплат на горад, як і ад шафарства. Ён сцвярджаў, што пагроз з боку магістрата не было і грошы не вымагалі. Па каралеўскім прывілеі музыка быў вызвалены ад гарадского падпарадкавання, адпаведна – ад займання пасадаў. Таму прэтэнзіі з боку горада былі няслушнымі. Гарадзенскаму эканому Гедыёну Трызне даручалася выехаць у горад і разабрацца ў справе. У судовай кнізе бурмістры і радцы абяцалі выканаць пастановы асэсарскага суда (1639) (НГАБ, Ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 18; КМФ-18, спр. 316, арк. 296 адв.–297адв.).

Гарадзенскі зямянін Мікалай Сцяцкевіч падаў у 1647 годзе скаргу ў гарадзенскі гродскі суд на гарадзенскі магістрат, а менавіта на лентвойта Андрэя Каспровіча, бурмістра Яраша Высоцкага, радцаў (Грыгора Варабеевіча, Тамаша Лагоўскага, Яна Смяроўскага, Яна і Паўла Цвіклічаў, Яна Адамовіча, Лукаша Неапаліту, Паўла Кроснеўскага, Мікалая Кудаеўскага), лаўнікаў (Матэўша Ябланоўскага, Адама Цвікліча, Фольтына Шульца, Войцеха Пятроўскага). У гэтым жа годзе ён падаў у суд дэкрэт асэсарскага суда 1645 года аб гвалтоўным нападзе на яго дом Станіслава Цвікліча. Аднак магістрат нічога па справе не рабіў, пераносіў тэрміны разгляду справы 4 разы. Сцяцкевіча абражалі, дэкрэты асэсарскага суда не запісалі ў кнігі, абаранялі інтарэсы Цвікліча. 18 мая 1647 года гарадзенскі возны Вацлаў Мучынскі прысутнічаў на пасяджэнні ў ратушы пры разглядзе справы. Ён пацвердзіў зняважлівае стаўленне да каралеўскіх дэкрэтаў і пагрозы здароўю Сцяцкевіча.[42] У сваёй скарзе шляхціч адзначыў, што магістрат карыстаўся не сваім магдэбургскім правам, а нейкай “мужыцкай фантазіяй”. Сапраўды, дзеянні ўраднікаў не адпавядалі заканадаўству. Яны праявілі поўнае непадпарадкаванне распараджэнням вышэйшага апеляцыйнага суда: не актыкавалі дэкрэты, не разгледзілі справу, не пакаралі злачынцу, абразілі шляхціча і асэсарскі суд. У дадзеным выпадку Сцяцкевіч вымушаны быў звярнуцца да гродскага суда.

## Высновы

Такім чынам, кніга гарадзенскага бурмістраўска-радзецкага суда сведчыць, што ўстанова працавала ў адпаведнасці з прывілеямі і заканадаўчымі актамі. Варта адзначыць, што “Саксонскае Люстра” і “Вейхбільд” не былі вытворнымі грамадства

ВКЛ. Яны былі створаны ў перыяд Сярэднявечча на іншай тэрыторыі і не зусім адпавядалі рэаліям нашай краіны ў XVI–XVII стагоддзях. Прыведзеныя ў іх артыкулы выкарыстоўваліся мяшчанамі ў той ступені, у якой гэта было неабходна. Важнае значэнне мелі мясцовыя пастановы і ўсталяваныя звычаі.

Запісы бурмістраўска-радзецкага суда характарызуюцца лаканічнасцю, што звязана з платай за актыкацыю. Калі ў шляхецкіх дакументах падрабязна апісаны абставіны справы, то ў мяшчанскіх прадстаўлена толькі спасылка на папярэднія дакументы. З гэтай прычыны без усіх дакументаў цяжка ўстанавіць карціну цалкам. Варта адзначыць, што сяродураднікаў былі адукаваныя асобы, абазнаныя ў магдэбургскім праве. Пры гэтым у працы суда не абышлося без канфліктаў, злоўжыванняў і правапарушэнняў.

Кніга бурмістраўска-радзецкага суда з'яўляецца вельмі важнай крыніцай па працы судовай установы. Яна ўтрымлівае інфармацыю пра перыядычнасць пасяджэнняў суда, яго склад, характар разгледжаных судовых справаў, нормы права, якімі кіраваліся пры вынясенні прысуду.

**Літаратура**


1. *Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов* (1874). Т. 7. Акты Городненского гродского суда. Вильна.
2. Бардах, Юліўш (2002). "Лад местаў на магдэбургскім праве ў Вялікім Княстве Літоўскім да паловы XVII ст.", *Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага*. Мінск: Медысонт: 103–160.
3. Білоус, Наталія (2008). *Київ наприкінці XV у першій половині XVI століття. Міська влада і самоврядування*. Київ: Вид. дім «Києво-Могилянська академія».
4. Галубовіч, Віталь (2009). "Справа пра напад на гарадзенскі кляштар францысканцаў 1645 г.", у А. Ф. Смаленчук, Н. У. Сліж (рэд), *Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст.* Гародня: 253–257.
5. Галубовіч, Віталь (2011). "Канфірмацыйны прывілей Гародні на магдэбургскае права 1633 г.", у А. Ф. Смаленчук, Н. У. Сліж (рэд). *Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст.* Мінск: выд. Зм. Колас. С. 255–269.
6. Гардзееў, Максім (1998). "Полацкія магістрацкія кнігі другой паловы XVII ст. як гістарычная крыніца", *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Матэрыялы II Міжнароднай навуковай канферэнцыі*. Полацк: 76–79.
7. Гардзееў, Максім (2004). "Акты па аперацыях з нерухомасцю ў полацкіх магістацкіх кнігах другой паловы XVII ст.", *Commentarii Polocenses Historici*, № 1: 50–58.
8. Гардзееў, Максім (2005). "Акты па праблемах самакіравання паводле полацкіх магістрацкіх кніг другой паловы XVII ст.", *Commentarii Polocenses Historici*, № 2: 13–18.
9. Доўнар, Аляксандр (2009). "Пастанова камісараў Яна Казіміра Вазы 1650 года аб парадку кіравання ў Гародні", у А. Ф. Смаленчук, Н. У. Сліж (рэд.), *Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XXст.*, Гародня: 118–127.
10. Дружчыц, Васіль (2009). "Магістрат у беларускіх местам з майдэборскім правам у XV–XVI сталецьцях", *Arche. Пачатак*, № 7: 241–337.

11. Копысский, Зиновий (1975). *Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в.* Минск: Наука и техника.
12. Латышонак, Алег (2009). *Нацыянальнасць – Беларус.* Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае Гістарычнае Таварыства.
13. НГАБ (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), Ф. 1761, воп. 1, спр. 1.
14. НГАБ (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), Ф. 1786, воп 1, спр. 1–3.
15. НГАБ (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), Ф. 1800, воп. 1, спр. 1.
16. НГАБ (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), КМФ-18, спр. 62, 92, 124, 213, 255, 312, 316.
17. *Саксонское зерцало. Памятник, комментарии, исследования* (1985). Отв. ред.: Корецкий В.М. Москва: Наука.
18. *Саксонскае Люстра: помнік прававой думкі Германіі XIII ст.* (2005). Пер. са старжыт. ням. і лацін. моў, прадм. і камент. В. Б. Келер. Мінск: Медысонт.
19. Сліж, Наталля (2012). "Магдэбургскае права ў Гародні ў канцы XV – першай палове XVI ст.: увядзенне і развіццё" у А. Ф. Смаленчук, Н. У. Сліж (рэд). *Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV–XX стст.* Мінск: выд. Зм. Колас: 10–44.
20. Стрэнкоўскі, Сяргей (2013). *Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV– XXVIII ст.).* Мінск: Мінскі дзяржаўны інстытут развіцця адукацыі.
21. Стрэнкоўскі, Сяргей (2008). *Прывілеі і вольнасці беларускіх гарадоў з нямецкімі правам у канцы XIV – канцы XVIII стст.* Мінск: МГІРА.
22. Тарановский, Фёдор (1897). Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи. Историко-юридическое исследование. Варшава: типография Варшавского учебного округа.
23. Шаланда, Аляксей (2002). "Пергаміны канца XVI–XVII ст. на лацінскай і польскай мовах у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея", *Герольд Litherland*, № 3–4 (7–8): 114–119.
24. Яцкевіч, Зміцер, Урублеўскі, Вадзім (2009). "Гарадзенскі магістрат у XVII ст.", у А.Ф. Смаленчук, Н.У. Сліж (рэд.) *Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст.* Гародня: 77–78.
25. AGAD (Archiwum Główne Akt Dawnych), Archiwum Radziwiłłów, dz. XVIII, sygn. 304, 318.
26. AGAD (Archiwum Główne Akt Dawnych), Takzwana Metryka Litewska, I. B. 31.
27. Borodziuk, Wojcech (1989). "Andrzeja Lipskiego Observationes pracicae", *Czasopismo Prawno-Historyczne,* t. XLI, zesz. 2: 69–84.
28. Bukowska, Krystyna. *Orzecznictwo krakowskich sądów wyższych w sporach o nieruchomości miejskie (XVI–XVIII w.). Studium z historii prawa rzymskiego w Polsce.* Warszawa: Wydaw. UW, 1967.
29. Esreicher, Karol (1901). *Bibliografia Polska. Stólecie XV–XVIII*, t. XVIII, Kraków.
30. Hardziejeu, Jury (2001). "Przyczynek do dziejów kancelarii miejskich grodzieńskich w XVI-XVIII w." *Białostoćczyzna*, № 1–2 (61–62): 3–12.
31. Jasker, Nicolaus (1535a). *Juris provincialis quod Speculum Saxonum vulgo nuncupatus libri tres opera vigilanti in correctiorem redacti materiam, adjuncti simul glossis aliisque additionibus noviter reccollectis pro interpraelatione textus magis neccessariis Annotatainsuper in marginibus habentur loca legum Jurisque municipalis Magdeburg.* Cracoviae.
32. Jasker, Nicolaus (1535b). *Juris Municipalis Majdeburgensis Liber vulgo Weichbild nuncupatus ex vetustissimis exemplaribus vigilanti opera nuper latinitatis datus, summaque diligentia recognitus, adjunctis simul glossis et lextus interpretationibs ad id necessariis.* Cracoviae.

33. Jasker, Nicolaus (1535c). *Promptuarium Juris Provincialis Saxonici, quod Speculum Saxonum vocatur, tum et Municipalis Maideburgen summa diligentia recollectum et ad communmu editum utilitaten*. Cracoviae.
34. Jaworski, Iwo (1931). "Studia nad ustrojem miast na prawie niemieckim w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Jagiellońskiej", *Rocznik Praniczo-Wileński,* 5: 297–352.
35. Karpavičienė, Jolanta (2005). *Moteris Vilniuje ir Kaune XVI a. pirmojoje pusėje: gyvenimo sumiestinimo Lietuvoje atodangos.* Vilnius: Versus aureus.
36. Kowalski, Grzegorz (2011). "Znaczenie twórczości Pawła Szczerbica dla rozwoju kultury prawnaej polskiego Odrodzenia", *Szczerbic P. Ius municipale, to jest prawo miejskie majbeburgskie, nowo z łacińskiego i z niemieckiego na polki język z pinością i wiernie przełożone*. Kraków: Księgarnia Akademicka: I–XXXV.
37. Kutrzeba, Stanisław (1987). *Historia źródł dawnego prawa polskiego*. T. 1. Lwów; Warszawa; Kraków: Krajowa Agencja Wydawnicza.
38. LMACB (Lietuvos mokslų akademijos centrenės bibliotekas) Rankraščių skyrius, f. 16-207.
39. LVIA (Lietuvos Vaistybes istorijos archyvas), f. 1282, ap, 1, b. 5302, 7021.
40. Lipski, Andrea. *Practicarum observationum ex jure civili et Saxonico collectarum, et ad stylum usumque judiciorum curiae regalis accommodatarum*, centuria I[-II] 2, centuriae II. Riga 1602; Kraków 1619; Kraków 1620; Poznań 1626; Gdańsk 1627.
41. Lűck, Heiner (2007). "Prawo magdeburskie jako czynnik identyfikacji europejskiej rodziny miast", *Europejskie miasta prawa magdeburgskiego. Tradycja, dziedzictwo, identyfikacja*, Kraków: Muzeum Historii Miasta Krakowa: 41-50.
42. LVIA, F. 23, ap. 1, b. 1, 2.
43. Łaski, Jan (1506). *Commune incliti Poloniae Regni Privilegium Constitutionum et indultuum publicitus decretorum approbatorumque. Cum nonnullis iuribus tam Divinis quam humanis per Serenissimum principem et dominum Alexandrum Dei gratia Regem Polonie, magnum ducem Lithuanie, Russie, Prusieque dominum et heredem etc*. Cracovia.
44. Mazurkiewicz, Józef (1962). "O zmianach treści terminu landwójt", *Czasopismo Prawno-Historyczne,* t. XIV, zeszyt 2: 171–174.
45. Ptaśnik, Jan (1920). *Miasta w Polscie*. Lwów.
46. Ragauskas, Aivas (2002). *Vilniaus miesto valdantysis elitas XVII a. antrojoje pusėje (1662–1702 m.),* Vilnius: Diemedžio leidykla.
47. Rymaszewski, Zygfryd (1975). *Łacińskie teksty Landrechtu Zwierciadła Saskiego w Polsce. Versio Vratislaviensis, versio Sandomiriensis, Łaski*. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk: Zakład Narodowy im. Ossolińskich. Wydaw. Polskiej Akademii Nauk.
48. Rymaszewski, Zygfryd (1985). *Łacińskie teksty Landrechtu Zwierciadła Saskiego w Polsce. Jaskier – tekst główny i noty marginesowe*. Łódź: Wydawnictwo UŁ.
49. Rymaszewski, Zygfryd (2000). "Kilka uwag po lekturze Andrzeja Lipskiego Observationes practicarum", w A. Pikulskiej-Robaszkiewicz (red.), *Profesorowi Janowi Kodrębskiemu in memorium,* Łódź, 2000: 332–338.
50. Schwerin, Claudius von (1918). *Leges Saxonum und Lex Thuringorum.* Hannover [u.a.].
51. Sliž, Natallia (2013). "Testamenty mieszczan grodzieńskich w pierwszej połowie XVII w.", *Kwartalnik Historii Kultury Materialnej*, t. 61, z. 2: 305–316.
52. Stankowa, Maria. (1968). *Kancelaria miasta Lublina XIV-XVIII w.* Warszawa: Państwowe Wydawn. Naukowe; Oddz. w Łodzi.
53. Vilnau Universiteto Bibliotekos Rankraščių skyrius, f. 7, Kauno magistrato aktų knyga, 1522–1545, 1587–1591; 1604–1610, 1603–1629.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 22-23, 2014-2015

Юрась Бачышча

# Біблійныя ўплывы на Статуты Вялікага Княства Літоўскага

Даследчыкі з розных краін адзначаюць выключныя ўплывы Бібліі на іх грамадска-палітычныя і прававыя традыцыі побач з уплывамі на іншыя сферы жыцця грамадства (Циммерман, 2006; Grudem, 2010; Spencer, 2012). *“Біблія традыцыйна прызнаецца найважнейшай з кніг, на каторых заснавана як вяршэнства закону, так і станаўленне дэмакратычных інстытутаў на Захадзе”* – піша Аўгуста Цымерман (2006). Уэйн Грудэм (Grudem, 2010: 16) у прадмове да сваёй грунтоўнай кнігі, дзе ён разглядае, як біблійнае вучэнне стала асновай палітыка-прававой культуры амерыканцаў, сцвярджае, што *“прынцыпы і вучэнне Бібліі ўтрымліваюць мудрасць, якая будзе карыснай для ўсіх народаў і ўсіх урадаў”*. Мастак Поль Рабэр (1851–1923) у 1905 годзе ў старым будынку Вярхоўнага Суда ў Лазанне стварыў фрэску “Справядлівасць узвышае нацыі”, на якой багіня правасуддзя Немезіда мела развязаныя вочы, а вастрыё мяча паказвала на разгорнуты Закон Божы. На думку вядомага хрысціянскага філосафа XX стагоддзя Фрэнсіса Шэфера (1912-1984) (Schaeffer, 2005:106), гэтая фрэска дэманстравала ідэю “свабоды без хаоса”, нагадваючы ўсім суддзям, якія ўваходзілі ў гэты будынак, што Біблія з’яўляецца асновай не толькі маралі, але і закона.

Некаторыя сучасныя польскія гісторыкі права таксама прызнаюць важнасць уплываў Бібліі. Анджэй Закрэўскі (Zakrzewski, 2012: 15) адзначае, што *“Статуты былі не толькі правам чалавечым, але таксама – як і ва ўсёй тагачаснай Еўропе – адкрыццём права Божага”*. Праўда, далей аўтар не паглыбляецца, у чым гэта выяўлялася.

У айчыннай гістарыяграфіі, у многім сфармаванай на секулярызаваным грунце, Пісанню адводзяць больш сціплае месца, чым на Захадзе. Не прэтэндуючы на глыбокі агляд гістарыяграфіі па пытанні, варта ўсё ж адзначыць, што беларускія гісторыкі права (Юхо, 1991; Доўнар, 2000; Доўнар, 2014; Васілевіч, 2001), якія разважалі над крыніцамі беларускага-літоўскага заканадаўства, звычайна адзначаюць уплывы звычаёвага, рымскага, нямецкага і польскага права, царкоўнага і кананічнага права, рэнесансных ідэяў і заходнееўрапейскага гарадскога права на прававую культуру ВКЛ, але ні слова не кажуць пра Біблію.

Толькі некаторыя аўтары закраналі гэтае пытанне, але звычайна ўскосна (Акіньчыц, 2003; Бокун, 2012; Падокшын, 2000; Томсинов, 1992). Найбольш блізка да разглядаемага пытання падышла Ірына Вішнеўская

(Вішнеўская, 2009: 70–73). Пішучы пра прававыя погляды Францыска Скарыны, яна між іншым адзначае, што тагачасныя заканадаўцы, падобна Скарыну, *"імкнуцца ва ўсім кіравацца прынцыпам хрысціянскай справядлівасці, устанаўленнямі хрысціянскага права, пад якім разумеліся крытэры справядлівасці, вылучаныя ў Біблії"*.

Яшчэ адным аўтарам, які спрабаваў звярнуць увагу на "свяшчэннае пісанне" як на крыніцу права быў Мікалай Сільчанка. У адной са сваіх кніг (Сільчанка, 2012: 23) ён адзначае, што *"цікавым і маладаследаваным на сённяшні дзень з'яўляецца пытанне аб уплыве і ролі рэлігіі (Свяшчэннага пісання) на развіццё крыніц права..."*, а ў іншай кнізе (Сільчанка, 2008: 413–416) ён нават вылучае асобны раздзел "Свяшчэннае пісанне ў якасці крыніцы права". Аднак, хаця Сільчанка і прыгадвае Святое Пісанне як адну з крыніц права, само разуменне тэрміна "свяшчэннае пісанне" ў аўтара атрымліваецца настолькі шырокім, што ўключае ў сябе кананічнае і царкоўнае права і па сутнасці выступае проста як іх сінонім. Так, Сільчанка піша (Сільчанка, 2008: 413–414): *"У самым агульным плане пад свяшчэнным пісаннем, якое выконвала ролю крыніцы права раней, а таксама займае значнае месца сярод крыніц права ў некаторых прававых сістэмах сучаснасці, разумеюцца тэксты і правілы, якія змяшчаюцца ў Біблії, Каране, Суне, пастановах усяленскіх і памесных сабораў; правілы, якія выпрацавалі і сфармулявалі святыя апосталы і святыя айцы царквы; правілы, выдадзеныя па царкоўных справах царкоўнымі ўладамі і г.д."*. Атрымліваецца, што ва ўяўленні аўтара "свяшчэннае пісанне" хрысціян абазначае не толькі Біблію, але і ўвесь іншы корпус тэкстаў царкоўнай традыцыі, што, на нашу думку, некарэктна. У любым выпадку, аўтар не адносіць Біблію як крыніцу непасрэдна да Статутаў ВКЛ.

Многія даследчыкі адзначаюць, што пры стварэнні Статутаў ВКЛ важную ролю мела царкоўнае і кананічнае права. Паводле Таісіі Доўнар (Доўнар, 2000: 40), *"у XVI ст. пад кананічным правам перш за ўсё разумелі каталіцкую сістэму норм "Корпус юрысканоніцы",*[1] *якая рэгулявала не толькі царкоўныя, але і свецкія адносіны (1582 г.)"*. У праваслаўным кананічным праве ў гэты час карысталіся Намаканонам.[2] Заўважна, што Доўнар не ўключае Біблію як адзін з тэкстаў кананічнага права, што з'яўляецца слушным, бо яе ідэі маглі быць асновай для

---

1 Corpus iuris canonici – корпус кананічнага права каталіцкай царквы, падрыхтаваны каля 1500 года, які ўключыў у сябе Дэкрэт Грацыяна з удакладняючымі яго папскімі тлумачэннямі. Корпус быў прыняты ў 1580 годзе і заставаўся асноўнай крыніцай кананічнага права каталіцкай царквы да 1918 года.

2 Номаканон – сістэматызаваны звод кананічнага права праваслаўнай царквы, які пачаў складвацца ў VI–VII стагоддзі ў Візантыі, дадаваўся на працягу стагоддзяў і ў канцы XV стагоддзя быў пашыраны сярод праваслаўных ва Усходняй Еўропе ў выглядзе Номаканона пры Вялікім Патрэбніку, а таксама ў выглядзе Кормчай Кнігі. Апошняя складвалася ва ўсходнеславянскіх землях на аснове Номаканона з XIII стагоддзя і дапаўнялася нормамі свецкага права.

тэкстаў кананічнага і царкоўнага права, але сама яна не належала да такога права, а ўяўляла сабой цалкам асобную крыніцу, якая выходзіла за вузкія межы царкоўнага права. Пра Слова Божае як самастойную крыніцу піша Ірына Вішнеўская (Вішнеўская, 2009: 71), гаворачы пра Скарыну, што *"пад пісаным правам беларускі правазнаўца разумеў не толькі дзяржаўныя законы («права земскае»), але і «от Бога ест данный» Боскі закон, крыніца якога была Біблія і «правила светых отець па сборех пописаные» (кананічнае права)"*.

Праблема, якая падымаецца ў нашым даследаванні палягае ў пошуку адказаў на пытанне, ці можна лічыць Біблію за адну з крыніц беларуска-літоўскага права XVI стагоддзя, і ў прыватнасці Статутаў ВКЛ. Ці займала гэтая кніга такое ж важнае месца, якое ёй надаюць на Захадзе? Наколькі значным быў уплыў гэтай кнігі на заканадаўства нашых земляў таго часу?

У дадзеным артыкуле аўтар зыходзіць з дапушчэння, што Біблія аказвала ўплыў на беларуска-літоўскае права, як гэта было і ў многіх іншых краінах Еўропы. Для праверкі гэтай гіпотэзы будуць вызначаны і прааналізаваны асноўныя ідэйныя кірункі таго часу, звернута ўвага на асобы стваральнікаў Статута, іх веру і жыццёвыя перакананні, на дамінуючыя на той час палітыка-прававыя вучэнні, а таксама непасрэдна на сам тэкст Статутаў.

На думку аўтара, большасць зменаў у Статутах, цалкам адпавядалі парадыгме набліжэння заканадаўства ВКЛ да біблейскага закону. Ужо тытульны аркуш Статута 1588 года з біблійнымі цытатамі яскрава паказвае ідэйны напрамак прававой думкі.

Біблійныя ўплывы на прававую культуру ВКЛ адбываліся рознабакова – *праз агульную атмасферу таго часу*, напоўненую адраджэнскімі і рэфармацыйнымі ідэямі, якія надавалі асаблівую ўвагу Біблii і абапіраліся на яе; *праз асобных людзей*, якія ў той час навяртаюцца да Бога і ствараюць трактаты аб палітычным і прававым уладкаванні, абапіраючыся на біблійнае вучэнне, ці непасрэдна ўдзельнічаюць у статутовых камісіях. І, нарэшце, найбольш важнае і істотнае – праз *само пашырэнне біблійных тэкстаў*, іх больш шырокае чытанне і вывучэнне. Важную ролю тут адыгрывала больш свабодная, не абмежаваная каталіцкай ці праваслаўнай царкоўнай традыцыяй, інтэрпрэтацыя Біблii.

Біблійныя запазычанні маглі быць як непасрэдныя – калі ўласна біблійныя тэксты браліся ў аснову артыкулаў статутаў, альбо маглі трапляць у законы ВКЛ з палітычных трактатаў ці другіх прававых крыніц, якія ў сваю чаргу таксама паспыталі на сабе пэўныя біблійныя ўплывы (накшталт Кодэксу Юстыніяна, кананічнага і царкоўнага права і інш.).

## I. Кантэкст эпохі

Зразумець творцаў Статутаў і іншых прававых помнікаў XVI стагоддзя немагчыма без разумення духу эпохі. Дуглас Келі ў сваім даследаванні з'яўлення свабоды ў сучасным свеце пісаў, што *"атэізм апошніх стагоддзяў ускладняе нашае перасоўванне назад у атмасферу Адраджэння і Рэфармацыі, калі ад-*

*носіны паміж Богам і чалавекам ці царквой і дзяржавай з'яўляліся вырашальнымі для разумення і здзяйснення глыбокіх пераменаў у эканамічнай, культурнай і палітычнай сферах жыцця*" (Келли, 2005: 7).

XVI стагоддзе – гэта быў час, калі Вялікае Княства ўступіла ў эпоху Адраджэння і Рэфармацыі. Ідэі Рэнесансу і Рэфармацыі амаль адначасова пранікалі на беларускія землі. Побач з цікавасцю да твораў старажытнасці, філасофаў антычнасці, Рэнесанс прынёс цікавасць і да чытання біблійных тэкстаў. Але калі Рэнесанс спалучаў гэта ўсё ў адно, то Рэфармацыя, надаючы Бібліі асаблівую вагу і аўтарытэт, узвышала яе як Слова Божае над усімі іншымі творамі. На падставе біблійнага паслання імкнуліся прасачыць іншыя сферы жыцця, упарадкаваць іх і суаднесці з Пісаннем, выправіць адпаведна яму ў выпадку супярэчнасцяў. Падкрэсліваючы патрэбу ў штодзённым чытанні Бібліі для кожнага чалавека, Рэфармацыя спрыяла яе перакладу на родныя мовы розных народаў Еўропы. У тым ліку ў XVI стагоддзі ў ВКЛ з'явіліся біблійныя кнігі, выдадзеныя Францыскам Скарынам, Радзівілаўская Біблія 1563 года, Біблія і Новы Запавет у перакладзе Сымона Буднага (1572, 1574, 1589), Евангелле (паводле Мацвея, Марка і Лукі) Васіля Цяпінскага (1580), а таксама шэраг праваслаўных выданняў – Астрожскай Бібліі (1581), некалькіх Евангелляў і Псалтыроў, выдадзеных у Заблудаве, Вільні, Львове, Астрозе (Трацяк, 2003: 30–34). Апроч таго, існавалі рукапісныя варыянты Пісання.

Новы ідэйны ўплыў вызначае фармаванне палітычнай і прававой культуры, фармуе шляхецкую дэмакратыю, пашырае ідэі "агульнага дабра", справядлівасці, грамадскага парадку, абмежавання ўлады манарха, абароны дзяржаўнага суверэнітэту, падзелу ўладаў і вяршэнства закона. Апошняе ў сваю чаргу станавілася магчымым толькі ў тым выпадку, калі дзяржаўныя ўлады былі гатовы прызнаць вяршэнства вышэйшых Божых законаў над дзяржаўным правам, бо сутнасць пытання пра вяршэнства закону зводзілася да таго, што чалавек бачыць крыніцай вярхоўнай улады – Бога як абсалют, ці непастаяннага грэшнага чалавека (Циммерман, 2006).

Фундаментальнай ідэяй Адраджэння станавілася ідэя свабоды. У ВКЛ яна праяўлялася ў ідэі свабоды рэлігійнай (верацярпімасці і раўнапраўя ўсіх хрысціянскіх канфесіяў), свабоды палітычнай і прававой (вяршэнства закону), свабоды нацыянальна-культурнай (развіцці духоўнай культуры на зразумелай мясцовай мове) (Падокшын, 2002: 26). Рэфармацыя надавала рэнесанснай свабодзе біблійны падмурак і парадак, абапіраючы яе не на свавольства чалавека, а на выкананне боскага маральнага закону. Свабода разумелася перш за ўсё як сцвярджэнне годнасці, правоў індывіда, асобна ўзятага чалавека як "стварэння Божага". Заахвочваўся зварот да чалавечага розуму, пошуку Божай праўды і справядлівасці, стваралiся больш прагрэсіўныя погляды на ўзаемаадносіны дзяржавы, царквы і грамадства, фармавалася судовая ўлада і правы асобы. У стаўленні да ўладаў Рэфармацыя актуалізавала біблійны прынцып "*слухайся больш Бога, чым чалавека*" (Дзеі 5:29).

Менавіта таму Сямён Падокшын (2000: 29) лічыў, што "*Адраджэнне і Рэфармацыя ў значнай ступені вызначалі беларускі менталітэт XVI – першай паловы XVII стагоддзя, што ў сваю чаргу аказвала істотнае ўздзеянне на характар і спецыфіку палітыка-прававой думкі эпохі*".

## II. Стваральнікі Статутаў

Безумоўна, каб зразумець дух Статутаў, іх нутраны сэнс, неабходна мець уяўленне пра тых людзей, якія займаліся іх стварэннем. Відавочна, што пішучы і рэдагуючы артыкулы Статутаў, тагачасныя правазнаўцы суадносілі іх змест са сваімі думкамі і ўяўленнямі. Іх прынцыпы і падыходы да тлумачэння права ўплывалі на канчатковы варыянт тэксту законаў і вызначалі тэндэнцыі ў развіцці права.

Хто ж былі гэтыя стваральнікі і якіх поглядаў яны трымаліся? На думку Язэпа Юхо, з-за недахопу дакументаў сёння немагчыма дакладна вызначыць, хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы першага Статута. Найбольш верагодным стваральнікам Статута ён бачыць Францыска Скарыну, які жыў у той час у Вільні, дзе вялася асноўная праца над Статутам, меў "*самую высокую для таго часу юрыдычную адукацыю*" і "*ведаў мясцовае звычаёвае беларускае права, гісторыю рымскага і права іншых дзяржаў*" (Юхо, 1991: 75–76). Юхо (1991: 76) адзначае сугучнасць прававых поглядаў і ідэй Скарыны з многімі нормамі Статута, і дадае, што "*урад меў намер выдаць Статут друкарскім спосабам*".

Нават калі Ф. Скарына сам непасрэдна і не быў у камісіі, то яго прававыя погляды, адлюстраваныя ў шматлікіх прадмовах да кніг Бібліі і самі тэксты нядаўна выдрукаванага на зразумелай мове Святога Пісання, павінны былі ўплываць на погляды сучаснікаў.

Звычайна, кажучы пра Ф. Скарыну, згадваюць, як ён паўплываў на пашырэнне і разуменне Бібліі – пераклаў, напісаў прадмовы і каментары, надрукаваў уласныя партрэтныя выявы, але чамусьці мала гаворыцца пра тое, як Біблія паўплывала на Ф. Скарыну, на яго перакананні і погляды. Чамусьці іх вытокі часам бачаць толькі ў валоданні першадрукаром асновамі антычнай і сярэднявечнай навуковай спадчынай, але на Біблію не звяртаюць увагі. А між іншым Біблія аказала найбольшы ўплыў на светапогляд і ўяўленні Ф. Скарыны, чым што-небудзь іншае. З гэтым згаджаюцца Янка Трацяк і Уладзімер Конан. Трацяк (2003: 24) піша, што ў скарынаўскіх прадмовах "*раскрываецца глыбока хрысціянскі светапогляд аўтара*". Паводле Уладзімера Конана (гл. Трацяк, 2003: 28) "*у творчасці Ф. Скарыны выразна «прачытваюцца» дзве асноўныя крыніцы яго светапогляду і асветніцтва: Біблія ў яе хрысціянскай інтэрпрэтацыі і рэнесансавая культура з яе культам красы і гармоніі*". Пра гэта ж пісала і ўжо прыгаданая намі Ірына Вішнеўская. Развіваючы тэму, яна зазначае (Вишнеўская, 2009: 71), што "*прававыя ідэі Скарыны, у тым ліку і погляды на класіфікацыю права, звязаны з Бібліяй, у якой, на думку мысліцеля, «... вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имають, написаны суть»*".

Францыск Скарына (1969: 95) сваёй дзейнасцю першым намеціў праграму рэформаў у галіне права, кладучы ў аснову біблейскі грунт, – "*И вчинены суть права, или закон, для людей злых, абы боячися казни, усмирили смелость свою и моци не имели иным ушкодити, и абы добрыи межи злыми в покои житии могли*".

На думку Скарыны, праведнаму закон не патрэбны, бо запісаны ў сэрцы і дзейнічае праз сумленне чалавека. Але мэта закона добрая, бо закон патрэбны для людзей злых, каб абмяжоўваў іх злыя памкненні. Такую выснову Скарына рабіў зноў жа абапіраючыся на Біблію – "*Мы ведаем, што закон добры, калі хто законна ўжывае яго. Ведаючы, што закон патрэбен не для праведніка, але для беззаконных і непакорлівых, бязбожных і грэшнікаў...*" (1 Цім. 1:8–9).

Біблійныя ўплывы на Скарыну яскрава праяўляюцца ў апісанні ім неабходных для суддзяў асабістых якасцяў. Услед за Бібліяй Скарына пісаў: "*судьи да судят людей судом справедливым и да не уклонятся ни на жадную страну, и да не зрять на лица, и не примають даров, поне же дарове ослепляють очи мудрых людей и зменяють слова справедливых*" (гл. Падокшын, 2000: 57). Гэтых прынцыпаў трымаюцца і выдаўцы Статутаў. Леў Сапега звяртаўся да станаў ВКЛ з нагоды прыняцця Статута 1588 года з наступнымі словамі, "*каб вы ў суды і ў трыбуналы выбіралі не толькі людзей добрых, якія гэтыя правы нашы добра ведаюць, але богабаязных і дабрадзейных, якія б не для карысці сваёй і на шкоду бліжняму з-за сквапнасці сваёй і для падарункаў справы скажалі, але, простым парадкам ідучы, святой праўды і справядлівасці прытрымліваліся, а тую свабоду, якой карыстаемся, у цэласці нам захавалі*" (Зварот ..., 2010: 554).

Як піша Сямён Падокшын, Скарына меў своеасаблівую тэорыю "натуральнага права", у якой юрыдычны і маральна-этычны сэнсы зліваліся ў адно. Паводле першадрукара, "*чалавечая прырода кіруецца ад Госпада Бога «двайным законам»: прыроджаным і пісаным*" (гл. Падокшын, 2000: 52). Прыроджаны закон уключаў у сябе маральна-прававыя паняцці, якія былі закладзены чалавеку Богам ад нараджэння. Сутнасць натуральнага маральна-прававога закону Скарына выводзіць з евангельскага паслання "*бо ўвесь закон у адным слове змяшчаецца: «любі бліжняга свайго як самога сябе»*" (гл. Падокшын, 2000: 54). Гэты закон, на думку Скарыны, дзейнічаў і да з'яўлення "пісанага" закона. Хаця пад "пісаным" законам Скарына разумее і Біблію, і пастановы людскія, але зазначае, што "*вси тыи права, или уставы, божий закон в собе замыкаеть*" (гл. Падокшын, 2000: 56).

Падокшын, аналізуючы прававыя погляды мысляроў ВКЛ, прыходзіць да высновы, што "натуральнае права", якое імі развівалася, было больш падобнае на ўяўленні сафістаў і антычных філосафаў Сакрата, Платона і Арыстоцеля, якія "*лічылі ідэальным такое дзяржаўнае ўладкаванне, якое было ў згодзе з боскай справядлівасцю*", і што "*існуюць боскія, няпісаныя законы, з якімі павінны ўзгадняцца законы чалавечыя, пісаныя*", чым на ўяўленні рымскіх юрыстаў пра "на-

туральнае права", якія абумоўлівалі яго толькі прыродай, без Бога. Таму, на думку Падокшына *"ва ўяўленні сярэдневяковых юрыстаў натуральнае права гранічна збліжалася з боскімі законамі – маральна-прававымі прадпісаннямі Біблії"* (гл. Падокшын, 2000: 38–39).

Скарына ў сваіх поглядах быў настолькі прагрэсіўным, што заклаў грунт для далейшых прававых рэформаў, якія неўзабаве адбыліся. Асноўны прынцып іх, паказаны самім асветнікам, – *апора на Слова Божае.* Яго ідэі ў далейшым развіваліся іншымі аўтарамі (Маджэўскім, Будным, Воланам, Сапегам) і ўваходзілі ў прававыя дакументы.

Сярод стваральнікаў Статутаў 1566 і 1588 гадоў мы знаходзім рэлігійных дзеячаў таго часу, якія безумоўна ведалі біблійныя тэксты, а таксама царкоўнае права – жаймойцкі біскуп Ян Даманеўскі, віленскі канонік і архідыякан Станіслаў Габрыяловіч, канонік і пазней жаймойцкі біскуп Станіслаў Наркускі. На жаль, дакументы не захавалі імёны тых, хто з праваслаўнага боку ўдзельнічаў у стварэнні Статутаў. Аднак у католікаў і праваслаўных, якія кіраваліся шмат у чым царкоўнай традыцыяй і царкоўна-кананічным правам, не было прынята надаваць выключнае значэнне Бібліі. Найбольш гэта было ўласціва дзеячам Рэфармацыі.

Звычайна даследчыкі Статутаў мала ўвагі надаюць удзелу пратэстантаў у стварэнні гэтых юрыдычных помнікаў. Хаця яшчэ Ф. Скарыну былі ўласцівы многія ідэі і каштоўнасці Рэфармацыі (Падокшын, 2000: 57). Нават павярхоўны агляд, паказвае, што прыхільнікі рэфармацыйных ідэяў складалі значную частку статутавых камісій 1566 і 1588 гадоў.

*"В годы такого быстрого и могучего развития религиозного разномыслия вообще и кальвинизма в особенности, как середина XVI столетия, и католические, и православные члены Статутовой Комиссии не могли остаться, все до одного, в лоне той церкви, по принадлежности к которой они были подобраны для работы над исправлением Литовского Статута 1529 г."* – пісаў расейскі гісторык Іван Лапо (1934: 45), ацэньваючы агульную атмасферу часу. Ён адзначае, што толькі сярод пяці вядомых сябраў каталіцкай часткі камісіі, якая пачынала складаць Статут 1566 года, двое, верагодна, сталі пратэстантамі – маршалак шляхты Ашмянскага павета і земскі віленскі суддзя Павал Астравіцкі і мінскі суддзя Марцін Валадковіч (Лаппо, 1934: 43–46). Аб прыналежнасці апошняга да кальвіністаў піша і Сямён Падокшын (2000: 23). Кіруючыя пасады ў статутавых камісіях займалі амаль выключна кальвіністы – Мікалай Радзівіл Чорны, Астафей Валовіч, Крыштаф Радзівіл, Леў Сапега (да 1586 года – кальвініст).

Сябрам рэдакцыйнай камісіі Статута 1566 года быў буйны дзяржаўны дзеяч і юрыст, кальвініст Мікалай Монвід-Дарагастайскі (Падокшын, 2000: 12). Па яго ініцыятыве ў 1577 годзе быў перакладзены з лацінскай мовы на польскую і выдадзены ў Лоску вядомы палітыка-прававы трактат Анджэя Фрыча Маджэўскага "Аб направе Рэчы Паспалітай", які, на думку С. Падокшына (2000: 2), значна ідэйна паўплываў на Статут

1588 года. Дапамагалі рыхтаваць гэтае выданне Сымон Будны, Мацей Стрыйкоўскі і Андрэй Волян. Апошні напісаў прадмову.

Чаму гэта важна ўлічваць, бо менавіта пратэстанты надавалі Бібліі найвышэйшы аўтарытэт, добра яе ведалі, імкнуліся пашыраць яе тэксты на зразумелых мовах і выбудоўваць сваё ўласнае жыццё, а таксама жыццё царквы і грамадства на падставе біблійных прыказанняў. "*Рэфармацыя – гэта ідэя. Ідэя аб неабходнасці пастаянна звяртацца да Бібліі як першаасновы хрысціянства і ў адпаведнасці з вобразам, які раскрыты ў Святым Пісьме, будаваць царкву, жыццё кожнай асобы і грамадства ў цэлым*", – піша ў сваім артыкуле сучасны пратэстанцкі пастар (Акіньчыц, 2002: 16).

Такое стаўленне да Бібліі яскрава прасочваецца як у "Лістах" Мікалая Радзівіла Чорнага да папскага нунцыя Алаіза Ліпамана, так і ў прадмовах да Берасцейскай Бібліі 1563 года. Прысвячаючы новае выданне Святога Пісання каралю Жыгімонту ІІ Аўгусту, Радзівіл з'вяртаецца да яго, як да "хрысціянскага караля", і натхняе Біблію "*старанна і часта чытаць, як Божую справу, ад якой залежыць усё на свеце*" (Найяснейшаму ..., 2012: 254). "*У гэтым Святым Пісанні кожны стан знойдзе і пабачыць, і навучыцца, пачынаючы ад Пана, як ён мае адпаведна кіраваць Рэччу Паспалітай, знойдуць таксама і падданыя, у якіх звычаях і ўчынках праведных перш перад Богам і сваімі начальнікамі яны павінны трываць... Вось і я шчырым сэрцам жадаю Вашай Каралеўскай Міласці..., каб меў ласку нагадваць і вучыць, каб слаўным Божым Законам, які ад даўняга часу быў між намі занядбаны, пастаянна, маючы яго цяпер ужо перад вачыма, карысталіся, цешыліся і ў ім практыкаваліся*", – піша Радзівіл далей у сваім звароце (Найяснейшаму ..., 2012: 254–255). Як бачым, друкуючы Біблію, Радзівіл ускладаў на яе вялікія надзеі, верачы, што яе будзе чытаць сам кароль і народ паспаліты розных станаў, і пераймаць боскія законы ў жыццё сваё і дзяржаўнае. Усведамляючы жыццёвыя перакананні Радзівіла і яго мары, можна ўпэўніцца, што, кіруючы складаннем Статута 1566 года і праводзячы дзяржаўныя рэформы, ён усяляк імкнуўся, каб яны адпавядалі Святому Пісанню.

У Радзівілаўскай Бібліі ў "Суме або Кароткім апісанні ўсяго Святога Пісання", можна знайсці і пэўныя прававыя погляды, уласцівыя мясцовым рэфарматарам. Так, пішучы пра "Закон", адзначаецца: "*паколькі чалавечая прырода пыхлівая і так сапсаваная, што людзі не хочуць самі сябе прызнаваць грэшнымі і маючымі патрэбу ў збаўленні, Бог даў праз Майсея Закон, напісаны на каменных табліцах, каб людзі, пазнаўшы праз яго грэх і ліхоту свайго сэрца, тым больш прагнулі прыйсця Хрыста*" (Сума ..., 2012: 257). Адсюль вынікае, што закон патрэбны, каб размежаваць грэх ад таго, што не з'яўляецца грахом. Падобныя думкі год раней выйшлі з-пад пяра Сымона Буднага ў "Катэхізісе" 1562 года. (Катэхізіс, 2005: 29) Яны грунтаваліся на словах апостала Паўла да Рымлянаў: "*я пазнаў грэх не інакш, як праз Закон*" (Рым. 7: 7) і "*Бо праз Закон*

*грэх пазнаецца*" (Рым. 3: 20). Таксама падкрэслівалася, што Ісус – гэта "*прыклад для нас, з якога мы павінны вучыцца спосабу добрага жыцця на свеце*" і Вышэйшы Суддзя, які "*прыйдзе, каб усіх судзіць і даць кожнаму паводле ўласных учынкаў яго цела, якія рабіў, ці добрыя, ці ліхія*" (Сума ..., 2012: 259).

Адным з арганізатараў падрыхтоўкі другой рэдакцыі Статута 1566 года называюць кальвініста Астафея Валовіча (1520–1587). Ён прымаў актыўны ўдзел у правядзенні аграрнай і судова-адміністрацыйнай рэформы і, верагодна, стаў пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага кіраўніком камісіі па дапрацоўцы Статута 1566 года. Валовіч быў актыўным абаронцам самастойнасці ВКЛ на Люблінскім сейме 1569 года, а таксама свабоды сумлення. Яго подпіс стаіць пад Варшаўскай канфедэрацыяй 1573 года (Падокшын, 2000: 12). Ён жа ўдзельнічае ў стварэнні Галоўнага трыбунала ВКЛ 1581 года і ўзначальвае статутавую камісію, якая працавала над апошнім выданнем Статута 1588 года. Анатоль Грыцкевіч (2005: 383) адзначае, што Валовіч "*садзейнічаў уключэнню ў Статут прагрэсіўных нормаў*", а ў сваім тэстаменце "*наказаў вызваліць усіх сваіх нявольных людзей*".

Звычайна, кажучы пра Статут 1588 года, прыгадваюць Льва Сапегу (1557–1633), але пры гэтым многія імкнуцца падаць яго як праваслаўнага ці каталіцкага дзеяча, хаця ён быў выхаваны пры двары Мікалая Радзівіла Чорнага, скончыў пратэстанцкі Лейпцыгскі ўніверсітэт і да 1586 года з'яўляўся кальвіністам. Безумоўна, такая пратэстанцкая спадчына і асяроддзе мусілі паўплываць на светапогляд Сапегі.

Падокшын (2000: 33) адзначае, што "*правасвядомасць выхоўвалася не толькі дзяржавай, існуючым законам, палітычнай літаратурай, але і рэлігійна-маральнымі павучэннямі (Прадмовы Скарыны, «Катэхізіс» Буднага і інш.)*". Змест і каштоўнаснае напаўненне гэтых павучанняў грунтаваліся на Бібліі. Будны, напрыклад, закранаў прававыя і палітычныя аспекты, тлумачачы чытачам асноўныя хрысціянскія праўды і таямніцы, сымбаль веры і дзесяць прыказанняў.

Вядомым мысляром таго часу лічыўся кальвініст Андрэй Волян, каралеўскі сакратар. Невядома, ці ўваходзіў сам А. Волян у склад статутовай камісіі, але відавочна, што яго ідэі ўплывалі на пэўныя прынцыпы Статута.

Волян (2009: 47) лічыў, што "*закон – ёсць маральнае правіла, якое дыктуецца здаровым розумам і ўхваляецца Божымі прыказаннямі*". Тут мы бачым працяг традыцыі злучэння маральна-юрыдычных аспектаў, закладзеную Скарынам. Волян трымаецца той жа біблійнай канцэпцыі натуральнага права, што і Скарына, пішучы "*пастулаты прававой навукі закладзены ў нашу свядомасць Богам. Яны, у прыватнасці, патрабуюць нікому не чыніць шкоды, не рабіць іншым таго, чаго мы не хочам сабе*" (Волян, 2009: 53).

Заклікаючы да працягу працы над удасканаленнем статутаў, Волян (2009: 52) піша "*на вялікі жаль, некаторыя законы, у свой час аднагалосна прынятыя нашымі продкамі, разыходзяцца з Божымі нормамі і многім нямала шкодзяць*".

Сярод такіх законаў Волян бачыў "*несправядлівы закон аб забойстве*" ці больш дакладна – адсутнасць смяротнага пакарання для шляхты за свядомае забойства просталюдзіна. Паводле дзейснага на той момант Статута 1566 года, у некаторых выпадках забойца мог адкупіцца "галаўшчынай" і не быць належным чынам пакараным. Волян лічыў гэта адступленнем ад Божага закону, які кажа: "*Хто праліе кроў чалавечую, таго кроў праліе чалавек*" (Быц. 9:6).

На думку Воляна (2009: 54): "*Бог не толькі санкцыянуе закон, які забараняе супрацьпраўнае забойства або гвалт у адносінах да іншай асобы, але і стварае ўладу, якая ажыцяўляе выкананне гэтага закону і мае права караць забойцу, каб забяспечыць мір у грамадстве*". Такой жа пазіцыі трымаліся Анджэй Фрыч Маджэўскі ў трактаце "Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай" 1551 года і Сымон Будны ў "Катэхізісе" 1562 года. Доказам таму, што гэтыя працы ўплывалі на заканадаўцаў з'яўляецца той факт, што, паводле трэцяй рэдакцыі Статута 1588 года (Разд. 12, арт. 1), свядомы забойца ўжо не мог адкупіцца грашыма, але мусіў несці адпаведнае смяротнае пакаранне незалежна ад свайго стану і вышыні паходжання. Закон зрабіў роўнымі ўсіх – і багатых, і бедных, што таксама адпавядае біблійнаму вучэнню.

Яшчэ адной несправядлівасцю, якая парушае палітычную і грамадзянскую свабоду, Волян лічыў адсутнасць законаў, якія б тычыліся маральна-этычных паводзінаў сужэнцаў і каралі за блуд. Бо "*апаганьванне чужога ложка ёсць злачынствам, блізкім да забойства*" (Волян, 2009: 63). "*Свабоднае хрысціянскае грамадства павінна пазбавіцца ад прытонаў распусты, публічных дамоў з іх бессаромнымі прыслужніцамі, і паставіць жорсткі заслон перад свабодай разбэшчанасці, якую суд Божы забараняе цалкам. ... Мудры заканадаўца аддае перавагу парадам здаровага розуму і перадусім патрабаванням ці забаронам, якія пад пагрозай суровага пакарання ставіць Божы закон*" (Волян, 2009: 68). У Статуце 1588 года з'яўляюцца артыкулы, якія рэалізуюць дамаганні Воляна і абмяжоўваюць блуд і распусту.

Як вядома, з поглядамі Воляна былі знаёмы стваральнікі Статута. Напрыклад, Аўгустын Ратундус меў магчымасць азнаёміцца з кнігай "Аб грамадзянскай або палітычнай свабодзе" яшчэ да яе выдання. Славуты юрыст адзначыў, што "*нічога не можа дадаць да гэтага твора, каб яшчэ болей падвысіць яго вартасць*", а пра самога Воляна дадаў, што "*сярод палякаў мала знойдзеш такіх аўтараў, якія б маглі з ім параўнацца*" (гл. Balinski, 1843: 28–29). Хаця Ратундус і не напісаў прадмову да твора Воляна, але бачна, што высока яго ацаніў. Сведчаньнем уплыву А. Воляна з'яўляецца і сам тэкст Статута 1588 года, куды былі ўключаны многія яго прапановы.

Самога Аўгустына Ратундуса І. Лапо (1934: 65–66) называе "прававерным каталікам", згадваючы, што той быў варожа настроены да "рознаверцаў" і абураўся з шырокай свабоды веравызнання, зацверджанай Жыгімонтам Аўгустам. Часта даследчыкі падкрэсліваюць важны ўнёсак Ратундуса і Пятра Раізія як спецыялістаў

па рымскім праве. Безумоўна, яны адыгралі пэўную ролю ў раманізацыі Статутаў, але іх ўплыў быў абмежаваны, і яго не варта перабольшваць. Так, насуперак адмоўнаму стаўленню Ратундуса да свабоды веравызнання, гэтая свабода гарантавалася як Віленскім прывілеем 1563 года ў складзе Статута 1566 года, так і Варшаўскай канфедэрацыяй 1573 года ў складзе Статута 1588 года. Не былі прыняты і прапановы замежных дактароў аб выданні Статута на латыні.

## III. Аналіз тэкстаў Статутаў

Яскравым прыкладам уплыву біблійных прынцыпаў з'яўляюцца самі прававыя помнікі ВКЛ. Першы статут у першым жа артыкуле, прадпісваў, што ніхто не будзе завочна пакараны, пакуль справа не будзе разгледжана ў судзе "*врадом права хрестьянского*" і "*водле звычаю и прав хрестьянских мають быти караны и сказываны подле тяжкости а легкости выступов своих*" (Статут … 1529, 2010: 436). Апошняе адпавядала евангельскай формуле аб пакаранні "*кожнаму паводле іх справаў*" (Мацьв. 16:27) ці старазапаветнаму "*колькасць удараў, хай адпавядае памерам праступка*" (Другазак. 25:2).

На першай тытульнай старонцы Статута 1588 года былі напісаныя словы з Бібліі, зварот да суддзяў: "*Глядзіце, што вы чыніце. Вы здзяйсняеце не суд чалавечы, але суд Божы…. Няхай будзе на вас страх Госпада*" (2 Крон 19:6–7)

Святое Пісанне ўсталёўвала пэўны прынцып адносна адказнасці кожнага толькі за свае ўчынкі і грахі: "*Хай не будуць забіваныя бацькі за сыноў і сыны за бацькоў, але хай кожны памірае за свой грэх*" (Друг. 24:16). Гэты ж прынцып знаходзім у прававых дакументах ВКЛ яшчэ XV стагоддзя. Прывілей 1447 года ў арт. 4 пастанаўляў, што ніхто іншы апроч вінаватага мае быць пакараны (Прывілей, 2010: 428). Дадатак "*подлуг права христианского*" сведчыць, што гэты прынцып узяты ў права менавіта з Бібліі. Усе далейшыя дакументы пераймалі гэты прынцып.

Статут 1529 года (Арт. 7) вызначаючы, што "*не маеть нихто ни за кого терпети, але кождый сам за себе*", змяшчаў наступныя словы – "*А веджо завжды врад хрестьянского права заховываючы, судом не поконавши, не маеть быти каран…*" (Статут … 1529, 2010: 436). Як заўважаем, тут неабходнасць суда перад здзяйсненнем пакарання называецца захаваннем права хрысціянскага, а сам артыкул забараняе караць каго-небудзь за чужую віну.

Яшчэ больш зразумела пра ўплыў Божага закону прамаўляюць наступныя рэдакцыі Статута. Так, Статуты 1566 года (Раздз. I, арт. 14) і 1588 года (Раздз. I, арт. 18) сцвярджаюць, што "*нихто ни за чий кольвек учинок не маеть каран и сказан быти, толко которим винен, кгдыж того право божое и справедливость хрестиянская учыть*" (Статут … 1566, 2010: 483; Статут … 1588, 2010: 560). Тут заўважна імкненне кіравацца "хрысціянскай справядлівасцю" пры складанні законаў дзяржавы. Як бачна, Біблія не лічылася толькі рэлігійнай кнігай, а Бог не быў Богам толькі для вернікаў хрысціян, але для ўсіх жыхароў ВКЛ.

Такія ўяўленні ўласцівы XVI стагоддзю, без разумення гэтага немагчыма зразумець тагачасных людзей і матывы іх учынкаў, у тым ліку і тагачасных заканатворцаў і суддзяў.

У прававых дакументах таго часу (Бельскі прывілей 1564 года, Статуты ВКЛ) гаворка вядзецца не проста пра вольнасці, а пра "вольнасці хрысціянскія". То бок сама назва паказвае, што ў той час свае вольнасці шляхта і магнаты не аддзялялі ад Хрыста. Гэтыя "*вольнасці хрысціянскія*" "*здаўна былі нададзены*" і "*прысягамі нашымі пацверджаны*" – гэта сведчыць пра даўнюю традыцыю дамовы (запавету) паміж уладаром і палітычным народам.

Пішучы ў Бельскім прывілеі 1564 года пра неабходнасць дапрацоўкі Статута, унясення правак, адзначаецца, што артыкулы патрэбна "*поправити и еще новых прибавити, згожаючи и примножаючи их прав выбраных и уфалы годных хрестиянских*" (Тэкст …, 2010: 478). І далей, калі гаворка вядзецца пра ўвядзенне ў Статут новых артыкулаў, якія апісваюць новую судовую сістэму, Бельскі прывілей (2010: 478) піша, што "*сами тые панове воеводове,… маючы напрод Пана Бога и справедливость светую перед очима своими, важили больш тую, а нижли которое в том по воли звирхности, владности и пожитки свои, над все наследуючи приказанне Божое, которое учит миловати ближнего своего яко себе, а с того ж показуется, абы один другого ничого не пожадал,…*". Іншымі словамі, самі ваяводы, якія раней судзілі людзей, прызнаюць, што па добрай волі, маючы перад вачыма Бога і Яго святую справядлівасць, каторую цэняць больш за сваю вышэйшасць, уладу і маёмасць, найперш кіруючыся прыказаннямі Божымі, любіць бліжняга як самога сябе і не пажадаць чужога…, ідуць на пэўныя саступкі ў сваёй ранейшай судовай уладзе.

Сама судовая рэформа ВКЛ сярэдзіны 1560-х гадоў, некаторыя аспекты якой адлюстраваны ў тэксце Бельскага прывілея 1564 года, заўважна абапіралася на біблейскае вучэнне пра суд, якое можна знайсці ў кнізе Другазаконня: "*загадаў я суддзям вашым: слухайце справу братоў вашых і судзіце справядліва, – суайчыннік ён ці прыбылец. Не глядзіце на асобу на судзе: выслухайце як вялікага, так і малога, не бойцеся ніводнай асобы, бо гэта суд Божы*". (Друг. 1:16–17) і "*Ва ўсіх брамах тваіх, якія дасць табе Госпад, Бог твой, устанаві суддзяў і загадчыкаў на працах на ўсе пакаленні, каб судзілі людзей справядлівым судом. Не крыві закону. Не глядзі на асобу і на падарункі, якія засляпляюць вочы мудрым і перакручваюць справы справядлівых. За справядлівасцю, за справядлівасцю ідзі следам, каб жыў ты і валодаў зямлёй…*" (Друг. 16:18–20).

Па-першае, рэформа дапускала да суда "*як малога, так і вялікага*", спрыяла больш справядліваму суду, уводзячы яго незалежнасць, таксама асуджала хабары і заклікала не глядзець на асобы. Увядзенне выбарных незалежных ад адміністрацыі судоў, стварыла падставы для рэалізацыі прынцыпу падзелу ўладаў, які як ідэя ўжо прасочваецца ў першым статуце.

Заўважны і ўплыў хрысціянскага маральнага закону адносна ілжэ-

сведчання. Як вядома, адно з дзесяці прыказанняў наўпрост забараняе казаць хлуслівае сведчанне. У іншых месцах Бібліі таксама чытаем: “*Калі суддзі, надзвычай уважліва праверыўшы, выявяць, што ілжывы сведка сказаў няпраўду супраць брата свайго, то хай яны зробяць яму тое, што ён меў намер зрабіць брату свайму; і так вынішчыш зло з асяроддзя свайго, каб другія баяліся і ніколі больш у асяроддзі тваім такіх рэчаў не адважваліся рабіць*” (Друг. 19:18–20).

Паказанні сведак суправаджаліся, як правіла, прысягай, якая прыносілася на Бібліі. Статут 1566 года вызначае, караць таго, хто ілжэсведчыў, адпаведным пакараньнем ажно да смерці: “*Яко в кождом учынку, за который горлом караюць, потреба доводов явных и ясных... А если бы хто кого обмовил в том учынку..., такий поведач, ... сам отсужением почтивости и горлом маеть бытии каран*” (Статут... 1566, 2010: 482).

Звяртае на сябе ўвагу і прысяга, якую давалі суддзя і падсудак. Усе яны прысягаюць “пану Богу”, абяцаюць “*водле Бога справядліва і водле статута ... судзіць, ...самога Бога і яго святую справядлівасць і права паспалітае і сумленне перад вачыма маючы*” (Статут... 1588, 2010: 585). Падобную клятву перад Богам прыносіў і судовы пісар.

Важнымі прынцыпамі, якія паходзілі з Бібліі і пераймаліся ў Статуце, былі – **вялікая каштоўнасць жыцця чалавека,** як *“створанага на вобраз Божы”* (Быццё 1:27 і 9:6), **каштоўнасць свабоды,** якая пачынаецца знутры чалавека з яго духоўнай свабоды і распаўсюджваецца на іншыя сферы, бо *“дзе Дух Гасподні, там свабода”* (2 Кар. 3:17), **маральнае вымярэнне закону,** адлюстраванае ў Дэкалогу (Вых. 20 і Другазак. 5), **роўнасць усіх перад законам,** бо *“кожны чалавек грэшны”* і *“кожны будзе пакліканы на суд”,* **права на прыватную ўласнасць** (Вых. 20:15, Друг. 5:19, Мацьв. 19:18 і інш.).

Павелічэнне цаны чалавечага жыцця адлюстравана ва ўвядзенні ў Статуце 1588 года (Раздз. 12, арт. 1) смяротнага пакарання за свядомае забойства шляхцічам чалавека простага стану (Статут... 1588, 2010: 671). Раней, паводле Статута 1566 года, шляхціц мог адкупіцца “галаўшчынай”. Таксама Статут (Раздз. 11, арт. 60) надаў каштоўнасць і жыццю ненароджаных дзяцей. Статут 1588 года за наўмыснае забойства дзіцяці ва ўлонні вызначаў смяротнае пакаранне як для самой жанчыны, так і для таго, хто ёй у гэтым дапамагаў (Статут ... 1588, 2010: 669–670). Ранейшая рэдакцыя Статута таксама карала гэтае злачынства, але больш лагодна. Таксама цяжарная, якая была прыгаворана да смяротнага пакарання, павінна была нарадзіць да спаўнення прысуду. То бок давалі магчымасць нарадзіцца дзіцяці (Статут ... 1588, 2010: 664).

Пераклікаецца з Бібліяй (Лічб. 35: 22–25) і артыкул (Раздз. 11, арт. 23) аб пакаранні за ненаўмыснае забойства. У такім выпадку той, хто забіў выпадкова, не мусіў карацца смерцю, але нёс пэўнае пакаранне і сплочваў “галаўшчыну” сям’і забітага (Статут ... 1588, 2010: 660).

Заўважна, што сямейныя каштоўнасці таксама запазычаны ў Статуце

(Раздз. 5, арт. 22) з Бібліі (Выхад 20:14; Кніга Святарская 18:5–30; 20:2–23). Біблійнае вучэнне часткова было перапрацавана і ўвабрана ранейшым кананічным правам, але ў XVI стагоддзі, з пашырэннем Рэфармацыі і друкаванага Божага Слова, і наўпрост уплывала на заканадаўцаў, якія чыталі Біблію, не абавязкова з'яўляючыся святарамі і ведаючы кананічнае ці царкоўнае права. Так, пастановы праваслаўнага кананічнага права (Номаканон) значна больш лагодныя да граху і прадугледжваюць шматварыятыўнасць пакаранняў за блуд і распусту, а Біблія і ўслед за ёй Статут былі больш адназначнымі. Статут прадпісваў: "*Уставуем,... абы подданные наши водле правъ Божихъ и хрестияньских жили в малъженстве*" (Статут ... 1588, 2010:628). Пераследаваліся распусныя паводзіны. За чужаложства Статут 1588 года (Раздз. 14, арт. 30) вызначаў смяротнае пакаранне, матывуючы гэта таксама як "абразу Бога" (Статут ... 1588, 2010: 688), падобна як таго патрабавала Кніга Святарская (20:10): *"хто будзе чужаложыць з чужою жонкай ці ўчыніць пералюб з жонкай блізкага свайго, будзе пакараны смерцю і чужаложнік, і чужаложніца"*. Згвалтаванне таксама каралася смерцю (Раздз. 11, арт. 12) (Статут ... 1588, 2010: 657).

Біблійнае разуменне павагі да бацькоў "*хто праклінае бацьку свайго і маці сваю, будзе пакараны смерцю*" (Сьвятар. 20:9) замацоўвалася ў Статуце 1588 года (Раздз. 8, арт. 7), які прадпісваў, што "*Калі б сын альбо дачка, забыўшы Госпада Бога, на бацькоў сваіх падняў руку, ударыў альбо штурхнуў у гневе, ад такога не толькі выракчыся можна, але судом па скарзе і доказам бацькоў да смяротнага пакарання асуджаны быць павінен*" (Статут ... 1588, 2010: 640).

Біблія гаворыць пра аднолькавае стаўленне да іншаземцаў "*такі ж самы закон будзе для тутэйшага і для чужынца, што лічацца ў вас іншаземцамі*" (Вых. 12:49), і Статут 1566 года (Раздз. 1, арт. 17) вызначае "*таксама і іншаземцы, і замежныя Вялікага княства прыезжыя і ўсякія прыбыўшыя людзі тым самым правам павінны судзіцца*" (Статут ... 1566, 2010: 484).

Юлія Доўнар адзначае (2005: 357-358), што *"са з'яўленнем статутаў карэнным чынам змяняюцца і прынцыпы пакарання. Калі раней яно мела мэтай кампенсацыю, то цяпер крымінальнае заканадаўства арыентуецца на прэвенцыю: як агульную так і асабістую"*. То бок акцэнт рабіўся на папярэджанні правапарушэння, а не на пакаранні. Дакладна, як дзесяць прыказанняў былі дадзены праз Майсея ізраільскаму народу, каб ён ведаў, што ёсць грэх, і не рабіў злога.

Статуты ВКЛ, нягледзячы на запазычанні з многіх біблійных прынцыпаў, натуральна, не сталі Бібліяй. Яны засталіся помнікам свецкага, а не рэлігійнага права. Але імкненне законатворцаў абаперці свецкія законы на біблійны маральны закон відавочнае. У тых выпадках, якія не былі закрануты ў Статутах, суддзям прадпісвалася кіравацца сумленнем і хрысціянскім правам (Раздз. 4, арт. 54) (Статут ... 1588, 2010: 608).

## Некаторыя высновы

Праведзены аналіз паказвае, што роля біблійных тэкстаў у фармаванні палітыка-прававой культуры жыхароў Вялікага Княства Літоўскага не знайшла шырокага адлюстравання ў беларускай гістарыяграфіі. Насамрэч, гэтая роля выключная і заўважная адразу пры бесстароннім разглядзе помнікаў права і палітычных трактатаў таго часу, а таксама аналізе твораў і дзейнасці шэрагу выбітных асоб, якія ўплывалі на палітычнае жыццё дзяржавы.

Мала хто з папярэдніх даследчыкаў звяртаў увагу на Біблію як на асобную крыніцу, якая ўплывала на стварэнне Статутаў ВКЛ. Хаця амаль усе адзначаюць пры гэтым важную ролю царкоўнага і кананічнага права як сістэматызаваных правілаў (нормаў) каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, якія датычылі не толькі царкоўнага ўладкавання, але закраналі і свецкае жыццё.

У аснову нормаў кананічнага права, безумоўна, браліся біблійныя тэксты, і таму ўжо тут можна пабачыць ускосныя ўплывы Пісання на Статуты, але яны на гэтым не заканчваліся. Не адмаўляючы ўжо прыгаданых іншымі даследчыкамі крыніц права, Біблію варта вылучыць як самастойную крыніцу права, якая паступова набірала вагу на працягу XVI стагоддзя, становячыся больш даступнай, чытанай і ўплывовай. Шырокае кола палітычнай эліты таго часу, якая прымкнула да ідэяў Рэфармацыі, сваю ўвагу ў пошуку прынцыпаў грамадскага жыцця звяртала не на кананічнае ці царкоўнае права, а непасрэдна на самі тэксты Слова Божага.

Боскі закон, які скіраваны ў вечнасць і апелюе да нязменнага маральнага абсалюту, якім з'яўляецца Бог і ягонае слова, перададзенае ў Бібліі, стаў трывалым падмуркам, які вызначыў развіццё прававой думкі ВКЛ і заклаў аснову для паступовага фармавання грамадства, якое кіруецца правам. Статуты ВКЛ з'яўляюцца таму добрым сведчаннем. Можна заўважыць, што біблійныя ўплывы павялічваюцца па меры пашырэння Рэфармацыі і аказваюць найбольшы ўплыў на дзве апошнія рэдакцыі Статутаў ВКЛ, у падрыхтоўцы якіх значную ролю адыгрывалі пратэстанты.

На жаль, далейшыя перамены ў духоўным жыцці Рэчы Паспалітай, прывялі да ігнаравання некаторых важных законаў, у прыватнасці, пра верацярпімасць, і выклікалі адыход саміх уладароў ад разумення сваёй ролі як "хрысціянскіх" каралёў, а шляхты ад "агульнага дабра", парушылі грамадскі мір і паступова прывялі Рэч Паспалітую да заняпаду.

**Літаратура**

1. Акіньчыц, Станіслаў (2002). "Рэфармацыя – аднаўленьне першапачатковага вобразу", у *Рэфармацыя і залаты век Беларусі*. Мінск: Беларускі кнігазбор.
2. Акіньчыц, Станіслаў (2003). "Час узнёсласьці". *Новы час,* 20.03.2003. URL (доступ 10.09.2013): http://belreform.org/news/200303.php

3. Бокун, Антоні (2012). “Рэфармацыя і Залаты Век Беларусі, або Як сьвядомасьць вызначыла быцьцё”, *ARCHE*, 112–113(1–2): 18–34
4. Васілевіч Рыгор, Доўнар Таісія, Юхо Іосіф (2001). *Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі.* Мінск: ВТАА “Права і эканоміка”.
5. Вішнеўская, Ірына (2009). “Прававая канцэпцыя Францыска Скарыны і Статут Вялікага князтсва Літоўскага 1529 г.”, у *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 года – падмурак развіцця беларускай дзяржаўнасці і канстытуцыяналізму (Да 480-годдзя прыняцця).* Мінск: БДУ.
6. Волян, Андрэй (1572; 2009). *Аб грамадзянскай, або палітычнай свабодзе.* Мінск: Выд. Зміцер Колас.
7. Грыцкевіч Анатоль (2005). “Валовіч Астафій”, у *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.* У 2 т. Т. 1: 383 Мінск: БелЭн.
8. Доўнар, Таісія (2014). *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: падручнік.* Мінск: Адукацыя і выхаванне.
9. Доўнар, Таісія (2000). *Развіццё асноўных інстытутаў грамадзянскага і крымінальнага права Беларусі ў XV–XVI стагоддзях.* Мінск: “Пропилеи”.
10. Доўнар, Таісія. (2008). “Прынцыпы справядлівасці і законнасці ў старажытным беларускім заканадаўстве”, у *Законность и правопорядок.* №1: 57–61.
11. Доўнар, Юлія (2005). “Уплыў Рэфармацыі на ўдасканаленне судовай улады ў Вялікім княстве Літоўскім”, у *Рэфармацыя і грамадства: XVI стагоддзе.* Мінск: Беларускі кнігазбор.
12. “Зварот падканцлера ВКЛ Л.Сапегі да саслоўяў ВКЛ з нагоды прыняцця Статута ВКЛ” (2010), у Т.У.Бялова (гал. рэд.), *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.* Т. 3. Мінск: БелЭн.
13. *Катэхізіс: Помнік беларускай Рэфармацыі XVI ст.* (1562; 2005). Мінск: Юніпак.
14. Келли, Дуглас Ф. (2005). *Появление свободы в современном мире. Влияние Кальвина на пять правительств с XVI до XVIII веков.* С.-Петербург: Реформатская Теологическая Семинария.
15. Лаппо, Иван (1934). *Литовский Статут 1588 г.* Т. 1. Ч. 1. Каунас.
16. “Найясьнейшаму Пану Жыгімонту Аўгусту…” (1563; 2012), *ARCHE,* №112–113 (1–2): 253–256.
17. *Номоканон при Большом Потребнике.* URL (доступ 30.03.2015): http://www.agioskanon.ru/nomokanon/
18. Падокшын, Сямён (2000). “Палітычная і прававая думка Беларусі XVI-XVII стст” у С. А.Падокшын і С .Ф. Сокал. *Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца XVI ст.* Ч. 4. Мінск.
19. Падокшын, Сямён (2002). “Роздум над Рэфармацыяй у Вялікім княстве Літоўскім”, у *Рэфармацыя і залаты век Беларусі.* Мінск: Беларускі кнігазбор.
20. “Прывілей 1447 года” (2010), у Т.У.Бялова (гал. рэд.), *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.* Т. 3. Мінск: БелЭн.
21. Скарына, Францыск (1969). *Прадмовы і пасляслоўі.* Мінск: Навука і тэхніка.
22. Сільчанка, Мікалай (2008). *Агульная тэорыя права.* Гродна: ГрДУ.
23. Сільчанка, Мікалай (2012). *Тэорыя крыніц беларускага права.* Гродна: ГрДУ.
24. “Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г.” (2010), у Т.У.Бялова (гал. рэд.), *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.* Т. 3. Мінск: БелЭн.
25. “Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г.” (2010) у Т.У.Бялова (гал. рэд.), *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.* Т. 3. Мінск: БелЭн.
26. “Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.” (2010), у Т.У.Бялова (гал. рэд.), *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.* Т. 3. Мінск: БелЭн.

27. "Сума або кароткае апісаньне ўсяго Сьвятога Пісаньня, гэта значыцца Кнігаў Старога і Новага Запавету" (1563; 2012), *ARCHE*, 112–113(1–2): 257–259.
28. Томсинов, В.А. (1992). "Религиозные мотивы в правовой культуре Великого княжества Литовского (на материале Статута 1588 г.)" у *Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пач. XX стст.* Кн. 4. Ч. 2: 279–285. Гродна.
29. Трацяк, Іван (2003). *Біблія ў кантэксце беларускай культуры*. Гродна: ГрДУ.
30. "Тэкст Бельскага прывілея 1564 г." (2010), у Т.У.Бялова (гал. рэд.), *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя*. Т. 3. Мінск: БелЭн.
31. Циммерман, Аугусто (2006). Христианские принципы верховенства закона на Западе: наследие свободы и защита от тирании. URL (доступ 8.09.2013): http://belreform.org/ru/zakon.php
32. Юхо, Іосіф (1991). *Крыніцы беларуска-літоўскага права*. Мінск: Беларусь.
33. Balinski, Michal (1843). "Andrzej Wolan", у *Pisma Historyczne*. T. III. Warszawa.
34. Grudem, Wayne A. (2010). *Politics – according to the Bible: a comprehensive resource for understanding modern political issues in light of Scripture.* Grand Rapids, Michigan: Zondervan.
35. Schaeffer Francis A. (2005) *How Should We Then Live? The Rise and Decline of Western Thought and Culture.* Wheaton: Crossway Books.
36. Spencer, Nick. (2012) "The Bible and politics. Christian sources of British political thought", *Cambridge Papers,* 21(2): 1–4.
37. Zakrzewski, Andrzej B. (2012). "Prawo Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XVIII wieku – teoria a praktyka", у *Вялікае Княства Літоўскае і суседзі: Права. Вайна. Дыпламатыя.* Мінск: БІП: 13–33.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 22-23, 2014-2015

Ганс Роте

# Что такое «древнерусская литература»?

## Уступ перакладчыка

**Ганс Ротэ** нарадзіўся ў 1928 годзе ў Берліне. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Гамбургу ў 1947 годзе вывучаў славянскую і індаеўрапейскую філалогію, а таксама гісторыю царквы ў Кілі, Марбургу і Лондане. У 1954 годзе атрымаў ступень доктара філалогіі, абараніўшы дысертацыю па царкоўнаславянскай мове. У 1954–1964 гадах працаваў ва ўніверсітэце Марбурга, дзе ў 1963 годзе абараніў габілітацыйную працу па творчасці Карамзіна. У 1966 годзе ўзначаліў кафедру славістыкі ў Бонскім універсітэце, дзе і працаваў да пераходу на пенсію ў 1993. Сёння ўзначальвае Патрыстычную Камісію Акадэміі навук зямлі Паўночны Рэйн–Вестфалія. Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі славянскіх літаратур. Падрыхтаваў і выдаў двухтомны збор "Die älteste ostslawische Kunstdichtung 1575–1647" (*Найданейшая ўсходнеславянская паэзія 1575–1647*) (Гісэн, 1977), у якім, сярод іншых помнікаў, апублікаваў верш Яна Казіміра Пашкевіча "Полска квитнеет лациною...", а таксама польскамоўныя элегічныя творы з ананімнага зборніка "Рэха жалю" (1635).

Артыкул Г. Ротэ "Was ist «altrussische Literatur»?" ("Што такое *древнерусская литература*?") быў упершыню апублікаваны ў 2000 годзе ў Акадэміі навук зямлі Паўночны Рэйн–Вестфалія і да сённяшняга дня не перакладаўся ні на адну з усходнеславянскіх моў. З ласкавага дазволу самога шаноўнага аўтара мы выканалі гэтую задачу. Матывацыя выбару мовы для перакладу – рускай – даволі простая. У артыкуле Г. Ротэ даецца падрабязнейшы бібліяграфічны агляд прац, прысвечаных найдаўнейшаму пісьменству ўсходніх славян, і гэта пераважна публікацыі на рускай мове рускіх аўтараў. Захаванне арыгінальнага напісання іх імёнаў, а таксама многіх рускамоўных тэрмінаў, якія вучоны часта падае ў дужках, істотна змяншае магчымасць верагодных скажэнняў пры перакладзе.

Ніжэй прапанаваны ў нашым перакладзе артыкул напісаны добрасумленным і кампетэнтным вучоным, глыбокім знаўцам як свецкай, так і рэлігійнай літаратуры эпохі Сярэднявечча. Роўнага яму (і гэта не будзе перабольшаннем) наўрад ці можна знайсці ў сучаснай славістыцы. Палемізуючы з калегамі, аўтар глыбока паважае іх. Так, асобнага разгляду заслугоўвае гісторыя славістыкі як навуковай дысцыпліны. Але, праліваючы святло на тыя ці іншыя хітраспляценні навуковага

дыскурсу славянскай гуманістыкі, Г. Ротэ на першае месца ставіць чалавека – сапраўднага і шчырага рупліўцу-даследчыка; падкрэслівае, што менавіта ў вызначанай ім навуковай галіне “праца вучоных часта была непасрэдна звязана з лёсам самой іх справы”. Асабліва паказальнай у гэтым сэнсе выглядае гісторыя выдатнага расійскага вучонага Аляксандра Аляксандравіча Зіміна (мы дазволілі сабе дапоўніць яе ўспамінамі ўдавы вучонага, гл. заўвага 8 у артыкуле).

Няма сумнення, што сам артыкул Ганса Ротэ – плён шматгадовай карпатлівай і самаахвярнай працы вучонага. Праўда, у асобных сваіх палажэннях праца Ганса Ротэ выглядае дыскусійнай, часам тэндэнцыйнай і нават правакацыйнай. Аднак спосаб выкладу матэрыялу і прыёмы аргументацыі, якімі карыстаецца аўтар, могуць даць прыклад навукоўцам новага пакалення. У прыватнасці, звяртаюць на сябе ўвагу каскады спасылак; імі вучоны суправаджае найперш тыя палажэнні сваёй працы, якія пярэчаць пашыраным, але часта недакладным альбо дрэнна абгрунтаваным уяўленням, перадусім прадстаўленым у расійскай гуманітарнай навуцы. Тонкі досціп даследчыка адцяняе і падкрэслівае яго інтэлектуальную шляхетнасць і слоўную вытанчанасць (якая, прызнаемся, неаднаразова спрычынялася да цяжкасцяў пры перакладзе, але і была неацэннай філалагічнай школай). Гэты досціп нечакана надае жывасць і элегантнасць многім думкам, якія, выйшаўшы з-пад пяра іншага навукоўцы, выглядалі б, хутчэй за ўсё, сухімі канстатацыямі.

Спакойна і карэктна, але ў той жа час, несумненна, кампетэнтна разважае Ганс Ротэ пра вытокі легендарнай рускай духоўнасці. Пры гэтым ён смела пазбаўляе арэолу святасці многія легенды з галіны так званых “славянских древностей”. Так, напрыклад, вельмі падрабязна разглядаецца добра вядомая спецыялістам, у пэўнай ступені нават дэтэктыўная гісторыя знаходкі, апублікавання і далейшай навуковай і культурнай рэцэпцыі “Слова пра паход Игаравы” аналізуюцца ўсе “за” і “супраць” у дачыненні да канцэпцыі вытокаў усходнеславянскага летапісання (тэорыі Шахматава), прынцыпова разглядаецца пытанне пра спосабы ўключэння перакладной літаратуры ў кантэкст гісторыі ўсходнеславянскага пісьменства, пра мэтазгоднасць вывучэння ў гэтым кантэксце літургічнай літаратуры. Робяцца надзвычай цікавыя экскурсы этымалагічнага, гісторыка-культурнага, сацыяльна-палітычнага і тэасофскага характару.

Нямецкі вучоны, не баючыся абвінавачванняў у так званым неразуменні самой сутнасці альбо самога духу рускай культуры, якія часта (здараецца, нават *a priori*) гучаць у адрас “заходніх” вучоных з боку “ультраправаслаўных” даследчыкаў, не хаваецца за атракцыйнымі, хаця часта вельмі размытымі паняццямі пасіянарнасці альбо саборнасці, тым больш “загадочной русской души”. Толькі на грунце вывучэння рэальна існуючых (!) крыніц ён прапануе ўласныя гістарыясофскія высновы, адкідаючы прэч любыя “сомнительные консепты” (А. Панчанка). Дарэчы, менавіта словы незабыўнага Аляксандра Міхайлавіча Панчанкі найлепшым чы-

нам характарызуюць тую метадалогію, на якую слушна арыентуецца Ганс Ротэ: "*Сначала рукописи, мать сыра земля медиевистики, затем любые научные построения – текстологические, историко-литературные и историко-культурные, теоретические*".[1] Паводле гэтай схемы і пабудаваны артыкул нямецкага вучонага. Бездакорнае валоданне пытаннямі тэорыі і практыкі ўсходнеславянскай палеаграфіі і тэксталогіі, шырокая бібліяграфічная абазнанасць і эрудыцыя аўтара робяць яго высновы як мінімум вартымі ўвагі даследчыкаў любой нацыянальнай прыналежнасці, любой ідэйнай або канфесійнай арыентацыі. Матэрыялы артыкула дазваляюць спасцігнуць "сваё" і "чужое" ў духоўнай спадчыне нашых продкаў, зразумець спецыфіку працэсаў культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва, перадусім жа – убачыць рэальную панараму развіцця пісьмовай культуры і літаратурнай творчасці на землях усходніх славян у эпоху ранняга Сярэднявечча.

"Што такое *древнерусская литература*?" Ганса Ротэ – нішто іншае, як спроба праўдзіва і адэкватна прадставіць унікальны культурны феномен, які не мае сабе падобных у гісторыі сусветнага пісьменства. Не "раздуваючы", аднак, штучна гэтай унікальнасці. Аб'ект яго даследавання – тая літаратура (або, лепш сказаць, кніжнасць), якую многія пакаленні навучэнцаў і навукоўцаў прызвычаіліся называць "*древнерусской*" і якая ў рэальнасці з'яўляецца старажытнаўсходнеславянскай. Менавіта гэтая літаратура стаіць ля вытокаў пісьмовай традыцыі беларускага, рускага і ўкраінскага народаў. У сённяшняй складанай для ўсходнеславянскага рэгіёна культурна-палітычнай сітуацыі праца Ганса Ротэ дазваляе сфарміраваць навукова абгрунтаванае ўяўленне пра асаблівасці інтэлектуальнага жыцця продкаў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, дае магчымасць не зацыклівацца на звыклых пафасных фармулёўках пра "славянскае братэрства", традыцыйнай кіеўска-корсунскай канцэпцыі хрышчэння Русі або стэрэатыпных уяўленнях пра "спрадвечных ворагаў" славян, часта міфічных... Наогул, гэтая праца здольная значна пашырыць кругагляд таго чытача, які сам гэтага захоча. Паспрабуем, спасцігаючы развагі Ганса Ротэ, пагаджаючыся з імі альбо аспрэчваючы іх, як пісаў Янка Купала, *"пачаць дакапвацца самі разгадкі нашых крыўд і бед"*.

У працэсе перакладу мы стараліся максімальна захоўваюць асаблівасці аўтарскага стылю, а таксама прытрымліваліся прынятага ім спосабу афармлення спасылак. У многіх выпадках мы раскрывалі аўтарскія скарачэнні і абрэвіятуры (у першую чаргу гэта датычыць назваў навуковых перыядычных выданняў) дзеля зручнасці ўспрыняцця матэрыялаў артыкула, у тым ліку спасылачнага апарата, рускамоўным чытачом. Паколькі праца апублікавана 15 гадоў таму назад, мы зрэдку рабілі пэўныя карэкціроўкі

[1] Николаев, С. И. (2007). Александр Михайлович Панченко, 1937–2002. Краткий очерк научной, педагогической и общественной деятельности; сост. и автор вступ. ст. С. И. Николаев. Москва: 8.

з улікам сучаснага стану навуковых распрацовак (гл., напр., заўвагу 9).

Дзякую за супрацу студэнтам філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску Дар'і Лукашук, Марыі Калядзіч, Лізавеце Мелех, Вераніцы Хамулевай, Лізавеце Таран і Дар'і Буравай, якія зрабілі свой пасільны ўнёсак у справу перакладу артыкула. Выказваю таксама шчырую падзяку дацэнту Уладзіміру Кароткаму, доктару філалагічных навук Любові Ляўшун (Беларусь), а таксама прыват-дацэнту Томасу Менцалю (Германія) за каштоўныя парады і кампетэнтныя заўвагі, датычныя змястоўных і стылістычных асаблівасцяў тэксту. Дзякую старшаму выкладчыку Вользе Крычко за тэхнічную дапамогу ў падрыхтоўцы картаграфічных матэрыялаў дадатка.

Шчырая падзяка шаноўнаму аўтару артыкула, прафесару Гансу Ротэ, за добразычлівае стаўленне і згоду на апублікаванне тэксту перакладa.

*Жанна Некрашэвіч-Кароткая*

## Вступительные замечания

Предпринятое нами исследование не лишено полностью формата научного доклада. Его целью является не написание истории литературы, а создание предпосылок и основ для исторически адекватного рассмотрения древнейшей письменности у восточных славян. Потому и я не ставлю перед собой задачу создания исчерпывающей картины; интерпретация текстов также не представляет для меня особого интереса: к ним я буду обращаться разве что как к хорошо известной исторической основе.

Написание истории литературы как научная задача довольно редко осуществляется в соответствии определенными принципами и редко бывает как следует обеспечена в библиографическом отношении; еще реже история литературы фиксирует информацию относительно традиции, сложившейся в связи с тем или иным произведением и его изучением. Конечно, история литературы содержит эту информацию, во всяком случае, когда речь идет о древнем периоде; однако при этом остается ряд вопросов и, как показывает практика, уже через довольно короткое время прежние констатации становятся спорными, даже перестают заслуживать доверия. Именно упомянутое обстоятельство убедительно свидетельствует о том, насколько грандиозным без преувеличения трудом были исследования Чижевского (Tschizewsky, 1948; Čiževskij, 1960) – для всех нас они были настольными книгами. К подобному библиографическому обеспечению в этой работе стремился и я, хотя в нашем случае оно не могло быть исчерпывающим.

Невозможно было бы, однако, совершенно отказаться от написания истории литературы. Она присутствует в нашем исследовании, причем, пожалуй, даже слишком широко. Но как иначе можно было бы установить, что и в каких случаях нуждается в переоценке? Необходимость обра-

щения к истории литературы со всей очевидностью обнаруживается еще и потому, что это ведь была та самая «древнерусская литература», с которой русский народ всегда был очень тесно связан, верил ей. К тому же, это была та самая литература, которая в наше духовно нестабильное время в такой степени влияла на судьбу ее исследователей (приводя зачастую даже к жизненной драме), как ни у одного другого культурного народа Европы. И здесь работа ученых часто была непосредственно связана с судьбой самого их дела. Имея в виду это обстоятельство, я сделал всё от меня зависящее, чтобы изложить наиболее важные сведения, касающиеся также и исследователей.

Я очень хорошо осознаю недостатки моей работы. Два из них не могу обойти молчанием. Темой моего исследования были письменные памятники, и в этом смысле я не хотел бы быть неправильно понятым, будто бы, по моему мнению, устно-поэтические произведения не являются предметом историко-литературного исследования или же будто бы их вовсе не существовало. Просто это уже совсем другая тема.[2] В данном случае следует принять во внимание как основное положение тот простой тезис, что надежной основой всего – в том числе и устной народной литературы – является письменная традиция, а не наоборот. Вот почему выявление памятников дописьменного устного творчества представляет собой намного более сложную задачу. Выдающийся в этом смысле пример – пятитомный словарь «Славянские древности» Никиты Ильича Толстого. В рамках нашей работы невозможно было бы осуществить нечто подобное.

Было бы весьма правильным и идеально соответствовало бы моим представлением об истории литературы восточных славян древнейшего периода, если бы для каждого памятника я указал его источники в греческой литературе. Не менее важно было бы обнаруживать и указывать их также в письменности северных народов, а также в письменных памятниках на латинском и чешском языках. Однако мне удавалось осуществить это лишь изредка. В противном случае моя работа стала бы бесформенной, к тому же это не было уместно. Напротив, я ставил перед собой задачу написать краткий очерк на основании моих собственных предположений. Иными словами, я не намерен был проводить источниковедческое исследование, и тем не менее, в данной работе нельзя было совсем не давать подобной информации.

Заранее предвижу, что поклонники литературы, да к тому же еще производящей такое неотразимое впечатление древнейшей литературы восточных славян, могут быть неприятно удивлены моими выводами или скептическими подходами. Но тот, для кого цитата из литературного произведения о чем-то говорит, возможно, вспомнит слова апостола Фомы, желавшего почувство-

2 Последняя работа, относящаяся к этой проблеме, с подробными сведениями по истории исследования: Hirsch, 1998.

вать, прежде чем уверует *(Ио 20:25).* Тот, кому хотелось бы видеть Фому покровителем науки, тот, несомненно, более четко локализировал бы ее в определенных границах. Однако, поскольку едва ли каждый читатель стремится к тому, чтобы быть сыном Фомы, скажем проще. Конечно, необходимо понимать и воспринимать каждую литературу как национальную: романтизм доказал, что иначе невозможно постичь специфику этой литературы. Но такое понимание требует весьма убедительного обоснования. Оно необходимо в той степени, в которой способно опровергнуть скепсис.

В процессе библиографической работы и в деле обеспечения доступа к необходимой литературе мне была оказана всесторонняя помощь и поддержка. Упомяну в первую очередь директора государственного архива доктора Фридриха Бенингхофена (Берлин), Отца Бориса Даниленко (Москва), профессора доктора Гюнтера Якобса (Бонн), доктора К. Ю. Лаппо-Данилевского (Санкт-Петеребург), Ангелику Лаухус (Кёльн), М. А. Момину (Санкт-Петербург), профессора доктора Лудольфа Мюллера (Тюбинген), профессора доктора Петера Шрайнера (Кёльн), профессора доктора Райнера Штихеля (Мюнстер), а также сотрудников боннского отделения Патристической Комиссии. Высказываю мою искреннюю благодарность всем им, а также многим другим, оказавшим мне консультативную поддержку в процессе собеседований.

*Мы обязаны монахам нашей историею, следственно, и просвещением.*
**Пушкин**

## Введение

Первой предпосылкой того, что мы можем вести речь не только об определенной *литературе*, но и о ее *истории*, является свидетельство существования *письменной традиции* в конкретном государстве в течение довольно длительного периода времени.

Наиболее древним на землях славян регионом, в котором возникла письменность, можно с определенной оговоркой считать Моравию с конца IX века, с достаточной же долей уверенности – Болгарию с X века. Восточнославянские регионы присоединяются к этой традиции в XI веке, и российское историческое литературоведение вот уже 160 лет с горделивой уверенностью утверждает, что в древнейший период *«ни один западнославянский народ не обладал таким богатством письменных памятников на своем собственном славянском литературном языке, каким обладал русский»* (Максимович, 1880: 350).

Не названная здесь предпосылка выше приведенного утверждения – наличие *собственного славянского литературного языка* – была исходным тезисом для деятелей периода позднего романтизма, благодаря которому постепенно формирова-

лось представление о национальной литературе, и это представление сохраняет свою актуальность до сегодняшнего дня – во всяком случае, среди славян. С другой стороны, каждый регион, заселенный по западнославянскому образцу, от Балтийского моря до Истрии и Далмации, был представлен еще и латинской письменной традицией, а в некоторых случаях – также немецкой или романской, которая по времени возникновения совпадала с восточнославянской или даже была старше нее.

Сказанного будет достаточно: заводя разговор на эту тему, мы хотим сформировать четкое представление о том, что проблема письменности затрагивается здесь в целях разрешения наших собственных задач. В контексте рассуждений о русской земле[3] мы будем вести речь о южнославянской, греческой и восточнославянской письменной традиции, а в более поздний период, в Новгороде и Смоленске, – также о латинской и средневерхненемецкой.

## I. История «Слова о полку Игореве»

В течение вот уже почти двух веков древняя литература у русских пользуется неизменной востребованностью и популярностью. Причина этого связана с двумя неотделимыми друг от друга, словно братья-близнецы, обстоятельствами: с одной стороны, это скрытые в истории предпосылки ее возникновения, с другой – нескрываемое чувство гордости. Я хотел бы показать это сначала на одном уникальном примере, который можно найти, пожалуй, лишь в одной-единственной литературе.

В 1795 году в библиотеке монастыря в северо-восточной части России был найден сборник рукописей, в заключительной части которого содержалось «Слово о полку Игореве». Это небольшое прозаическое произведение, частично ритмизированное, в котором представлены фольклорные мотивы. Оно посвящено безуспешному военному походу в восточные земли, предпринятому в 1185 году молодым князем Игорем Святославичем (1151–1202) из малоизвестного в то время города Новгорода Северского в Черниговском княжестве против тюркского племени половцев. Таким образом, для древнерусской литературы был найден – причем в эпоху Макферсона[4] – национальный художественный аналог западноевропейских эпосов, позволявший, казалось бы, поставить литературы северных народов рядом с Гомером. Двумя десятилетиями позже присоединились сербы с их древними героическими песнями, а также чехи с их фальсификатами.

И хотя «Слово о полку Игореве» не выдерживает сопоставления с «Бе-

[3] Говоря в дальнейшем о *русской земле,* мы будем иметь в виду под этим территорию проживания восточных славян (см. карту 1). О значении выражений «русский», «Русь» см. подраздел «История древнерусской литературы» в главе II этой статьи.

[4] Джеймс Макферсон (1736–1796) – шотландский писатель, выдававший свои литературные обработки кельтских преданий и легенд за оригинальные песни легендарного воина и барда Оссиана. – *Прим. перев.*

овульфом», «Песнью о Роланде» и «Песнью о Нибелунгах»[5] – ни по объёму, ни по форме и содержанию, ни по наличию возможных источников – оно привело к невероятному триумфу. Известно более ста переводов на современный русский язык. Не было ни одного уважающего себя ученого-филолога, который, занимаясь этим произведением, не создал бы своего перевода. А что уж говорить о поэтах![6] На сегодняшний день существуют драматургические и музыкальные обработки, музеи «Слова о полку Игореве» и огромное количество иллюстраций. Произведение включено в обязательную школьную программу. Зарубежье следует этой традиции, в первую очередь Германия, но с особой преданностью – Богемия.[7] Рильке выразил своё восхищение Россией посредством «Слова о полку Игореве», создав свой перевод этого произведения (1904; опубликован в 1949 году). Эдвард Сиверс в Лейпциге провел анализ звукового состава памятника, с помощью чего пытался подтвердить аутентичность текста.

Между тем – ничто в мире не совершенно. «Слово о полку Игореве» получило известность благодаря единственному рукописному списку, сгоревшему в 1812 году во время пожара в Москве. Всё, что у нас есть, – это копия, сделанная для императрицы Екатерины в 1795 году, а также *editio princeps*[8] 1800 года. Каков был возраст «утерянной рукописи» – относилась ли она к XIV, XV или XVI веку – теперь нельзя уже было установить, невозможно было еще раз перепроверить общее число составных частей этого сборника. Напряженнейшие поиски в библиотеках и архивах по всей стране не позволили продвинуться ни на один шаг. «Слово о полку Игореве» остается единственным в «древнерусской литературе» произведением эпического характера, функционально *не* связанным с церковной жизнью. С самого начала возникли сомнения относительно его оригинальности. Правда, на всех, кто сомневались, был навешен ярлык «скептической школы» (Иконников). Вместе с тем, невозможно было ни посеять сомнения у приверженцев аутентичности (не так, как в случае с чешскими фальсификатами), ни заставить замолчать апостолов версии о фальсификации.

И тогда случилось нечто невероятное. В то время, когда шла война, – а «Слово о полку Игореве» также сыграло свою роль в пропаганде Великой Отечественной войны – все-

5 Г. П. Федотов (Fedotov, 1966: 315) четко проводит это сопоставление.

6 Все данные приводятся по изданию: Энциклопедия, 1995; по этому вопросу см.: т. 4, с. 76–78. Здесь не упомянут Эдвард Сиверс. Информация основана на устном сообщении Валентина Кипарского (1958).

7 См.: Энциклопедия, 1995, т. 4: 48. Правда, мысль о якобы восторженном отношении Добровского не совсем понятна. Неточно представлена также информация о первом полном переводе Йозефа Мюллера, который на титульном листе озаглавлен «*Heldengesang vom Zuge*» («Героическая песнь о походе»), а в самом тексте (с. 32) называется «Sermon über das Heer» («Слово о войске»).

8 *Editio princeps* (лат.) – первое издание. – *Прим. пер.*

мирно известный французский славист Андре Мазон (1881–1967) представил свою концепцию. Согласно ей, «Слово о полку Игореве» – фальсификация, которую создал сам первооткрыватель памятника в XVIII веке (точно так же, как «Оссиановы песни» Макферсона), основываясь в первую очередь на материале и словесных конструкциях подобного ему произведения XV века, так называемой «Задонщины».

Лавина исследований, возникшая после этого, была просто неслыханным доселе в истории нашей науки явлением. Никогда еще так не процветали древнерусские штудии. Одним из самых красноречивых оппонентов Мазона был Роман Якобсон (1896–1982) в Гарварде. Его сочинение в защиту «Слова», вышедшее в Америке на французском языке в 1948 году, обеспечило автору, находившемуся с 1921 года в эмиграции, возможность получения визы для поездки в Советский Союз.

Но потом всё пошло гораздо хуже: 23 февраля 1963 года известный русский историк А. А. Зимин (1910–1980) выступил в Академии наук в Ленинграде с докладом, в котором подтвердил концепцию Мазона. Репринтное издание его книги, содержание которой легло в основу доклада, было напечатано в количестве 99 экземпляров и роздано критикам под расписку об обязательном возврате.[9] Почти 85-летний Ма-

[9] Несколько иначе излагает эту историю В. Г. Зимина: «*А. А. Зимин буквально “заболел” “Словом”... Результатом творческого экстаза было письмо А. А. Зимина от 15 февраля 1963 г. к Д. С. Лихачеву, с которым его связывали профессиональные интересы уже более десятка лет, с просьбой заслушать в руководимом им секторе его доклад на тему “К изучению ‘Слова о полку Игореве’”. Заседание с почти трехчасовым докладом Зимина состоялось 27 февраля, но, к сожалению, в отсутствие самого Д. С. Лихачева, который в это время оказался в больнице. [...] Интерес к теме и разосланные в большом количестве приглашения собрали совершенно неожиданное для организаторов заседания и самого докладчика количество народа. Присутствовали более 150 человек, среди которых было много студентов. О докладе быстро узнали специалисты и любители не только в Ленинграде, но и в Москве и в других городах, да и за рубежом тоже*». По возвращении в Москву А. А. Зимин был, во-первых, поставлен перед необходимостью объясняться с руководством Института истории АН СССР. Во-вторых, ему было предложено представить тезисы своего выступления для публикации в журнале «Вопросы истории», где предполагалось напечатать их в сопровождении статьи М. Н. Тихомирова. От такого предложения Зимин решительно отказался. Вот что писал сам А. А. Зимин о сложившейся в Москве ситуации: «*...Я написал трехтомник, который сохранился в ротапринтном варианте в нескольких экземплярах*». Речь идет о написанной А. А. Зиминым к концу 1963 года работе «*“Слово о полку Игореве: [Источники. Время написания. Автор]”, изданной на ротапринте Института истории Академии наук тиражом в 101 экземпляр и состоящей из трех сброшюрованных выпусков общим объемом 660 страниц. Эти экземпляры ротапринта и возможность познакомиться с ними имели только обозначенные в особых списках участники обсуждения работы А. А. Зимина, которое состоялось в Отделении истории Академии наук СССР 4–6 мая 1964 г.*» (Зимина, 2006: 3–4). – *Прим. пер.*

468. Thomson, F. J. (1995b). The Distorted Mediaeval Russian Perseption of Classic Antiquity: The Causes and the Consequences // Mediaevalia Lovanensia. – Ser. I / Stud. XXIV. – Leuven. – P. 303–364.
469. Thomson, F. J. (1998). The Slavonic Translations of the Old Testament // The Interpretation of the Bible. – Laibach Sheffield. – P. 605–920.
470. Trubetzkoy, N. S. (1973). Vorlesungen über die altrussische Literatur. Mit einem Nachwort von R. O. Jakobson. – Florenz.
471. Trunte, N. H. (2000). Zur Rekonstruktion des slavischen Synaxarions des 9. Jahrhunderts nach dem Apostolos von Enina // Zeitschrift für slavische Philologie. – B. 59/1. – Heidelberg. – C. 1–36.
472. Tschiżewsky, D. (1948). Geschichte der altrussischen Literatur im 11, 12 und 13, Jahrhundert, Kiever Epoche. – Frankfurt am Main.
473. Tschiżewsky, D. (1950). Anklänge an die Gumpoldslegende des hl. Václav in der altruss. Legende des hl. Feodosij und das Problem der „Originalität" der slavischen mittelalterlichen Werke // Wiener Slavistisches Jahrbuch. – I. – S. 71–86.
474. Tschiżewsky, D. (1960). History of Russian Literature from the Eleventh Century to the End of the Baroque (Slavistic Printings and Reprintings XII). – 's-Gravenhage.
475. Udolph, L. (1986). Stepan Petrovič Ševyrev 1820–1836. Ein Beitrag zur Entstehung der Romantik in Russland (Bausteine zur Geschichte der Literatur bei den Slaven 26). – Köln.
476. v. Reutz, A. M. F. (1828). Versuch über geschichtliche Ausbildung der russischen Staats- und Rechtsverfassung. – Mitau.
477. Vašica, J. (1951). Origine Cyrillo-Méthodienne du plus ancien Code Slave dit „Zakon sudnyj ljudem" // Byzantinoslavica XII. – P. 156–174.
478. Vasmer, M. (1955). Russisches etymologisches Wörterbuch. – Bd. II. – Heidelberg.
479. Velimirović, M. (1960). Byzantine Elements in Early Slavic Chant: the Hirmologion (Mon. Mus. Byz., Subs. 4). – Kopenhagen.
480. Velimirović, M. (1984/1985). Evolution of the Musical Notation in Medieval Russia // Cyrillomethodianum VIII–IX. – S. 165–173.
481. Verdiéres, C. (1857). Origines catholiques de l'église russe jusqu'au XII siècle // Études de théde philosophie et d'histoire. Vol. 2. – Paris. – P. 131–304.
482. Vernadsky, G. (1941). The Status of the Russian Church during the First Half-Century, Following Vladimir's Conversion // SEER 20. – C. 294–314.
483. Vodoff, W. (1988). La naissance de la chrétienté russe. La conversion du prince Vladimir de Kiev 988 et son conséquences (Xie–XIIIe siècles). – Paris.
484. Wanczura, A. (1923). Szkolnictwo w starej Rusi. Z przedmową prof. A. Brücknera, Lwów – Warszawa – Kraków. – S. 87–132
485. Wehrmeyer, A. (Hrg.) (1999). Die Kirchenmusik in Russland. Von den Anfängen bis zum Anbruch des 20. Jahrhunderts (Studia slavica musicologica 14). – Berlin. – S. 1–36.
486. Weiher, E. (1987). Die Dogmatik des Johannes von Damaskus in der ksl. Übersetzung (Mon. Ling. Slav. Dial. Vet. 25). – Freiburg im Breisgau.
487. Wyncken-Galibin, R. (1993). „Den Menschen steht der Sinn nicht nach Kunst". Ein Gespräch mit D. Lichatschow // Süddeutsche Zeitung. – 28.6.1993.
488. Žužek, I. (1964). Kormčaja kniga. Studies on the Chief Code of Russian Canon Law (Orientalia Christiana Analecta 168). – Rom.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 22-23, 2014-2015

Леанід Цімашэнка

# Спрэчныя пытанні з гісторыі Берасцейскай уніі

Да так званых спрэчных пытанняў з гісторыі Берасцейскай уніі звярталася нямала гісторыкаў і публіцыстаў. У прынцыпе, варта адрозніваць спрэчныя пытанні ў гістарычнай памяці і спрэчныя пытанні ў навуковай гістарыяграфіі. На сучасным этапе ўніязнаўства яны вельмі адрозніваюцца. Галоўнае пытанне датычна Берасцейскай уніі – чым была гэта падзея, ці гэта быў акт аб'яднання або раз'яднання, адбылася здрада/змова ці не – на сённяшні дзень застаецца праблемай гістарычнай памяці, гэта выключна канфесійная праблема ўніятаў і праваслаўных. Так, калі ўніяты лічаць Берасцейскі сабор 1596 года днём нараджэння сваёй царквы, то праваслаўныя адносяць яго да катэгорыі чыста раскольніцкай падзеі. І гэтаму рады не дасі, паколькі ў абодвух гэтых катэгарычных выказваннях ёсць доля праўды.

Да катэгорыі гістарычнай памяці варта аднесці і пытанне пра ролю так званага знешняга чынніка ў генезісе уніі – гаворка ідзе пра ролю каталікоў, у прыватнасці езуітаў. У гістарыяграфіі гэтае пытанне яшчэ абмяркоўваецца, але ў іншых вымярэннях. У чыста навуковым плане гэта праблема даўно вырашана. Таму роля езуітаў бярэцца пад увагу, але версія аб стварэнні ідэі уніі ў праваслаўным асяроддзі апошняй трэці XVI стагоддзя даўно даказаная. Грунтоўна вывучана ўніяцкая праграма рускай іерархіі, якая набыла канчатковыя абрысы ў 1595 годзе ў выглядзе 33-х артыкулаў уніі. Яна была прадстаўлена палякам-каталікам і дастаўлена ў Рым. У рэшце рэшт, яна легла ў аснову дэкларацыі ўніяцкага сабора 1596 года.

Да ліку гістарыяграфічных стэрэатыпаў варта аднесці і вызначэнне праваслаўнымі ўніятаў як веравызнаўчых і нацыянальных здраднікаў. Я думаю, што ўніяты пасля Берасцейскага сабора 1596 года вынеслі столькі пакутаў, што напоўніцу адчулі, наколькі рызыкоўным быў іх крок скасавання кананічнага адзінства з Канстанцінопальскай царквой і падпарадкавання Рыму. Згаданыя абвінавачванні я адношу да катэгорыі гістарыяграфічных стэрэатыпаў, хоць іх таксама можна разглядаць як дыскусійную праблематыку ўніі. Акрамя таго, спробы вырашэння праблемы "здрады" маюць рызыку ператварыць дыскусію ў суд гісторыі, ад чаго перасцерагалі яшчэ французскія гісторыкі школы "Аналаў".

У свой час я прыйшоў да высновы пра Берасцейскую унію як фенаменальную з'яву ўкраінска-беларускай царкоўнай гісторыі. На маю думку, феномен Берасцейскай уніі і

ўніяцкай (цяперашняй грэка-каталіцкай) царквы заключаецца ў тым, што з фактару дэстабілізацыі ўкраінска-беларускага царкоўнага жыцця XVI–XVII стагоддзяў яна змагла даказаць сваю жыццяздольнасць і ператварыцца ў важны фактар нацыянальнага жыцця ўкраінцаў і беларусаў. Міхаіл Грушэўскі, які пастаянна казаў аб супярэчлівым характары Берасцейскай уніі, пісаў у "Лістах з-пад Палтавы": *"Наш народ належыць да дзвюх цэркваў і настойваць на царкоўнай розніцы – значыць далучацца да адарвання Галіцкай Русі ад Вялікай Украіны – рэчы згубнай для нашага народа"*. Грэка-каталіцкую царкву ў Галіцыі ў XIX стагоддзі ён лічыў нацыянальным арэапагам. Але для таго, каб грэка-каталіцкая царква ператварылася ў нацыянальны арэапаг, трэба было не менш за два стагоддзі. Роля ў гэтым працэсе мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага з'яўляецца выключнай.

У далейшым я буду казаць толькі пра навуковыя аспекты дыскусійных праблем гісторыі Берасцейскай уніі. У навуковай плоскасці яны зусім іншыя. Наогул, праблема генезісу Берасцейскай уніі ўяўляе сабой велізарны і досыць складаны комплекс праблем гісторыі, перш за ўсё, украінска-беларускай рэлігійнай культуры XVI – пачатку XVII стагоддзяў. Асабіста я гэты шырокі комплекс праблем і разглядаю ў сваіх даследаваннях. Асноўная тэма маіх даследаванняў гучыць такім чынам: "Інстытуцыйнае развіццё Кіеўскай мітраполіі ў XVI стагоддзі і Берасцейская унія". Праблему я зважу да развіцця розных інстытутаў царквы: сістэма іерархічнай улады і субардынацыйных адносін на ўзроўні ўлады мітрапаліта і епіскапату, структуры царквы на ўзроўні епархіяльнай і парафіяльнай сеткі, становішча царквы ў каталіцкай Рэчы Паспалітай, у тым ліку і маральны стан духавенства, узровень багаслоўя і набажэнства, адукацыю кліру, развіццё царкоўных брацтваў і інш. Трэба дадаваць і ўзровень сакральнага мастацтва і царкоўных спеваў.

Агулам я стаўлю сваёй задачай намеціць ўзровень рэлігійна-духоўнай культуры кіева-рускага хрысціянства, але абавязкова ў параўнанні з польскімі рыма-каталіцкай і пратэстанцкай рэлігійнымі культурамі і рэлігійнай культурай Маскоўскай Русі. На маю думку, без гэтага параўнання мы ніколі не зразумеем феномен Берасцейскай уніі.

Гістарыяграфічны вопыт вывучэння Берасцейскай уніі 1596 года як канкрэтна-гістарычнай падзеі канца XVI стагоддзя налічвае некалькі стагоддзяў. Ужо ў першых палемічных творах, якія былі рэфлексіяй на Берасцейскі сабор, сфармаваліся асноўныя напрамкі ацэнкі падзеі. З тых часоў, уласна, праблема стала прадметам багатай і разнастайнай гістарыяграфіі.

Сучасная навука разглядае генезіс Берасцейскай уніі на шырокім фоне ўсходневізантыйскай і заходнерымскай культур у кантэксце еўрапейскіх рэлігійна-культурных з'яў. Вельмі перспектыўным і прадуктыўным апынуўся кірунак даследавання гісторыі уніі як перамоўнага працэсу іерархіі рускай царквы з урадавымі і рэлігійнымі коламі Рэчы Паспалітай,

а таксама рымскай курыяй (дакладней, гаворка ідзе пра спробы такіх перамоў). У адпаведнасці з гэтым вывучаюцца і суадносіны ўніяцкіх праграм розных лагераў, а таксама варыянтаў уніяцкіх імкненняў унутры кожнага з іх; праблема рэалізацыі ўніяцкай праграмы рускай іерархіі. Пасляваеннае ўніязнаўства ўзбагаціла сучасныя ўяўленні аб уніі новымі знаходкамі крыніц. Яно, такім чынам, мае адпаведную крыніцазнаўчую і метадалагічную базу, пры захаванні, цалкам заканамерна, пэўнай дыферэнцыяцыі.

Нельга не бачыць таксама і тэндэнцыі да збліжэння пазіцый аўтараў, якія адрозніваюцца нацыянальнымі або канфесійнымі сімпатыямі. На нашу думку, галоўным вынікам канферэнцыйнага буму вакол юбілея 400-годдзя Берасцейскай уніі (у Польшчы, Украіне, Беларусі і Літве) з'яўляецца тое, што сёння ні адзін сур'ёзны гісторык не ў стане запярэчыць аб'ектыўнай абумоўленасці падзеі, якая была рэакцыяй часткі ўкраінска-беларускага грамадства на тагачасныя крызісныя з'явы ў царкве і культуры і на няўдалыя спробы выхаду з іх. Станоўчым, несумненна, з'яўляецца і адмова ад антынавуковых канцэпцый здрады лідараў уніяцкага руху з аднаго боку, і абсалютызацыі каталіцка-польскіх інтрыг (гэта значыць уздзеяння знешніх фактараў) – з другога. Не аспрэчвае найноўшая гістарыяграфія і тое, што Берасцейскі сабор 1596 года прывёў да расколу раней адзінай Кіеўскай мітраполіі і негатыўных наступстваў згаданага расколу.

Адной з найважнейшых з'яўляецца, зразумела, праблема перадумоў або генезісу уніі. Істотнай лічыцца, у прыватнасці, выснова некаторых гісторыкаў аб тым, што руская царква прыступіла да уніі з ужо рэфармаванай паслятрыдэнцкай каталіцкай царквой, а не з прагнілым сярэднявечным рымскім каталіцызмам, ад якога ўцякала ў XVI стагоддзі цывілізаваная пратэстанцкая Еўропа. Прапанаваны падыход у цэлым адпавядае лепшым традыцыям еўрапейскай гістарыяграфіі, прадстаўнікі якой сцвярджаюць, што каталіцкая рэформа і пратэстанцкая Рэфармацыя, істотна разышліся ў шляхах і метадах абнаўлення, але ў агульным сыходзіліся ў стратэгічным плане і выклікалі, нарэшце, рэлігійную мадэрнізацыю Еўропы, гуманістычную ў сваёй аснове. Дзякуючы нямецкім гісторыкам, згаданыя працэсы падпадаюць пад вызначэнне канфесіяналізацыі.

Але пры гэтым, напрыклад, застаецца нявысветленым пытанне аб тым, ці ўяўляла сабе іерархія рускай царквы розніцу паміж датрыдэнцкім і паслятрыдэнцкім каталіцызмам, паняцце аб якой канчаткова сфарміравалася ў гістарыяграфіі XX стагоддзя. Ёсць падставы сцвярджаць, што лідары ўніяцкага руху будавалі свае ўяўленні пра еўрапейскі каталіцызм на аснове бачання лацінскай царквы Рэчы Паспалітай, якая ледзь пагадзілася з рашэннем Трыдэнцкага сабора і толькі пачала выхад з крызіснага становішча, характэрнага для ўсяго хрысціянскага свету. Больш за тое, крыніцы дазваляюць казаць таксама пра тое, што крызісныя з'явы ў рускай царкве, якія сталі прычынай Берасцейскай уніі, былі ў поўнай меры ўласцівыя і для польскага ката-

ліцызму канца XVI стагоддзя. Гэта зафіксавана, у прыватнасці, у рэляцыях рымскіх нунцыяў Польшчы канца XVI – пачатку XVII стагоддзя (напрыклад, Маласпіні 1598 года), а таксама ў інструкцыях кардыналаў новапрызначаным нунцыям (1606 і 1612 гадоў). У гэтых дакументальных крыніцах засведчаны не толькі шкода, прычыненая польскай царкве ерэтыкамі, але і крызісныя з'явы: невуцтва кліру, захапленні духавенства свецкімі справамі, адначасовае валоданне некалькімі бенефіцыямі, занядбанне духоўна-пастырскіх функцый.

Амаль нідзе ў касцёлах не прасочвалася здавальняючае кіраванне, часта сустракаліся капланы без усялякага пасвячэння, у епархіях не ствараліся семінарыі, у кляштарах – навіцыяты, манахі ў кляштарах паўсюль мелі жаласны выгляд, квітнелі злоўжыванні царкоўнымі бенефіцыямі з боку епіскапаў і караля, пашыраўся маральны заняпад духавенства. Дарэчы, такое становішча каталіцкай царквы не аспрэчвае і найноўшая польская гістарыяграфія, якую, вядома, цяжка западозрыць (у дадзеным пытанні) у тэндэнцыйнасці. Па ўсім відаць, што трыдэнцкая рэформа з цяжкасцю прабівала сабе дарогу ў Польшчы і мела напярэдадні Берасцейскай уніі пакуль што толькі мінімальныя поспехі.

Канстатацыя дадзенага становішча значна мяняе погляд на безумоўную прывабнасць каталіцызму для рускай царквы і яе іерархіі, якая шукала адзінства з Рымам. З улікам гэтага заслугоўвае большай увагі меркаванне расійскага гісторыка Б. Флоры аб тым, што рускі епіскапат зусім не прыцягвалі перавагі духоўных каштоўнасцей каталіцызму.

Думаю, што адзіным прывабным момантам для ўніятаў было прывілеяванае становішча каталіцкай царквы ў польскай дзяржаве, таму яны і імкнуліся да ўраўнавання з ёю.

Якія праблемы сёння з'яўляюцца найбольш дыскусійнымі? Парадаксальна, але ў чыста навуковай плоскасці вядуцца толькі дыскусіі паміж украінскай і расійскай гістарыяграфіямі, у апошні час яны зводзяцца да дыскусій паміж мной і прафесарам МДУ Міхаілам Дзмітрыевым па двух асноўных пытаннях: ці існавала ў XVI стагоддзі *адзіная праваслаўная прастора* на Усходзе Еўропы? Дзмітрыеў спрабуе не толькі даказаць, што такая прастора існавала, ён таксама кажа, што спачатку расійская рэлігійная культура знаходзілася на больш высокім узроўні, яна дала нам князя Андрэя Курбскага, які пачаў адраджэнне ў Мілянавічах каля Ковеля, потым дала першадрукара Івана Фёдарава, у нас адбылося праваслаўнае валынскае і львоўскае адраджэнне, а затым у XVII стагоддзі мы ім вярнулі тое, што атрымалі. Нагадаю, што праваслаўнае адраджэнне Маскоўскай Русі, якое пачалося ў 20-я гады XVII стагоддзя адбылося выключна на помніках кіева-рускага хрысціянства. Трансляцыю ўкраінскага-беларускай рэлігійнай культуры ў маскоўскае праваслаўе аргументавана адсачыла маскоўская даследчыца Таццяна Апарына.

Разам з іншымі ўкраінскімі даследчыкамі я адстойваю канцэпцыю адасобленага развіцця кіева-хрысціянскай і маскоўскай праваслаўных

рэлігійных традыцый. І для гэтага існуюць вельмі важныя аргументы. Такім чынам, маскоўская традыцыя не мела ў XVI стагоддзі развітой сеткі парафіяльнай адукацыі, адсутнічала ўсходнехрысціянская традыцыя апекі над цэрквамі, не было капітулаў як органаў царкоўнага кіравання пры епіскапскіх кафедрах, іх культура не мела катэхізіса для навучання становішчам веры, не было царкоўнай пропаведзі, не мела павучальных Евангелляў, не было палемічнай літаратуры (апошні прыклад палемікі – палеміка Івана Жахлівага з Андрэем Курбскім і пратэстантамі, маецца на ўвазе дыскусія цара з пастарам Янам Ракітаю ў 1570 годзе), не было свецкіх арганізацый (царкоўных брацтваў), там не было нават паняцця саборнапраўнасці, то бок дэмакратычных асноў кіравання царквой, пасля Стогаловага сабора і апрычніны Івана Жахлівага надоўга перарвалася кнігадрукаванне. Канон помнікаў рэлігійнага зместу быў вельмі вузкім: можна назваць толькі жыційную літаратуру і, скажам, “Домострой” або “Измарагд”. Практычна, пасля Генадзьеўскай Бібліі і маскоўскіх старадрукаў Івана Фёдарава, не пашыралася Святое Пісанне. Перапынак быў і, скажам, у распаўсюдзе традыцыі памінання памерлых, гэта значыць, не ствараліся царкоўныя памінальнікі. Адсутнічае такі жанр рэлігійнай літаратуры, як надмагільныя або жалосныя казанні. Рэлігійнае жыццё замкнулася ў аддаленых манастырах. З расійскіх сінодзікаў вынікае ўяўленне аб так званым “эсхаталагічным аптымізме”, які трактуецца як адсутнасць страху смерці, характэрнага для заходняй лацінскай традыцыі. Прааналізаваныя пазнейшыя расійскія служэбнікі фіксуюць нізкі маральны стан вернікаў: напрыклад, за распусту жанчын святары пры споведзі накладвалі досыць ліберальныя пакаранні, што таксама адрознівае іх традыцыю ад еўрапейскай.

Усё гэта прысутнічала ў кіеварускім хрысціянстве, якое, на маю думку, напярэдадні Берасцейскай уніі ўзнялося на высокі ўзровень свайго ўнутранага развіцця. Яно адрознівалася, перш за ўсё, масавай евангелізацыяй вернікаў з-за распаўсюджвання біблейскіх тэкстаў шляхам іх перапіскі і друку. Тэксты, як вядома, друкаваліся ў Вільні, Заблудаве, Львове і Астрогу, а Астрожская Біблія ўзняла нашу традыцыю на ўзровень цывілізаванай Еўропы. Нагадаю, што толькі ў двух гарадах у XVI стагоддзі быў надрукаваны поўны тэкст Бібліі: у Берасці ў 1563 годзе і ў Астрогу ў 1581 годзе. Адукацыя існавала ў выглядзе парафіяльных школ, школ крыху вышэйшага тыпу пры епіскапскіх кафедрах, у брацкіх школах яшчэ больш высокага ўзроўню, а Астрожская акадэмія была фактычна першай навучальнай установай Усходняй Еўропы ўзроўню еўрапейскіх калегій. Аб бурным развіцці палемічнай літаратуры казаць наогул не прыходзіцца – гэта ўсім вядома. Новую рэлігійную культуру ўкаранялі ў жыццё царкоўныя брацтвы.

Наступны параўнальны зрэз адносіцца да параўнання нашай рэлігійнай культуры з рымска-каталіцкай. Знаходзячыся ў складзе каталіцкай і пратэстанцкай дзяржавы

Рэч Паспалітая, праваслаўная культура Кіеўскай мітраполіі зведала дабратворнае ўздзеянне з боку гэтых культур. У мінулым казалі, амаль без выключэння, пра каталіцкую рэлігійна-культурную экспансію. Цяпер трэба казаць пра іншы бок гэтага пытання. Ва ўкраінскай літаратуры з часу абвяшчэння незалежнасці пачалі пазіцыянаваць культуру Украіны ў еўрапейскім вымярэнні. Аднак цікавым з'яўляецца адсочванне шляхоў трансляцыі еўрапейскай культуры ў праваслаўнае асяроддзе. Гэтых уплываў неверагодна шмат: ужо ў рукапісных павучальных Евангеллях распаўсюджваюцца пропаведзі пратэстанта Мікалая Рэя, Берасцейскую Біблію пратэстантаў перакладаюць на царкоўна-славянскую і простую мову (прыклад – Крэхаўскі апостал), старадрукаванае Евангелле Васіля Цяпінскага (датуецца не пазней 1580 года) з'яўляецца перакладам Новага Запавету Сымона Буднага (1570), рукапісны Новы Запавет валыняніна В. Негалеўскага, створаны ў 1581 годзе, з'яўляецца перакладам Новага Запавету М. Чаховіча, знакамітае Перасопніцкае Евангелле, на якім прымаюць клятву ўкраінскія прэзідэнты, было перакладзена з Новага Запавету Секлюцыяна.

Звярнуўшыся да пераасэнсавання брацкага руху ў XVI стагоддзі, я выявіў значны ўплыў рымска-каталіцкай рэлігійнай традыцыі, які адбіўся ўжо на тэкстах брацкіх статутаў. Брацтвы ў Польшчы паўсталі раней, мы адставалі. У нас у 1586 годзе з'яўляецца ранні стаўрапігіяльны статут Львоўскага брацтва. Калісьці ішла вялікая дыскусія, ці на практыцы брацтваў не адбілася пратэстанцкая традыцыя незалежнасці ад улады епіскапа і выбарнасці брацкага святара. Як атрымалася высветліць, святароў прыходу выбіралі і раней. Але, як гэта ні выглядае парадаксальна, брацкіх святароў выбіралі і рыма-каталікі. Нагул, структура статута нашых брацтваў вельмі нагадвае структуру каталіцкіх статутаў.

Тут уплыў відавочны. Маскоўская ж рэлігійная культура развівалася ў стане поўнай ізаляцыі ад Захаду. Такім чынам, адзіная праваслаўная прастора ў XVI – пачатку XVII стагодзях – гэта міф расійскай гістарыяграфіі.

Іншае кола дыскусійных пытанняў ляжыць у плоскасці ўяўленняў аб агульным становішчы праваслаўя. Тут яно зводзіцца да дылемы: быў ці не быў крызіс у XVI стагоддзі? Сучасныя спрэчкі маюць ўнутраны характар, яны зводзяцца да пазіцыі Б. Гудзязка, які ў сваёй манаграфіі “Крызіс і Рэформа” вывеў канцэпцыю татальнага крызісу. Я лічу, што татальнага крызісу не было, можна толькі казаць пра асобныя праявы крызісу. Думаю, у святле прыведзеных фактаў параўнання Кіеўскай мітраполіі з Маскоўскай, пытанне пра крызіс рускай царквы набывае зусім іншае адценне.

Дыскусійным з'яўляецца пытанне пра ролю брацкай рэформы ў генезісе уніі. Пытанне падняў Міхаіл Дзмітрыеў, які лічыць, што брацтвы зрабілі спробу рэвалюцыі ў царкве, паколькі яны хацелі захапіць уладу. Такія факты сапраўды ёсць, аднак

абсалютызаваць іх не варта. Брацкую рэформу царквы варта разглядаць у кантэксце іншых праграм рэформаў: астрожскай, епіскапату і інш.

Яшчэ адно дыскусійнае пытанне, якое я сфармуляваў у апошні час, тычыцца ролі фларэнтыйскага фактару ў генезісе уніі. Як вядома, уніяцкія і каталіцкія лідары апелявалі да фларэнтыйскага адзінства. Аднак уласна ў дакументах Берасцейскага сабора праблема ўжо не акцэнтуецца, яна лічылася вырашанай. Што зрабілі праваслаўныя? Для таго, каб разбурыць фларэнтыйскую аргументацыю, яны апублікавалі ў Астрогу палемічны твор "Гісторыя Лістрыкійскага сабора" (аўтар – Клірык Астрожскі), перапоўненую апакрыфічнымі сведчаннямі пра Ферара-Фларэнтыйскі сабор. Я лічу гэтую акцыю свядомай: заявіўшы аб тым, што Фларэнтыйская унія была заключана падступным шляхам, праваслаўныя сфармавалі думку праваслаўных, свядомасць якіх не змаглі пазней змяніць аргументы ўніятаў.

Дыскусіі ў мінулым ішлі і вакол пытання пра Берасцейскую унію як уніяцкую інтрыгу. Я вывучаў згаданае пытанне, асабліва паставіўшы яго ў крыніцазнаўчай плоскасці. Нагадаю, што гаворка ідзе пра справу фальсіфікацыі ўніятамі мамрам (бланкет) з подпісамі і пячаткамі ўладароў. Справа зводзілася да таго, што нібыта двойчы, ў 1590 і 1594 гадах, луцкі епіскап Кірыла Цярлецкі сфальсіфікаваў бланкеты, упісаўшы ў іх уніяцкія патрабаванні (бланкеты былі яму прадастаўлены для іншых мэтаў – для запісу патрабаванняў да польскага караля па выпраўленні становішча царквы). Ініцыятарам справы афіцыйна стаў Гедэон Балабан, які 1 ліпеня 1595 года ўнёс ва ўладзімірскія гродскія кнігі пратэстацыю з абвінавачваннямі К. Цярлецкага.

Справай сфальсіфікаваных мамрам актыўна займалася гістарыяграфія XIX стагоддзя. Грунтуючыся пераважна на паказаннях летапісаў і палемічнай літаратуры, даследчыкі праваслаўнай арыентацыі вырашалі яе на карысць праваслаўных, не сумняваючыся ў тым, што унія была выкліканая польска-езуіцкімі інтрыгамі. Цікавыя аргументы высунуў напрыканцы XIX стагоддзя А. Прахазка. Апублікаваўшы пратэстацыю М. Капісценскага, ён высветліў амаль ідэнтычнае яе падабенства з пратэстацыяй Г. Балабана.

У крыніцах – актавых і палемічных, а таксама ў навуковай літаратуры справа аб падробцы дакументаў уніі названая "справай мамрам". У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве мне ўдалося пазнаёміцца з чыстай мамрамаю, апісанай яшчэ С. Рункевічам. Яна мае пяць пячатак і подпісаў епіскапаў: Мялеція Хрэбтовіча, Кірылы Цярлецкага, Арсенія Брылінскага, Гедэона Балабана і Дыянісія Збіруйскага. Відавочна, гэта ўсё ж такі не адна з тых мамрам, якія згадваюцца ў пратэстацыі Г. Балабана. Наогул, сапраўднасць дакумента не выклікае ніякіх сумневаў. Відавочна, подпісы ставіліся ў розны час.

Разглядаючы абвінавачванні Г. Балабана датычна фальсіфікацыі канкрэтных дакументаў, першым дакументам з'яўляецца грамата ад 24 чэрвеня 1590 года, таемна вы-

дадзеная чатырма ўдзельнікамі Берасцейкага сабора, якая лічыцца першай уніяцкай дэкларацыяй епіскапату рускай царквы. Гэта грамата чатырох епіскапаў.

У літаратуры па гісторыі вывучаемага пытання разгляд граматы як аб'екта падробкі практычна не праводзіўся, паколькі арыгінала граматы даследчыкі ніколі не бачылі. Мне пашанцавала знайсці арыгінал граматы, які захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў фондзе рукапісаў Сінода. Ніякіх сумненняў у сапраўднасці дакумента не ўзнікае. Дакумент заканчваецца вядомай фразай з датай: года 1590 месяца чэрвеня 24. Дата, такім чынам, пастаўлена кірыліцай, а не арабскімі лічбамі, як гэта сцвярджалася ва ўсіх папярэдніх публікацыях.

Цікавая асаблівасць крыніцы заключаецца ў адрозненнях самога тэксту ад подпісаў: тэкст выразны, чорны, подпісы – удвая бляднейшыя, колер чарнілаў не вызначаецца. Няма сумневу, што тэкст быў ўпісаны пасля прастаўлення подпісаў, магчыма, праз год, у 1591 годзе.

Такім чынам, ні прадастаўленне епіскапамі К. Цярлецкаму чыстых мамрам, ні ўпісанасць да іх пазней тэксту ўніяцкай дэкларацыі, датаванай 1590 годам, не выклікаюць цяпер ніякіх сумневаў. Хоць, вядома, гэта яшчэ не з'яўляецца канчатковым доказам фальсіфікацыі ўніяцкага дакумента.

Абвінавачанні ў падробцы дакумента Сакальскага з'езда ў чэрвені 1594 года змешчаны ў пратэстацыях Г. Балабана і М. Капісценскага. Аднак немагчыма правесці крыніцазнаўчы аналіз згаданага дакумента Сакальскога з'езда, датаванага 27 чэрвеня 1594 года, па аналогіі з граматай чатырох епіскапаў, паколькі ён не захаваўся. Думаю, што гаворка ідзе, хутчэй, пра дакумент, вядомы як Торчынская дэкларацыя 2 снежня 1594 года. Да яе былі, верагодна, далучаны артыкулы, якія Грушэўскі атаясамліваў з сакальскімі.

Высвятляючы праблему ініцыятара абвінавачання ў фальсіфікацыі, даследчыкі лічаць, што гэта, несумненна, львоўскі епіскап Г. Балабан. На самой справе, відавочна, ініцыяваў яго князь К. Астрожскі, лідар праваслаўнай апазіцыі.

У той жа час, не выключана магчымасць таго, што і ўніяцкая партыя, якая сфармавалася ў асноўным у канцы 1594 – у першай палове 1595 гадоў, звярталася да інтрыг, паколькі добра вядома, што ёй доўга не ўдавалася сабраць подпісы пад ўніяцкімі дакументамі.

Галоўным доказам перамогі ўніяцкай партыі над праваслаўнай апазіцыяй з'яўляецца тое, што асноўныя дакументы уніі ўрэшце былі падпісаныя епіскапамі і мітрапалітам і прадстаўлены каралю і Папе Рымскаму. Таму, відавочна, справа мамрам не разглядалася на Берасцейскім саборы 1596 года. Затое там была ініцыявана іншая інтрыга (на гэты раз уніяцкакаталіцкім лагерам) – аб шпіянажы протасінкела Нікіфара, старшыні праваслаўнага "антысабора". Пытанне ў літаратуры высветлена, яго арышт і абвінавачанне мелі заказны характар.

Прыведзены прыклад характарызуе схільнасць абедзвюх партый – праваслаўнай і ўніяцкай – да інтрыг,

якімі была напоўнена тагачаснае рэлігійнае і свецкае жыццё.

Ці не самай складанай праблемай гісторыі уніі з’яўляецца пытанне правамоцнасці Берасцейскіх сабораў у кастрычніку 1596 года (уніяцкага і праваслаўнага, так званага "антысабора"). Сур'ёзныя аргументы на гэты конт былі прадстаўлены абодвума бакамі ўжо ў першыя пасляберасцейскія гады. Уніяты спасылаліся на кананічны аўтарытэт мітрапаліта, які ўзначальваў сабор, і састарэласьць прэрагатыў патрыяршага экзарха Нічыпара, кіраўніка антысабора, які не меў, дарэчы, духоўнага звання. Актуальнымі, на нашу думку, застаюцца высновы М. Грушэўскага, які паказваў, што пасля зацвярджэння рашэнняў антысабора Канстанцінопальскім патрыярхам *“усякія сумневы ў правамоцнасці пастаноў Берасцейскага праваслаўнага сабора павінны былі знікнуць”.* У іншай працы даследчык удакладняе, што сабор праваслаўных быў кананічным з праваслаўнага кананічнага гледзішча, і гэта ніяк не хацеў прызнаваць ўніяцкі бок. Цікава, што М. Грушэўскі не аспрэчваў і аргументаў на карысць правамоцнасці ўніяцкага сабора на падставе таго, што ўніяцкая партыя адстойвала пазіцыю, згодна з якой пераход пад заступніцтва Рыма адносіцца да кампетэнцыі мітрапольнага сінода, без удзелу міран. Акрамя таго, гісторык сцвярджаў, што заключэнне уніі, улічваючы дзяржаўную падтрымку Рэчы Паспалітай, з'яўляецца “дзяржаўна” правамоцным, маючы на ўвазе легітымацыю яе ўрадам і заканадаўствам Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое, што ўніяцкая царква пасля сабора была, у адрозненне ад праваслаўнай, царквой “легальнай, афіцыйнай”, прывілеяванай яна не стала, так як абяцанага ўраўнавання з каталіцкай так і не дасягнула. Пратэкцыя польскага ўрада распаўсюджвалася толькі на сферу яе барацьбы супраць праваслаўных. Таму М. Грушэўскі вызначае юрысдыкцыйны статус уніяцкай царквы, як царквы "паўпрывілеяванай".

Нарэшце, пра пошукі новых крыніц. У маім партфелі ёсць шмат невядомых або малавядомых дакументальных сведчанняў. Гаворка ідзе таксама і пра палемічныя творы Берасцейскага цыкла.

Існаванне асобнага палемічнага твора Іпація Пацея пра Берасцейскі сабор геніяльна прадказаў яшчэ ў 1934 годе расійскі знаўца беларуска-ўкраінскай палемічнай культуры Іван Яромін (артыкул 1934 года), які даказваў яго існаванне на падставе тэксталогіі твораў Івана Вышэнскага. Аднак І. Яромін лічыў, што ні адзін асобнік твора не захаваўся.

Выяўленне рэдкага старадрукаванага экзэмпляра з палемічным творам Іпація Пацея пра Берасцейскі сабор належыць расійскай даследчыцы А. Зярновай (1959 год). Аднак у навуковы ўжытак твор ўвялі сучасныя беларускія даследчыкі літаратуры і кніжнай культуры Генадзь Галенчанка і Іван Саверчанка. У прыватнасці, Г. Галенченка належыць гонар атрыбуцыі тэкста Іпацію Пацею, з чым нельга не пагадзіцца.

Узгаданы рэдкі (і да гэтага часу адзіны) асобнік твора захоўваецца ў зборы Бібліятэкі РАН у Санкт-Пецярбургу. Гэта цалкам захаваны асоб-

нік, без ўказання аўтара. Яго назва: "Справедливое описанье поступку, и справы сынодовое, и оборона згоды и единости съвершенное. Которая-се стала на сыноде берестейскомъ. В року, 1596, напротив явного фальшу и потвары синоду якогось змышленного а радшей съборища покутного геретыческого в дому прыкатъномъ геретыческом отправованого через одного зъ преложоныхъ духовныхъ церкви руское".

Твор Іпація Пацея не структураваны на раздзелы, аднак у ім можна вылучыць некалькі тэматычных блокаў. Першы тычыцца аргументаў у абарону уніі (на думку аўтара, усе, хто падтрымлівае згоду цэркваў, з'яўляюцца вучнямі Хрыста), з крытыкай закідаў праваслаўных (усе праціўнікі уніі – сыны д'ябла і ерэтыкоў). Наогул, Іпацій Пацей фармулюе пяць абвінавачванняў праваслаўных у адрас уніі, якія ён лічыць "кламствамі". Ён склаў рэестр выдумак праваслаўных. Такім чынам, праваслаўныя сцвярджалі, што унія з'яўляецца новай рэччу, пра якую ніколі не было чуваць; адзінствам цэркваў ламаюцца хрысціянскія правы і вольнасці; русінаў прымушаюць да іншай веры супраць іх уласнай волі; усе цырымоніі ўсходняй царквы будуць заменены на рымскія звычаі; больш слушным быў праваслаўны сабор, аднак ён мае рэпутацыю "выдуманага".

Аргументацыя, прыведзеная Іпаціем Пацеем на абарону уніі, мае гістарычна-прававое, багаслоўскае, грамадска-палітычнае і сацыяльнае вымярэнні. Зрэшты, беларускія гісторыкі працытавалі частку твора і прааналізавалі яго змест. Я ж звярну ўвагу на іншае. Праблему царквы і рускага народа Іпацій Пацей бачыць у нядбаласці самой Русі і яе духавенства, якія не змаглі скарыстацца прадстаўленымі вольнасцямі (фларэнтыйская традыцыя была занядбаная ў XVI стагоддзі). Адсюль вядомы аргумент уніяцкай партыі: мы нічога новага не ствараем, а проста вяртаемся да вядомай рэлігійна-прававой сітуацыі і традыцыі.

Традыцыйна для пасляберасцейскага перыяду Іпацій Пацей не згаджаецца з пазіцыяй патрона праваслаўных князя Васіля-Канстанціна Астрожскага. Каб выкрыць яго непаслядоўнасць, ён згадвае перамовы князя з папскім легатам Антоніё Пасевіна. У згаданым сюжэце ёсць сенсацыйнае паведамленне пра тое, што нібыта князь ездзіў на перамовы з Папаю ў Рым, што практычна не пацвярджаецца ніводнай іншай крыніцай. Ёсць і іншыя цікавыя дэталі, у прыватнасці, аб апошняй асабістай сустрэчы Іпація Пацея з В.-К. Астрожскім у Любліне ў 1595 годзе.

Важнейшы сюжэт тычыцца цікавых і адначасова вельмі важных дэталяў ходу Берасцейскіх сабораў у кастрычніку 1596 года. Так, напрыклад, Іпацій Пацей кажа, што паміж уніяцкім епіскапатам былі нейкія нязгоды (***посварки***), епіскапы мелі скаргі да мітрапаліта Міхаіла Рагозы (відавочна, адзін на аднаго). Але мітрапаліт сілай сваёй улады іх пагасіў.

Далей аўтар аспрэчвае розныя плёткі праваслаўных, якія нават сцвярджалі, што ў пачатку сабора ў Берасці мітрапаліт Міхаіл Рагоза быў у такім адчаі, што хацеў уцячы да праваслаўных, але ўладзімірскі ўла-

дыка (гэта значыць Іпацій Пацей) яго спыніў. Гэтую і іншыя плёткі аўтар адхіліў як сфальсіфікаваныя, але на адной вырашыў спыніцца падрабязна.

Гаворка ішла пра чуткі, што нібыта на ўніяцкім саборы, які, як вядома, праходзіў у сабornай царкве Св. Мікалая ў Берасці, уладзімірскі ўладыка падмяніў вопратку і алтарныя рэчы на "папежскія строі", зрынуў з прастолу антымінс і замяніў яго на нейкі камень, затым упусціў у царкву езуітаў і аднаму з іх даручыў адпраўляць літургію. У адказ адбыўся "цуд Божы": у куфлі віно ператварылася ў ваду, езуіт, спалохаўшыся, адскочыў ад прастолу. Зразумела, усе прысутныя перапалохаліся да смерці.

По абвінавачванні ў падмене антымінса і адзення, аўтар узгадаў, што ў Рыме Папа падараваў "пакроў" для ўладзімірскай царквы, а для ўладыкі (зноў жа, Іпація Пацея) – сакос з архіепіскапскім галаўным уборам, што пацвярджаецца папскім лістом, на памяць аб знаходжанні ў Рыме. Як прысутны пры падзеі, якая выклікала неадэкватную рэакцыю праваслаўных, аўтар вырашыў сказаць праўду пра іншыя важныя дэталі апісанага "цуду". Што ж адбылося на самай справе?

Аўтар успамінае, што Папа Рымскі, які прымаў рускую дэлегацыю ў Рыме, здзейсніў некалькі іншых дабрачынных учынкаў: напрыклад, ён за свой кошт зафундаваў рускі калегіум або семінарыю на некалькі дзесяткаў чалавек, для навучання рускіх дзяцей славянскай і грэцкай мове, святому пісьму, парадку і справам царкоўным для падрыхтоўкі ў перспектыве адукаванага святарства. Па просьбе ўладароў, для рэалізацыі задумы на Русь быў адпраўлены грэк Пётр Аркудзі, выкладчык рымскага калегіума Св. Афанасія.

Дык вось, на згаданай літургіі падчас Берасцейскага сабора, Пётр Аркудзі прыслужваў, а яго невядомы таварыш, таксама грэк, рыхтаваў агнец і прасфору, але памыліўся. Трэба было ў дзве аднолькавыя срэбныя пасудзіны наліць віно і ваду, якія затым змешваліся, але па памылцы замест віна ў абедзве было наліта вада. Падчас еўхарыстыі высветлілася, што гэта вада, а не віно. Уладыка, які адпраўляў на саборы, хутка выправіў памылку, узяў іншую "кановачку" з віном, дадаў віна з яе ў ваду і здзейсніў еўхарыстыю віном.

У доказ таго, што адбылося звычайная памылка, а не "цуд", аўтар прывёў прыклады такіх псеўдацудаў, якія часта здараюцца ў практыцы рускай царквы. Так, часам падчас літургіі пераварочваўся келіх, замест віна святар наліваў воцат, або алей. Нават аднаму "зацнаму" кардыналу клерык наліў замест віна алей для каганца. Часам у келіх падаў які-небудзь чарвяк або павук, альбо мыш скрадала агнец з дыскаса. Ні ў якім разе такія прыгоды, якія часта здараліся з рускімі святарамі, нельга называць цудамі.

На практыцы траплялiся і вялікія "цуды". Так, у рускіх "пасольскіх" цэрквах або малых мястэчках, адкуль было далёка пасылаць за віном, рускі поп захоўваў цэлы год кружку віна, да заплеснявення і ператварэння ў воцат, таму звычайна карысталіся падфарбаванай вадой, з выкарыстаннем кіслага яблычнага соку. Вось гэта – сапраўдны цуд, рэзюмаваў палеміст.

Далей Іпацій Пацей пераакцэнтаваў праблему з царквы Св. Мікалая, дзе адбываліся паседжанні ўніяцкага сабора, на памяшканне, у якім адбыліся пасяджэнні праваслаўнага сабора. Паколькі гэта быў дом ерэтыка (яго імя аўтар не ведае, у літаратуры добра вядома, што гэта быў дом мясцовага ўрадніка Малхера Райскага, пратэстанта), то на падставе царкоўных канонаў ён выбудоўваў доказы некананічнасці праваслаўнага сабора. Гэтаму аспекту прысвечана канцоўка твора. Прычым палеміст паказвае на тое, што побач у Берасці было дастаткова рускіх цэркваў, але іх чамусьці праігнаравалі праваслаўныя. Нагадаю, што ў праваслаўнай палемічнай літаратуры распаўсюджвалася альтэрнатыўнае ўяўленне пра тое, што згаданыя цэрквы былі раніцай спецыяльна зачыненыя.

У далейшым аўтар прыводзіць вядомыя ў палемічнай літаратуры закіды ўніяцкага боку сабору праваслаўных: протасінкел Нічыпар, прадстаўнік Канстанцінопальскага патрыярха – здраднік; сабор праводзіўся ў коле арыян і новаахрышчаных; праваслаўныя маглі з такім жа поспехам сабрацца ў іудзейскай школе і інш. Адначасна нагадаю, што ў актавых крыніцах па гісторыі сабора захаваліся сведчанні толькі пра не больш чым чатыры-пяць пратэстанцкіх дэлегатаў, якія ўдзельнічалі ў пасяджэннях свецкага круга. Гэта, дарэчы, таксама дыскусійнае пытанне, якое звязана з пратэстанцкай пагрозай рускай царкве.

Заканчваецца твор пахвалой у адрас езуітаў, якія былі больш вучонымі і не менш хрысціянамі, чым грэчаскія (гэта значыць праваслаўныя) папы і ўладыкі. У той жа час, аўтар звяртаецца з заклікамі да прыхільнікаў праваслаўя не падтрымліваць сувязяў з ерэтыкамі і не верыць расповедам і “баламутням” пра “праваслаўных каталікоў”.

Падсумоўваючы, прыходзім да высновы, што тэма Берасцейскай уніі працягвае захоўваць цэлы шэраг дыскусійных праблем, якія патрабуюць вырашэння.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 22-23, 2014-2015

Алексей Мартынюк

# Бернхард Притвиц: «немецкий казак» на степной границе Короны и Княжества в XVI веке

Бернхард Притвиц (*Bernhard Prittwitz*), староста подольского города Бара (1540–1552) и организатор обороны южных рубежей Речи Посполитой от татар, оставил яркий след в истории. Современники дали Притвицу почетные прозвища *Terror Tartarorum* («Ужас татар») и *Murus Podoliae* («Стена Подолии»). Польский хронист XVI века Мартин Бельский писал, что Бернхард Притвиц заслуживает того, чтобы о его деяниях с благодарностью вспоминали все поляки (Bielski, 1856: 1085). И действительно, память о барском старосте сохранялась долго – в трудах классика украинской историографии Михаила Грушевского приведен отрывок народной песни, прославляющей его доблести:

*«За пана Претвица*
*Вольна от татар граница»*
(Грушевьский, 1909: 95).

К сожалению, многогранная деятельность Бернхарда Притвица оказалась разнесена в современной историографии по «разным ведомствам». Украинская историография знает его как защитника границы от татарских набегов и одного из организаторов казачества; польская историография видит в нем фаворита королевы Боны и автора меморандума 1550 года; для немецкой историографии он остается, прежде всего, «немцем на Востоке» и автором писем к герцогу Альбрехту Прусскому (см.: Forstreuter, 1955: 40–42; Rhode, 1972: 121–133). Практически неизвестен Бернхард Притвиц российской, беларусской и литовской историографии, хотя его деятельность играла огромную роль для обеспечения безопасности и южной границы Великого Княжества Литовского. При этом неустойчивое написание фамилии в источниках и исторической литературе (*Pretficz, Pretwicz, Претвич* и так далее) вызывает опасения, что образ Притвица окажется «размыт» – и не всякий читатель узнает в украинском *«воеводе Претвиче»* служилого немца по имени *Bernhard Prittwitz*. Все это делает необходимым, на наш взгляд, подготовку очерка, который сводит воедино основную информацию о жизни и деятельности Бернхарда Притвица.

Необходимо сказать несколько слов о предках и потомках героя нашего очерка. Бернхард фон Притвиц происходил из старого силезского рода, известного с XIII века. Род

Притвицев принадлежал к так называемым «братьям Вальштатта» (нем.: Vettern von Wahlstatt): шести знатным рыцарским фамилиям Силезии, в каждой из которых, по легенде, лишь один мужчина пережил битву с монголами при Легнице 9 апреля 1241 года. Бернхард Приттвиц, *Terror Tartarorum*, имел, таким образом, наследственные счеты с татарами. Сам Бернхард Притвиц отдал свою саблю на службу Польскому Королевству, а его сын Якуб в 1607 году стал воеводой подольским и вошел, таким образом, в состав польской знати.

Точная дата рождения Бернхарда Притвица неизвестна, вероятно, он родился около 1500 года. Возможно, уже его отец Петер находился на польской службе. Позднейшие семейные легенды даже приписывали ему любовную связь с польской королевой Боной Сфорца. По-видимому, Притвицы принадлежали к той силезской знати, которая последовала за своим сюзереном – Сигизмундом, князем Глогау и Оппельна – после избрания его в 1506 году великим князем литовским и польским королем. Первые документальные известия о Бернхарде Притвице застают его в 1526 году в Чехии, выполняющим дипломатическую миссию королевы Боны (Rhode, 1972: 130). Миссия не принесла успеха, однако она закрепила связь Притвицев с королевой, которая и в дальнейшем выступала покровительницей этого рода. В 1531–1535 годах Притвиц служит *товарищем* в роте Николая Синявского, впоследствии польного гетмана и воеводы белзского. В 1537 году он уже выступает в качестве ротмистра самостоятельного отряда. Его служба была по достоинству оценена королевой Боной, которая пожаловала ему ряд владений на Волыни и в Подолии, а в 1540 году доверила ему должность старосты Бара – города, который принадлежал к ее личным владениям (подробнее о биографии Притвица см.: Tomczak, 1960).

Бернхард Приттвиц стал фактическим основателем Бара, возникшего рядом со старым поселением под названием Ров (свое новое город получил в честь города Бари в Апулии, родового владения королевы Боны). Притвиц завершил строительство замка и создал в окрестностях города целую систему небольших укреплений, в которых разместил своих людей. На протяжении более чем десяти лет (1540–1552) Притвиц оставался на переднем крае пограничной борьбы с татарами. Бар занимал важное стратегическое положение на юго-востоке Польского Королевства и находился на одном из *шляхов* (Кучманском), по которым татары – крымские, белгородские, буджакские и другие – совершали набеги на внутренние земли Короны и Княжества.

Располагая сравнительно небольшими силами (от ста до двухсот человек, получавших официальное жалование от Короны, и, вероятно, несколько большим количеством вольных казаков, см.: Tomczak, 1960: 330), Притвиц сумел создать эффективную систему обороны границы. Интересно отметить, что, согласно источникам, ядро отряда Приттвица составляли *черемисы* (историческое наименование марийцев). Были ли это действительно выходцы с Волги

или здесь имеет место перенос названия, подобно другому, более известному названию казаков – *черкасы*? Как бы то ни было, барский староста и его черемисы находились у самых истоков украинского казачества. Деятельность Бернхарда Притвица необходимо рассматривать в широком контексте истории степного *фронтира* Восточной Европы в XVI веке: его имя стоит в одном ряду с именами лихих пограничных командиров Речи Посполитой и России, таких как Константин Острожский, Евстафий Дашкович, Дмитрий Байда-Вишневецкий, Алексей Басманов, Михаил Воротынский и многие другие.[1] Новация барского старосты заключалась в том, что он перенес борьбу с татарами далеко в «поле»: отряд Притвица не ограничивался отражением татарских нападений, но и совершал глубокие рейды – под Перекоп, Очаков, Белгород-Днестровский. История показала, что «система Притвица» оказалось более эффективной, чем «система Острожского» – победы над татарами в полевых сражениях в начале XVI века прославили гетмана ВКЛ и его войско, но не принесли долговременного эффекта.

Этой степной войне нисколько не мешало то обстоятельство, что между Польским Королевством и Великим Княжеством Литовским с одной стороны и Османской империей и Крымским ханством с другой в это время формально существовали мирные отношения. Турки и татары видели в Притвице одного из своих главных противников.[2] В 1550 году войска молдавского господаря Ильи II Рареша (вассала турецкого султана) при поддержке турецких янычар предприняли осаду Бара, которую Притвиц успешно отразил. Война велась с обоюдным ожесточением, и ее жертвами часто становилось мирное население. Не сумев покончить с барским старостой с помощью военной силы, турецкое правительство засыпало Краков жалобами на Притвица, обвиняя его в грабежах и убийствах турецких купцов. Есть основания полагать, что далеко не все эти обвинения были беспочвенными, и барский староста не ограничивался обороной границ, но и сам неоднократно выступал инициатором набегов на турецкие владения (Український степовий кордон, 1997: 10–14).

Именно эти обвинения и привели к созданию известного «Меморандума» (или «Апологии») Притвица, который был зачитан на заседании Сената в Кракове 14 декабря 1550 года.[3] Текст трактата (не оригинал Притвица, а современная ему копия) сохранился в Главном архиве древних актов в Варшаве (AGAD). Трактат состоит из двух частей: в первой говорится об общей ситуации на степной границе и истории станов-

1 См. биографический очерк автора данных строк, посвященный трем «лихим людям» Московского государства: Мартынюк, 2008.

2 Польско-турецкие взаимоотношения в 1548–1553 годы и роль в них Притвица подробно рассмотрены в публикации А. Томчака: Tomczak, 1958.

3 Текст опубликован: Tomczak, 1960; перевод и публикация на украинском языке: Український степовий кордон, 1997.

ления системы пограничной обороны, во второй части перечислены походы и набеги самого Притвица. Историческая ценность этого меморандума – в широкой картине борьбы на степной границе, написанной очевидцем и участником событий.

Многие сведения меморандума уникальны: таковы сведения по истории Подолии, о татарских нападениях на южные регионы Великого Княжества Литовского (Притвиц неоднократно подчеркивает, что он защищает не только границы Короны, но и Княжества), информация об организации татарских набегов (Притвиц вскрывает «экономику и логистику» набегов: турки из Очакова и других городов предоставляли татарам лошадей под условием получения части добычи), имена «полевых командиров» – участников этой пограничной войны с обеих сторон и так далее. Король Сигизмунд II Август оказался в сложном положении: он не хотел терять деятельного и заслуженного пограничного командира, но и не был готов рисковать серьезным конфликтом с турками и татарами. В конце концов, король принял компромиссное решение и перевел Притвица в 1552 году на должность старосты города Трембовля (Теребовля), расположенного несколько дальше от границы. Здесь Бернхард Притвиц оставался до своей смерти в 1561 году.

Деятельность Притвица не ограничивалась «летучей войной» с татарами. Как уже упоминалось выше, не прерывались связи Притвица с Германией. Сам Бернхард перешел в протестантизм и проявлял живое участие к религиозным конфликтам в Священной Римской империи. В 1547 году он предлагал свои услуги для «похода в Империю» (*zug ins reich*) на стороне протестантского Шмалькальденского союза. Притвиц обещал выставить в этом случае 12 000 воинов – эта цифра позволяет представить, как оценивал Притвиц возможности пополнения своего отряда вольными казаками (напомним, что на постоянном жаловании он держал от 100 до 200 человек). Основным партнером Притвица был герцог Альбрехт Прусский – яркая и противоречивая фигура раннего Нового времени. Герцог Альбрехт вынашивал честолюбивые политические планы, одним из которых был крестовый поход против турок (возможно, в крестовом походе он видел своеобразное искупление за проведенное им преобразование Тевтонского ордена в светское Прусское герцогство). В Притвице герцог Альбрехт нашел единомышленника и контрагента, который снабжал его информацией о положении дел не только на степной границе, но и в Стамбуле. Переписка между прусским герцогом и барским старостой была особенно активной в период с 1544 по 1556 год. На существование этой переписки и ее значение для изучения истории Восточной Европы обратил внимание немецкий исследователь Курт Форштройтер (Forstreuter, 1955: 40–42) – к сожалению, это указание не привлекло должного внимания исследователей. Лишь одно из этих писем (1547 года) было опубликовано немецким историком Готтхольдом Роде (Rhode, 1972). Письма являются ценным историческим источни-

